# КАНТАКТЫ І ДЫЯЛОГІ

ІНФАРМАЦЫЙНА-АНАЛІТЫЧНЫ І КУЛЬТУРАЛАГІЧНЫ БЮЛЕТЭНЬ
Грамадскага аб’яднання “Міжнародная асацыяцыя беларусістаў”
і Грамадскай арганізацыі “Беларускае таварыства
дружбы і культурнай сувязі з замежнымі краінамі”

## ЗМЕСТ



• № 11-12 (59-60) • ЛІСТАПАД-СНЕЖАНЬ • 2000 • МІНСК • БЕЛАРУСЬ

Заснавальнікі:
**Грамадскае аб'яднанне "Міжнародная асацыяцыя беларусістаў",
Грамадская арганізацыя "Беларускае таварыства дружбы
і культурнай сувязі з замежнымі краінамі"**



Адрас рэдакцыі:
**Рэспубліка Беларусь, 220050, Мінск,
вул. Рэвалюцыйная, 15, Камітэт ГА "МАБ"**

Тэлефон: **+375 (017) 220 76 04**
Факс: **+375 (017) 220 93 50**

E-mail:
**mab@lingvo.minsk.by**

Электронны варыянт у InterNet:
**http://www.lingvo.minsk.by**

*На першай старонцы вокладкі —*
**???
???
???**

Бюлетэнь выдаецца і высылаецца толькі тым сябрам ГА "МАБ", якія ўнеслі складкі.

Памер складак у месяц (з 2000 г.): у Беларусі — **500 рублёў**,
у краінах СНД — **2 USD**, Цэнтральнай Еўропы — **3 USD**,
Заходняй Еўропы, Азіі, на іншых кантынентах — **5 USD**.

Перыядычнасць выхаду — **1 нумар у месяц**.

Мовы выдання — беларуская, англійская і ў перспектыве — руская.

Паведамленні аб уплаце складак просім дасылаць на адрас рэдакцыі.

Складкі просім пераводзіць аднаму з заснавальнікаў бюлетэня —
**Камітэту ГА «Міжнародная асацыяцыя беларусістаў».**

Банкаўскія рахункі:
**рублёвы і валютны —
3015000005287 у Мінскім абласным упраўленні
АСБ "Беларусбанк" г. Мінска, код 807.**



*Уладзімір Галуза (Новасібірск)*

# ЧАТЫРЫ СТАГОДДЗІ ЎДЗЕЛУ БЕЛАРУСКАЙ ДЫЯСПАРЫ Ў ФАРМІРАВАННІ СОЦЫУМА СІБІРЫ

**Галуза Уладзімір Васільевіч** — кандыдат медыцынскіх навук, прэзідэнт Новасібірскай рэгіянальнай нацыянальна-культурнай аўтаноміі беларусаў. Аўтар многіх прац, прысвечаных беларускай дыяспары ў Сібіры. У аснове артыкула — даклад, прадстаўлены на III Міжнародны кангрэс беларусістаў.

Фарміраванне сучаснага сібірскага соцыума адбывалася на працягу больш за 400 гадоў [1]. Сярод сібірскіх навукоўцаў запанаваў погляд на далучэнне і асваенне Сібіры як на планетарны працэс распаўсюджвання еўрапейскай цывілізацыі, параўнальны з працэсам асваення Паўночнай Амерыкі. Асаблівасцю каланізацыі Сібіры з’явілася тое, што яна засялялася пераважна адной — славянскай этнічнай супольнасцю, уключаючы рускіх, украінцаў і беларусаў. Этнічнае адзінства не выключала спецыфічных для кожнага з гэтых народаў адрозненне ў сферы культуры, гаспадарчых традыцый і г. д. [2]. Раней намі быў адзначаны ўдзел беларусаў у асваенні Сібіры ў перыяд ад паходу Ермака да цяперашняга часу [3].

Масавае перасяленне беларускага насельніцтва ў Сібір у канцы XVI і на працягу XVII ст. было пераважна прымусовым, як вынік працяглых войнаў паміж Маскоўскай дзяржавай і Рэччу Паспалітай (РП) на тэрыторыі Вялікага Княства Літоўскага, у якім беларусы складалі большасць насельніцтва (“літва”). Палітыка царскага ўрада, накіраваная на замацаванне беларускага насельніцтва ў Сібіры, мела поспех як з-за этнічнай і моўнай блізкасці народаў, а ў адносінах да беларускай шляхты з-за падобнай прававой культуры дзяржаў. У гэты час прадстаўнікі беларускага народа ўнеслі свой ўклад у культурнае і гаспадарчае асваенне Сібіры. Яны прымалі актыўны ўдзел у будаўніцтве гарадоў і астрогаў Сібіры, закладвалі вёскі, узворвалі сібірскую зямлю. “Літва”-шляхта папаўняла эшалон вышэйшай улады вайсковай адміністрацыі, якая рабіла палітыку ў Сібіры. Паказальны прыклад дынастыі “служылай літвы” Аршынскіх. Родапачынальнік гэтай дынастыі Павел быў родам з-пад Оршы, з літоўскіх “вязняў”, і сасланы ў Табольск на службу ў чын “сына баярскага”. Ён удзельнічаў у будаўніцтве Цюмені (1586), у бітве з войскамі хана Кучума (1598). Сын Паўла Багдан быў адным з буйнейшых і ўплывовых персон ваенна-адміністрацыйнага апарату Табольска (1654). Даніла Данілавіч быў ваяводай Нерчынскага астрога (1670) і начальнікам усей Даўрыі, меў выгадныя зносіны з Кітаем. Іван Данілавіч быў табольскім стралецкім

галавой (1673), Сямён Іванавіч — галавой 1-га палка пешых казакоў (1707) у Табольску [4].

"Літвіны" сыгралі пэўную ролю ў культурным развіцці Сібіры. Яны з'явіліся насаджальнікамі тут першых парасткаў еўрапейскага грамадства, еўрапейскіх уяўленняў і формаў жыцця. Служылая "літва" адрознівалася найбольш высокай пісьменнасцю, для яе характэрна была пісьмовая перадача інфармацыі.

Адзін з паплечнікаў Ермака казак Чаркас Аляксандраў Корсак на рубяжы XVII ст. склаў т. зв. Пагодзінскі спіс Есіпаўскага летапісу. Менавіта з гэтага твора выйшлі ў сваёй большасці ўсе астатнія сібірскія летапісы, зарадзілася сібірская літаратура і гісторыя. Прозвішча казака Корсак паказвае на яго этнічнае паходжанне. Яно характэрна для полацкай шляхты.

Барысаўскі шляхціц Сцяпан Станкевіч быў сасланы ў Табольск у 1659 г. Ён з'явіўся аўтарам летапісу "Сібірская гісторыя", складзенага задоўга да летапісу С. Рэмізава, якога лічаць першым гісторыкам Сібіры.

Аршанскі шляхціц Адам Камінскі-Длужык, знаходзячыся ў Сібіры з 1659 г. каля 10 гадоў, напісаў свае ўспаміны аб доўгім падарожжы праз усю Сібір. Гэтыя ўспаміны з'яўляюцца самай першай крыніцай звестак па этнаграфіі народаў Сібіры.

У Сібіры ў 1701 г. служылых на казачай службе налічвалася 9 236 чал., з іх казакоў "літоўскага спіса" было 2 019 чал. (21,8%) [5]. У 1720 г. у складзе томскіх земляробаў, якіх было каля двух тысяч двароў, "літва" мела 5–6% усіх двароў. У 1724 г. царскі ўрад скасаваў дзяленне на шляхту-"літву" або "іншаземнага спіска" [6]. "Літва" цалкам злілася з рускім насельніцтвам, аднак яна дала мноства нашчадкаў, якія ў далейшым пераўтваралі Сібір. Так, нашчадкі літвіна з Беларусі Сцяпана Баркоўскага заснавалі ў Томску купецкую дынастыю ў канцы XVIII ст. Буйнейшую купецкую дынастыю Ліцвінцавых у Іркуцку заснавалі нашчадкі іркуцкага сына баярскага Сцяпана Ліцвіна [7].

У XVIII ст. царскі ўрад працягваў выкарыстоўваць ваеннапалонных з РП для фарміравання ў Сібіры вайсковых падраздяленняў. У 1744 г. у Табольску па рашэнню Сената былі сфарміраваны казацкія палкі са служылых людзей, у тым ліку і з палонных польскіх канфедэратаў. У 1747 г. з гэтых часцей сфарміравалі драгунскі полк і пяхотны батальён, якія ўрад адправіў на Сібірскую і Калыванскую лініі [8]. У 1763 г. для аховы паўднёвых межаў Сібіры было сфарміравана некалькі палкоў, у тым ліку і з пасадскіх людзей, выведзеных з РП [9]. У 1764 г. царскія войскі разарылі раён Веткі каля Гомеля і вывелі ў Сібір да дваццаці тысяч т. зв. "палякаў"-старавераў [10]. Пражыўшы сярод беларусаў каля ста гадоў, гэтыя староверы засвоілі многія рысы іхняй духоўнай і матэрыяльнай культуры, сталі часткай беларускага народа. Яны і сёння зберагаюць элементы беларускай мовы, беларускага фальклору, абрадаў і звычаяў [11].

Удзельнік паўстання ў Беларусі 1734 г. пінскі шляхціц Юзаф Копаць быў сасланы на Камчатку. Пасля вяртання на радзіму ён напісаў свае ўспаміны аб падарожжы па Сібіры, дзе ёсць этнаграфічныя звесткі аб некаторых народах



*Група новаібірскіх беларусаў. У цэнтры — аўтар артыкула*

Сібіры. Ён таксама склаў дзве рукапісныя карты, на якіх пазначана тэрыторыя ад Іркуцка да Аляскі [12].

У 1813 г. у Сібір саслалі больш за сотню польскіх палонных, якія ўдзельнічалі ў паходзе на Маскву. Вясной 1814 г. у Томску была раскрыта змова польскіх ваеннапалонных, якія знаходзіліся пад уплывам ідэй французскай рэвалюцыі. У 1810–1812 гг. губернатарам Томскай губерні быў ураджэнец Магілёва В. Марчанка, а ў 1854 г. табольскім губернатарам быў прызначаны В. Арцымовіч ураджэнец Беластока [13].

Вядомы ўплыў ссыльных дзекабрыстаў на культурнае жыццё Усходняй Сібіры ў 1826–1828 гг. Сярод іх былі ўраджэнцы Беларусі: Ф. Вадкоўскі (аўтар песні “Славянскія дзевы”), А. Вайніловіч, І. Гарбачэўскі (адзін з заснавальнікаў народнага вучылішча, публічнай бібліятэкі), І. Іваноў, А. Карніловіч, П. Муханаў (вядомы як літаратар і гісторык), М. Рукевіч (займаўся гаспадарчай дзейнасцю).

У пачатку XIX ст. у Сібір ссылаліся ўдзельнікі вызваленчага руху ў Беларусі і Польшчы. Сярод іх былі і ўраджэнцы Беларусі: А. Ажэшка (Арэшка), Ю. Бакшанскі (публіцыст), І. Высоцкі, М. Гаўрыленка, З. Далэнга-Хадакоўскі (славяназнавец, этнограф), А. Далеўскі, М. Лавіцкі (асветнік, публіцыст), Ю. Масальскі (пісьменнік), А. Петрашкевіч, Е. Фялінская (пісьменніца), А. Янушкевіч (пісьменнік, падарожнік), І. Ястржэмбскі (эканаміст). З. Далэнга-Хадакоўскі сабраў і апублікаваў звесткі пра насельніцтва гэтага краю, яго побыт, вусную народную творчасць, абрады, звычаі. Е. Фялінская апісала

паўстанне хантаў і ненцаў супраць царызму, побыт паўночных жыхароў, іхні фальклор.

На катаргу і пасяленне было адпраўлена з Беларусі 12 483 удзельніка паўстання 1863–1864 гг. [14]. Сярод іх былі ўраджэнцы Беларусі: грамадскія дзеячы — І. Агрызка (журналіст), А. Аскерка, Т. Булгак (мемуарыст), С. Грынеўскі (бацька пісьменніка А. Грына), К. Кастравіцкі (бацька беларускага пісьменніка К. Каганца), З. Мінейка (пазней стаў ганаровым грамадзянінам Грэцыі); вучоныя — М. Віткоўскі (палеантолаг, даследчык Сібіры), Б. Дыбоўскі (заолаг, урач, даследчык Сібіры), Ф. Зянковіч (даследчык Сібіры), М. Маркс (мемуарыст, даследчык Сібіры), З. Урублеўскі (фізік, педагог), І. Чэрскі (геолаг, палеантолаг, географ, даследчык Сібіры); урачы — Ф. Ажэшка (Арэшка), С. Горскі, Ц. Цэханоўскі; беларускія пісьменнікі — А. Абуховіч, Я. Вуль, А. Вярыга-Дарэўскі; мастакі — К. Альхімовіч, Ю. Беркман і інш.

На фарміраванне юнага сібірскага паэта Н. Амулеўскага (Фёдарава) моцны ўплыў зрабіла творчасць неўміручага А. Міцкевіча і У. Сыракомлі, з якой яго пазнаёмілі польскія паўстанцы [15].

У сярэдзіне XIX ст. у Сібір перасяляліся прадстаўнікі беларускага народа і добраахвотна. Так, дваранін Віцебскай губерні А. Паклеўскі-Козел заснаваў ў Сібіры буйнейшую дынастыю прадпрымальнікаў. У Омску ён пабудаваў мураваны двухпавярховы будынак для мяшчанскага дзявочага вучылішча і прытулка "Надзея", быў ганаровым апекуном шмат якіх гарадскіх вучылішчаў і розных таварыстваў, ахвяраваў значныя сумы на развіццё народнай адукацыі і аховы здароўя [16]. Д. Мамін-Сібірак у нарысе "Варнакі" даў яскравую характарыстыку Паклеўскаму: "Вось, калі Паклеўскі быў — усе хлеб елі, аднагалосна сцвярджаюць усе старажылы. Разумовы быў чалавек… І сябе не крыўдзіў, і нам каля яго цёпла было". Таксама адзначаны актыўны выхад на ніву прадпрымальніцтва ў Сібіры габрэяў, якія перасяліліся з Беларусі пасля адмены т. зв. "мяжы аселасці". Сярод іх іркуцкія купцы Кальмееры, канскія Камінеры, securityванікалаеўскія Каганы [17].

На грамадскае, навуковае і культурнае жыццё Сібіры ў канцы XIX – пачатку XX ст. таксама аказвалі свой уплыў выхадцы з Беларусі. Сярод іх былі ссыльныя рэвалюцыянеры: М. Абрамовіч (у Верхаянску ў 1898 г. арганізаваў бібліятэку), Э. Абрамовіч (урач), С. Андрайковіч, А. Аўгусціновіч, М. Багушэвіч, А. Балоціна, А. Барэйша, А. Бонч-Асмалоўскі, У. Бычкоў, К. Брэшка-Брашкоўская (яе называлі "бабкай рускай рэвалюцыі"), Р. Васільеў (аўтар успамінаў "З рэвалюцыйнага мінулага"), М. Вігдорчык (урач, аўтар працы "Матэрыялы да характарыстыкі вясковай медыцыны Сібіры"), Я. Гальперын, А. Гарун (бел. паэт), У. Гінтаўт-Дзевалтоўскі, В. Гласка, І. Гласка, У. Горын-Галкін (удзельнік стварэння ў 1901 г. Сібірскага сацыял-дэмакратычнага саюза), І. Гурвіч (аўтар працы "Эканамічныя пытанні Сібіры", "Перасяленне сялян у Сібір"), Г. Дабрускіна (педагог), А. Данілевіч, М. Даніловіч (урач), В. Зелязей, С. Кавалік (аўтар працы "Катарга і ссылка"), Дз. Лапо (бел. пісьменнік), П. Лепяшынскі (публіцыст, пісьменнік), Я. Лёсік (бел. пісьменнік), М. Манцэвіч, Я. Масалкоў,

Ю. Тарыч (акцёр), Э. Пякарскі (лінгвіст, аўтар “Слоўніка якуцкай мовы”, даследчык Сібіры) і інш.

У Сібіры працавалі выхадцы, якія добраахвотна прыехалі з Беларусі: Т. Аўгусціновіч (урач, даследчык Сібіры), К. Багдановіч (геолаг, аўтар прац “Геалагічныя даследаванне ўздоўж Сібірскай чыгункі”, “Матэрыялы па геалогіі і карысных выкапнях Іркуцкай губерні”), А. Бялыніцкі-Біруля (заолаг, даследчык Байкала, узбярэжжа Ледавітага акіяна), А. Вількіцкі (гідрограф-геадэзіст, аўтар працы “Паўночны марскі шлях”), А. Дунін-Горкавіч (географ, аўтар 3-х томнай працы “Табольская поўнач”), У. Дыбоўскі (палеантолаг, заолаг, батанік), В. Кавалеўскі (манголазнавец), Ф. Каро (батанік, даследчык флоры Усходняй Сібіры), Н. Кірпічоў (інжынер, удзельнічаў у будаўніцтве гідратэхнічных збудаванняў на Амуры), М. Краўчанка (прафесар Томскага універсітэта), П. Лячыцкі (камандуючы войскамі Прыамурскай. ваен. акругі ў 1910 г.), М. Марцьянаў (заснавальвік навуковага музея ў Мінусінску), К. Мейер (батанік, аўтар працы “Матэрыялы па флоры водарасцеў Байкала і Забайкалля”), І. Міхайлоўскі (праф. Томск. ун-та), М. Рэйнер (праф. Томск. ун-та), В. Сямеўскі (эканаміст, аўтар працы “Рабочыя на сібірскіх залатых промыслах”), К. Яльніцкі (асветнік, выкладчык Сібірскай ваеннай гімназіі), О. Шмідт (географ, геафізік, даследчык Арктыкі) і інш.



*Добра глядзяцца новасібірскія беларусы ў народных строях*

У канцы XIX ст. Беларусь уключылася ў вялікае аграрнае перасяленне насельніцтва Расіі ў Сібір. З Беларусі ў Сібір з 1896 па 1912 г. добраахвотна мігрыравала 716 600 чал. Беларускія перасяленцы ў Сібіры засноўвалі новыя вёскі, пасёлкі, пашыралі рамёствы і ўкаранялі новыя сельскагаспадарчыя традыцыі свайго народа. У вёсцы рабіла поспехі хутарская гаспадарка. У гарадах яны займаліся каўбасным, масларобным, мылаварным, кравецкім, вінакурным і піваварным вытворчасцямі, працавалі на будаўніцтве чыгунак, на водным транспарце. Традыцыйная беларуская культура ўлілася ў традыцыйную ўсходнеславянскую культуру Сібіры, а ў склад лексікі гаворак Сібіры арганічна ўлілася нямала слоў, запазычаных з беларускай мовы [18]. Значна ўзрасло беларускае насельніцтва Сібіры ў 1915–1917 гг. за кошт бежанцаў з прыфрантавых раёнаў. Шмат хто з іх пазней вярнуўся на радзіму. У другой палове 20-х гг. беларусы ў Сібіры атрымалі магчымасць для развіцця сеткі нацыянальных школ,

утварэння нацыянальных вясковых саветаў. Па дадзеных перапісу 1926 г. у Сібіры налічвалася 371 840 беларусаў. Асноўная колькасць іх была засяроджана ў Сібіры (323 170 чал.) і Далёкім Усходзе (41 124 чал.). З 1929 г. у Сібір з Беларусі пайшоў паток раскулачаных сялян. На неабжытых мясцінах сібірскай зямлі пачалі зноў узнікаць беларускія вёскі. У 30-х гг. на беразе Чулыма, недалёка ад яго ўпадзення ў Об, узнікла веска Калаберга. Сваю назву вёска атрымала ад беларускіх слоў “каля берага”. На гэтую дзікую, неабжытую мясціну неяк увосень баржа павысадзіла і пакінула некалькі соцень чалавек з дзецьмі, выселеных з двух вёсак Беларусі за нейкія антыпралетарскія грахі [19].

Сталінскія рэпрэсіі ў 30-х гг. у Беларусі асабліва ўдарылі па нацыянальный інтэлігенцыі. У сібірскіх лагерах апынуліся беларускія пісьменнікі З. Астапенка, М. Багун, С. Баранавых, С. Грахоўскі, С. Дарожны, У. Дубоўка, У. Дудзіцкі, С. Знаёмы, У. Клішэвіч, М. Кавыль, Т. Лебяда, М. Лужанін, Б. Мікуліч, С. Новік-Пяюн, П. Пруднікаў, А. Смоліч, Я. Скрыган, М. Сяднёў, У. Хадыка і інш.

З сярэдзіны 30-х гг. і да 1941 г. характар міграцыі насельніцтва з Беларусі ў Сібір змяніўся з аграрнага на індустрыяльны ў сувязі з прамысловым і культурным развіццём гарадоў Сібіры. У даваенны час адзначым некаторых выхадцаў з Беларусі, якія ўнеслі ўклад у далейшае развіццё Сібіры: грамадскія дзеячы — І. Біч (член Краснаярскага губрэўкома), І. Клопаў (працаваў на адміністратыўна-гаспадарчай рабоце ў Томску), І. Луцкевіч (член Сібрэўкома), М. Мандрыкаў (старшыня Анадырскага рэўкома, Чукотка); ваенныя — І. Васілевіч (камандзір стралковага корпуса на Далёкім Усходзе), Б. Гарбачоў (камандуючы войскамі Забайкальскай ваеннай акругі), М. Грыгаровіч (начальнік Омскага пяхотнага вучылішча), С. Грыцавец (камандзір знішчальнага авіяпалка), А. Лапацін (інжынер кавалерыі Забайкальскай ваеннай акругі), С. Любарскі (генерал, удзельнік баёў на р. Халхін-Гол); вучоныя — Б. Вярыга (праф. Томскага ун-та), М. Яфімаў (праф. Томскага ун-та), А. Іваноў (заолаг, працаваў у Уладзівастоку), А. Пальмбах (філолаг, адзін са стваральнікаў тувінскай пісьменнасці), К. Пушкарэвіч (філолаг, выкладчык Томскага ун-та), І. Строд (гісторык грамадзянскай вайны ў Сібіры), Б. Фукс (праф. Томскага ун-та); сібірскія пісьменнікі — К. Львова, Е. Цярэшэнкаў, М. Усціновіч, Е. Фёдараў, Г. Эцінгоф; дзеячы культуры — А. Аркадзьеў (акцёр і рэжысёр, Омск), А. Быхоўскі (мастак, Іркуцк), У. Гулецкі (мастак, Іркуцк), Ф. Дарашэвіч (мастак, Омск), С. Талкачоў (артыст, Іркуцк), Р. Пукст (кампазітар, Омск).

У гады Вялікай Айчыннай вайны Сібір прыняла з Беларусі эвакуіраваных. Толькі ў Новасібірску на 1 снежня 1943 г. налічвалася 141 тыс. эвакуіраваных людзей з Беларусі. У г. Курган было эвакуіравана абсталяванне Гомсельмаша. Сцэну Томскага тэатра заняў Першы беларускі тэатр. У Новасібірск з Мінска быў эвакуіраваны габрэйскі тэатр. Харавая капэла імя Р. Шырмы ў Новасібірску давала канцэрты. Выхадцы з Беларусі ўносілі свой уклад у перамогу над фашызмам: грамадскія дзеячы — П. Лявіцкі (сакратар Алтайскага крайкома ВКП(б)), В. Хайноўскі (старшыня гарвыканкама Новасібірска); ваенныя — М. Вавілаў (нач. штаба арміі Далёкаўсходняга фронту), А. Гасціловіч (камандуючы

арміяй Забайкальскага фронту), У. Дубовік (генерал, удзельнік вайны з Японіяй), Я. Леашэня (нач. штаба інжынынерных войск Забайкальскага фронту), І. Мазарук (нач. павертранай трасы Аляска–Краснаярск, па якой пераганялі самалёты з ЗША); вучоныя — П. Каган (праф. Томскага ун-та), А. Клібанаў (гісторык, Краснаярскі пед. ін-т), П. Купалаў (праф. Томскага ун-та), Ф. Хейфец (праф. Томскага ун-та). Героямі Савецкага Саюза сталі беларусы-сібіракі П. Аўрамкаў, А. Кубліцкі, А.А.Парцянка, Г. Пісараў, П. Юрчанка і інш.

У пасляваенныя гады, а таксама ў 50–60 гг. працягваўся адток насельніцтва з Беларусі ў Сібір у працэсе дэпартацыі, асваення цалінных зямель, арганізаваных набораў рабочых у прамысловыя раёны, размеркавання выпускнікоў ВНУ, тэхнікумаў, школ сістэмы працоўных рэзерваў, у выніку наступстваў Чарнобыльскай катастрофы, службы ў Савецкай Арміі і г. д. Да 1990 г. у Сібіры жыло і працавала больш за 200 тыс. беларусаў. Яны бралі актыўны ўдзел у стварэнні Ангара-Енісейскага энергапрамысловага комплексу, здабычы нафты і газу ў Цюменскай вобл., будаўніцтве і гаспадарчым асваенні Байкала-Амурскай магістралі. На карце Сібіры з'явіліся ўзведзеныя беларускімі будаўнікамі г. Лангепас (Цюменская вобл.), пасёлкі на БАМе Залацінка, Тындзінскі, Таёжны, Зорны, Магістральны, Муякан, Таксіма [20]. У гэты перыяд выхадцы з Беларусі садзейнічалі далейшаму развіццю Сібіры: у металургіі — Л. Волкаў (Усходненікель), С. Падвышэнскі (руднік “Запалярны”); у нафтавым комплексе — А. Шамаль (Іркуцкгеафізіка), В. Дёмкін (Падводсіббуд), А. Мядзвежанка (Пурнафтагаз), А. Сеніла (Пурнафтагаз); у энергетыцы — М. Абызаў (Новасібірскэнерга), А. Брытвін (Краснаярскэнерга), У. Пяшкун (Прамдзяржэнерганагляд), А. Радзюк (Іркуцкэнерга), М. Хількові́ч (Электразахсібмантаж); у галіне навукі — А. Гудкін (праф. Благавешчанскага сельска-гаспадарчага ін-та), Ю. Камінскі (праф. Уладзівастоцкага медыцынскага ін-та), Е. Каваленка (праф. Томскага ін-та аўтаматызаваных сістэм кіраўніцтва і радыёэлектронікі), А. Капеловіч (філолаг, Камсамольск-на-Амуры, пед. ін-т), В. Капцюг (акадэмік РАН, Новасібірск), Е. Красік (праф. Томскага медыцынскага ін-та), Ф. Куляшоў (філолаг, выкладчык Сахалінскага пед. ін-та), В. Лазоўскі (праф. Сібірскага ін-та механізацыі сел. гаспадаркі), Д. Маціеўскі (праф. Алтайскага політэх. ін-та), В. Мац (праф. Іркуцкага політэх. ін-та), В. Пармон (акадэмік РАН, Новасібірск), В. Петухоў (праф. Новасібірскага аграрнага ун-та), Ж. Семінскі (праф. Іркуцкага політэх. ін-та), А. Цілічэнка (праф. Хабараўскага ін-та інжынераў чыгунач. тр-та), А. Трафімук (акадэмік РАН, Новасібірск), М. Шуранаў (праф. Кемераўскага ун-та); у галіне культуры — С. Бройда (мастак, Іркуцк), Д. Брук (мастак, Ачынск), В. Галаўчынер (рэжысёр, Іркуцк), С. Галуза (акцёр, Новасібірск), Б. Гаравы (мастак, Новасібірск), А. Гутэрзон (мастак, Іркуцк), А. Дашкевіч (мастак, Хабараўск), С. Дрэчын (балетмайстар, Улан-Удэ), М. Капека (рэктар Цюменскага ін-та мастацтва), Б. Лагода (рэжысёр, Новасібірск), А. Мігас (мастак, Краснаярск), В. Мароз (актрыса, Новасібірск), Н. Равінская (актрыса, Хабараўск), П. Філіпаў (акцёр, Кемерава), Г. Шляга (мастак,Новасібірск), М. Шубскі (музейны работнік, Краснаярск); сібірскія пісьменнікі —

Е. Беленькі (Омск), С. Бытавы (Далёкі Усход), Я. Васілёнак (Далёкі Усход), В. Варна (Петрапаўлаўск-Камчацкі), В. Казько (Кемерава), В. Конанаў (Хабараўск), І. Ласкоў (Якуцк), А. Пальчэўскі (Краснаярск), Г. Рапапорт (Новасібірск), Л. Хрылёў (Іркуцк), Г. Шпак (Новасібірск) і інш.

Сёння беларуская дыяспара Сібіры ў адпаведнасці з заканадаўствам Расіі стварае грамадскія нацыянальна-культурныя аб'яднанні, якія садзейнічаюць павышэнню нацыянальнай самасвядомасці беларусаў. Найбольш актыўна яны дзейнічаюць у Цюмені, Кемераве, Новасібірску, Краснаярску, Іркуцку. У Новасібірску створана дзяржаўная ўстанова "Новасібірскі абласны цэнтр беларускай культуры", будуецца праваслаўная царква Св. Ефрасінні Полацкай, пачата сумесная работа сібірскіх і беларускіх вучоных па навукова-даследчых праектах "Беларусы ў Сібіры XVII–XX стст." і "Беларускі фальклор Сібіры і Далёкага Усходу", якія ажыццяўляюцца ў рамках пагаднення аб навуковым супрацоўніцтве Сібірскага аддзялення РАН і Нацыянальнай акадэміі навук Беларусі.

У Маскве ў 1999 г. створана Федэральная нацыянальна-культурная аўтаномія "Беларусы Расіі", якая прызначана для каардынацыі дзейнасці рэгіянальных нацыянальна-культурных аўтаномій беларусаў. ФНКА "Беларусы Расіі" можа стаць прыкметным суб'ектам сацыяльна-палітычнага, эканамічнага і культурнага жыцця беларускай дыяспары Расіі. Ад яе эфектыўнай дзейнасці будзе залежаць поспех пераадолення крызісу этнічнай індэнтычнасці, уласцівай беларускай дыяспары Сібіры. Мінімізаваць гэты крызіс можа і палітычны фактар, звязаны са спрыяльным развіццём міждзяржаўных расійска-беларускіх адносін, а таксама рэалізацыя ў Рэспубліцы Беларусь дзяржаўнай праграмы "Беларусы ў свеце" (1993).

---

[1] Да 1917 г. у афіцыйных дакументах і навуковай літаратуры ўся тэрыторыя ад Урала да Ціхага акіяна называлася Сібір'ю.

[2] Ламин В. А., Сташкевич Н. С. Проблемы изучения истории белорусской диаспоры в Сибири // Белорусы в Сибири. Новосибирск, 2000. С. 3–9.

[3] Галуза У. Беларусы Заходняй Сібіры: гісторыя і сучаснасць // Кантакты і дыялогі. 1998. № 10–11. С. 8–14; Ён жа: Беларусы Сібіры: гісторыя і сучаснасць // Культура беларускага замежжа. Мн., 1998. Кн. 3. С. 15–21.

[4] Резун Д. Я., Соколовскйй И. Р. О "литве" в Сибири XVII в. // Белорусы в Сибири. С. 22–64.

[5] История Сибири. Первоисточники. Вып. 7: Первое столетие сибирских городов. XVII век. Новосибирск, 1996. С. 280.

[6] Емельянов Н. Ф. Томские служилые люди "литва" в XVII – первой четверти XVIII в. // Проблемы исторической демографии СССР. Томск, 1982. Вып. 2. С. 38, 42.

[7] Барковские (Борковские) // Краткая энциклопедия по истории купечества и коммерции Сибири: В 4 т. Новосибирск, 1994. Т. 1. Кн. 1. С. 81; Литвинцовы (Литвинцевы) // Краткая энциклопедия… Новосибирск, 1996. Т. 3. Кн. 1. С. 35–37; Резун Д. Я., Соколовский И. Р. О "литве"… С. 37, 55.

[8] Емельянов Н. Ф. Спорные вопросы истории феодальной Сибири. Курган, 1991. С. 50.

[9] Сибирь периода феодализма. Новосибирск, 1962. Вып. 1. С. 149.

[10] Беликов Д. Н. Первые русские крестьяне — насельники Томского края и разные особенности в условиях их жизни и быта. Томск, 1898. С. 39.

[11] Боловнев Ф. Ф. Белорусско-украинские элементы в духовной культуре семейских Забайкалья // Белорусы в Сибири. С. 139–146.

[12] Хачевская С. Две рукописные карты Сибири XVIII в. из коллекции национальной библиотеки Варшавы // Русско-польские связи в области наук о Земле. М., 1975. С. 18–22.

[13] Звесткі пра выхадцаў з Беларусі ўзяты з біяграфічных даведнікаў: Ведущие ученые агроинженерной науки. Справочник. М., 1999; Военная энциклопедия. М., 1997–1999. Т. 1–4; Кто есть кто в высшей школе. Справочник: В 5 т. М., 1992; Кто есть кто в металлургии России: Справочник. М., 1999; Кто есть кто в нефтяном комплексе России: Справочник. СПб., 1997; Кто есть кто в энергетике России: Биограф. справочник. СПб., 1999; Менуа А. И. Российская академия естественных наук. СПб., 1998; Профессора Томского университета: Биограф. слов. Томск, 1996. Т. 1, 1998. Т. 2; Художники народов СССР: Биобиблиогр. слов.: В 6 т. М., 1970; Энциклопедический словарь: Биографии: В 12 т. (Брокгауз и Ефрон). Репринт. М. 1991; Энцыклапедыя гісторыі Беларусі: У 6 т. Мн., 1993–1999; Энцыклапедыя літаратуры і мастацтва Беларусі: У 5 т. Мн., 1984–1987; Яновский Н. Н. Русские писатели Сибири XX века: Материалы к словарю. Новосибирск, 1997.

[14] Паўстанне 1863–1864 // Энцыклапедыя гісторыі Беларусі. Мн., 1999. Т. 5. С. 450.

[15] Дубровский К. Рожденные в стране изгнания. Пг., 1916. С. 131.

[16] Поклевские-Козелл (Козелло) // Краткая энциклопедия… Новосибирск, 1997. Т. 3. Кн. 3. С. 22–24.

[17] Купечество сибирское // Краткая энциклопедия… Новосибирск, 1995. Т. 2. Кн. 2. С. 144.

[18] Мельников М. Н. Традиционная культура восточных славян Сибири и современные культурные процессы // Аборигены Сибири. Новосибирск, 1995. Т. 2. С. 173–180; Мусорын А. Лексічныя беларусізмы ў рускіх гаворках Навасібірскай вобласці // Беларусь паміж Усходам і Захадам. Мн., 1997. Ч. 2. С. 325–328.

[19] Берязев В. Могота // Советская Сибирь. 1998. 28 июня.

[20] Марчанка І. Я., Мельянкоў Г. С. Удзел Беларускай ССР у эканамічным развіцці Сібіры ў 60–80-я гады // Весці АН БССР. Сер. грам. навук. 1991. № 5. С. 36–46.

*Ад рэдакцыі.* Артыкул Уладзіміра Галузы наводзіць на роздум: які ж вялікі уклад зрабіла беларуская цывілізацыя ў цывілізацыю Сібіры! Колькі новых асоб, вартых асвятлення ў нашым бюлетэні, увекавечанняў у даведніку “Хто ёсць хто сярод беларусаў свету”, узнікае перад даследчыкамі!



## З РЭДАКЦЫЙНАЙ ПОШТЫ

### НОВАЯ ПРАПАНОВА АД “ЦЭНТРА ГУМАНІТАРНЫХ ІНІЦЫЯТЫЎ”

Узнікненне кожнай новай структуры, чыя дзейнасць скіравана на падтрымку нацыянальнай культуры, зберажэнне культурнай спадчыны, у нашых цяперашніх няпростых умовах варта толькі падтрымліваць. Вось чаму факт рэгістрацыі Грамадскага аб’яднання “Цэнтр гуманітарных ініцыятыў” павінен прыцягнуць значную ўвагу. Гэтаму ёсць тлумачэнні. Паставіўшы перад сабой як галоўную мэту зберажэнне і аднаўленне перш-наперш аб’ектаў архітэктурнай спадчыны Беларусі, у прыватнасці, старадаўніх сядзіб, удзельнікі аб’яднання цяпер заклапочаны тым, каб згуртаваць вакол сябе не проста зацікаўленых у іх дзейнасці асобаў, не толькі тых, хто здольны матэрыяльна дапамагчы ў падрыхтоўцы і ўвасабленні выключна канкрэтных праек-

*Заканчэнне на стар. 15*

*Сяргей Бальшакоў (Цюмень, Расія)*

# ЦЮМЕНСКАЯ "БЕЛАРУСЬ": УЧОРА, СЁННЯ, ЗАЎТРА

Цюменская абласная грамадская арганізацыя (ГА) "Нацыянальна-культурнае таварыства Беларусь" створана ў чэрвені 1997 г. і зарэгістравана Упраўленнем юстыцыі Адміністрацыі Цюменскай вобласці 14 жніўня 1997 г.

Згодна са статутам таварыства "Беларусь", асноўнымі яго мэтамі і задачамі з'яўляюцца: задавальненне нацыянальных духоўных і культурных патрэб выхадцаў з Беларусі, якія пражываюць у Цюменскай вобл.; захаванне і развіццё беларускіх нацыянальных традыцый, культуры і мастацтва; распаўсюджанне праўдзівай інфармацыі аб сучасным становішчы ў Рэспубліцы Беларусь; замацаванне традыцыйных сяброўскіх сувязяў паміж народамі, якія насяляюць Цюменскую вобл.

**Сяргей Бальшакоў** — намеснік старшыні Цюменскай абласной грамадскай арганізацыі "Нацыянальна-культурнае таварыства "Беларусь", грамадскі дзеяч.

Наша таварыства яшчэ вельмі маладое. 14 жніўня 2000 г. яму споўніліся тры гады, але яно ўжо добра вядома ў Цюменскай вобл. дзякуючы ўдзелу ў культурна-масавых мерапрыемствах, выступленнях па тэлебачанні, радыё, артыкулах у мясцовых газетах.

Цяпер "Беларусь" аб'ядноўвае 100 чалавек. Характэрна, што мэты, ідэі і сама дзейнасць таварыства далучылі да яго і некалькі рускіх. Пры "Беларусі" створаны і актыўна дзейнічаюць секцыі вайскоўцаў, моладзі, ветэранаў. Узначальваюць іх члены ўправы, людзі энергічныя і захопленыя сваёй працай.

Першым са значных мерапрыемстваў, арганізаваных таварыствам, была яго афіцыйная прэзентацыя грамадскасці Цюменскай вобласці 2 красавіка 1998 г. З гэтай нагоды ў Доме нацыянальных культур Цюмені сабраліся прадстаўнікі Адміністрацыі, нацыянальна-культурных і грамадскіх арганізацый вобласці і горада. Ужо ў наступным месяцы самадзейныя артысты таварыства прынялі ўдзел у святкаванні Дзён славянскай культуры і пісьменства — разам з творчай групай беларускіх артыстаў на чале з І. Лучанком, які з'яўляецца ганаровым сябрам "Беларусі". 3 ліпеня таго ж года таварыства арганізавала і з поспехам правяло "круглы стол" з нагоды Дня Незалежнасці Рэспублікі Беларусь, у рабоце якога прынялі ўдзел кіраўнікі Адміністрацыі вобласці і горада, старшыні нацыянальных дыяспар вобласці, прадстаўнікі сродкаў масавай інфармацыі. А ў канцы верасня 1998 г. у Заводаукоўску адбылося адкрыццё першага філіяла "Беларусі".

Неўзабаве быў створаны наш першы беларускі фальклорны ансамбль "Лянок" — цяпер сталы ўдзельнік практычна ўсіх культурна-масавых мерапрыемстваў рэгіёна. Мастацкі кіраўнік ансамбля — колішняя выпускніца Беларускай кансерваторыі, артыстка аркестра народных інструментаў імя Жыновіча Тамара Грыгор'ева. У ансамблі ёсць таксама і прафесійны баяніст, заслужаны работнік культуры Расіі Фёдар Валодзін. Хутка быў створаны адпаведны дзіцячы калектыў — ансамбль "Пралескі". Цяпер ужо можна гаварыць, што ў ансамбляў

сфарміравалася ўласнае аблічча, пры гэтым павялічваецца колькасць удзельнікаў, удасканальваецца іх майстэрства, пашыраецца рэпертуар.

У студзені 1999 г. таварыства зрабіла значны крок наперад у замацаванні і развіцці беларускіх нацыянальных традыцый, культуры і мастацтва — распачала дзейнасць беларуская нядзельная школа, у якой дзеці і ўнукі беларусаў Цюменскай вобл. вывучаюць родную мову і літаратуру, знаёмяцца з багатай культурнай спадчынай гістарычнай радзімы, атрымоўваюць звесткі аб тым, што там адбываецца ў нашыя дні. Вядома, яшчэ шмат складанасцей, не хапае падручнікаў, хрэстаматый, наглядных дапаможнікаў і іншага, што неабходна для нармальнага навучальнага працэса. Большасць настаўнікаў школы — аматары без адпаведнай прафесійнай адукацыі, працуюць выключна па ўласнай ініцыятыве, на грамадскіх пачатках; пры гэтым усе падручнікі і кнігі набываюцца імі за ўласныя сродкі ў час наведванняў радзімы ў адпачынку ці ў камандзіроўцы. Відавочна, што для далейшага паспяховага існавання нядзельнай школе патрэбна дапамога Міністэрства адукацыі Рэспублікі Беларусь, — гэта мусіць быць апека ў метадычным плане, у тым ліку і арганізацыя хуткатэрміновага навучання выкладчыкаў пачатковай школы.

Дзейнасць таварыства не абмяжоўваецца аднымі толькі выступленнямі калектываў мастацкай самадзейнасці і інтэрв’ю ў медыя-сродках. Так, управа аказала дапамогу ветэрану Вялікай Айчыннай вайны, удзельніцы беларускага партызанскага руху Е. Папковай, цяпер жыхарцы адной з вёсак Цюменскай вобл., ва ўстанаўленні тэлефона.

У красавіку бягучага года таварыства ўзяло ўдзел у з’ездзе беларусаў Расіі, на якім прадстаўнік управы “Беларусі” У. Шугля быў абраны ў кіраўніцтва створанай на з’ездзе Нацыянальнай аўтаноміі Беларусаў Расіі.

У ліпені 1999 г. пры падтрымцы старшыні Саюза кампазітараў Беларусі І. Лучанка таварыствам была арганізавана экскурсія для групы цюменскіх беларусаў і іх дзяцей па Мінску, у Хатынь і на Курган Славы. “Паездка на гістарычную радзіму стала сапраўднай падзеяй, асабліва для нашых дзяцей, многія з якіх прыехалі сюды ўпершыню. Бомы звонаў Хатыні не дадуць зачарсцвець нашым душам ніколі”, — такія былі водгукі.

Варта згадаць таксама такія праведзеныя сумесна з аддзяленнем пасольства мерапрыемствы, як прыём з нагоды Дня Незалежнасці Рэспублікі Беларусь і 56-годдзя яе вызвалення ад фашысцкіх захопнікаў; адкрыццё выстаўкі тавараў беларускіх вытворцаў, якая адбылася ў маі 1999 г.; святкаванне Дня Расіі з выездам у раённы цэнтр Новую Таўду, дзе пражывае вялікая колькасць выхадцаў з Беларусі, дарэчы, адміністрацыю там узначальвае этнічны беларус.

У рабоце таварыства значную ролю адыгрываюць найбольш актыўныя яго сябры, якія заслугоўваюць таго, каб сказаць аб іх асобна.

Асноўным “лакаматывам” “Беларусі”, галоўным завадатарам усіх пачынанняў і арганізатарам мерапрыемстваў, бясспрэчным лідэрам з’яўляецца старшыня ўправы таварыства, прэзідэнт холдынгавай кампаніі Гандлёвы дом “Мангазея” *Уладзімір Шугля*, бацькі якога з’яўляюцца выхадцамі з Барысава, — там

дагэтуль жывуць яго сваякі. Менавіта дзякуючы яго фундацыям таварыства мае ўласны офіс, аргтэхніку і неабходныя фінансавыя сродкі.

*Леанід Ксяндзоў* — намеснік старшыні "Беларусі", палкоўнік, таксама ініцыятыўны і энергічны чалавек. Ён сабраў вакол сябе вялікую групу вайскоўцаў і ўзначаліў адпаведную секцыю, колькасць сябраў якой увесь час павялічваецца.

*Людміла Татарынцава* адказвае ў таварыстве за мастацкую самадзейнасць. Без спецыяльнай адукацыі, але надзеленая ад прыроды цудоўным пачуццём гумару, жыццёвай энергіяй і арганізатарскімі здольнасцямі, яна выконвае ролю рэжысёра і вядучай культурна-масавых мерапрыемстваў "Беларусі". Ва ўсіх пачынаннях ёй дапамагае 9-гадовы сын Уладзіслаў.

Значную работу вядзе таварыства сярод пенсіянераў: запрашае іх на вечарыны, спрыяе вырашэнню побытавых праблем, аказвае мажлівую матэрыяльную дапамогу. За гэты накірунак адказвае *Ларыса Шпартова*.

Секцыю моладзі ўзначальвае *Юрый Куліна*.

Сябрамі "Беларусі" з'яўляюцца розныя па ўзросту, сацыяльнаму стану і адукацыі людзі, сярод якіх ёсць такія, хто цяпер займае адказныя пасады ў кіраўніцтве вобласці і горада. Гэта мэр Цюмені *С. Кірычук*, дэпутат Дзяржаўнай Думы Расійскай Федэрацыі *Г. Райкоў*, старшыня лічыльнай палаты Цюменскай вобл. *С. Шэрагаў*, рэктар Цюменскага дзяржаўнага інстытута мастацтваў і культуры *М.Капека*. Нягледзячы на занятасць ў сваёй асноўнай дзейнасці, гэтыя людзі заўсёды гатовыя аказаць (і аказваюць) "Беларусі" мажлівую дапамогу.

Сябры таварыства, якія сур'ёзна займаюцца камерцыяй, спрыяюць пашырэнню гандлёва-эканамічных сувязей паміж Беларуссю і Цюменскай вобласцю. Шэраг такіх фірм, напрыклад, Гандлёвы дом "Мангазея", "Мілавіца – Цюмень", "Віцязь" ужо шмат гадоў займаюцца рэалізацыяй беларускіх тавараў на мясцовым рынку. Да гэтага супрацоўніцтва гатовыя актыўна далучыцца і іншыя цюменскія кампаніі, якімі кіруюць сябры ГА "Беларусь" — напрыклад, "Цюменьзнешэканамсэрвіс", "Парфум-Цюмень" і г. д.

2000 г. таксама прынёс суполцы новыя дасягненні. Створана футбольная каманда "Белая Русь", якая адразу ж заняла 2 месца на абласным чэмпіянаце па міні-футболу. Па сумеснай ініцыятыве таварыства "Беларусь", аддзялення пасольства і кіраўніцтва Цюменскага дзяржуніверсітэта на кафедры агульнага мовазнаўства гэтага універсітэта была ўведзена спецыялізацыя "Беларуская мова і літаратура". Выкладанне вядзе лінгвіст *А. Жураўская*.

Адкрыты філіялы таварыства ў Ялутароўску, Табольску, Ніжняй Таўдзе.

На базе ГА "Беларусь" створана Цюменская гарадская нацыянальна-культурная аўтаномія, плануецца стварэнне абласной нацыянальна-культурнай аўтаноміі, куды ўвойдуць іншыя арганізацыі вобласці.

Варта адзначыць, што працы "Беларусі" значна паспрыяла б падтрымка з боку рэспублікі. Таварыства мае патрэбу ў беларускамоўнай літаратуры — мастацкай і спецыяльнай, краязнаўчых матэрыялах, сувенірнай беларускай прадукцыі і г. д. Іншыя дзяржавы аказваюць сваім цюменскім дыяспарам лепшую (ў параўнанні з Рэспублікай Беларусь) дапамогу. Тым больш, удзячны члены

таварыства кампазітару І. Лучанку, які акрамя згаданай ўжо экскурсіі па Мінску і Хатыні арганізаваў, з удзелам Мінгарвыканкама, Дні беларускай культуры ў Цюменскай вобласці (лістапад 1999 г. – студзень 2000 г.).

Якія ж планы "Беларусі" на будучыню? Іх шмат, і ў іх ліку:

• Збор матэрыялаў і напісанне кнігі "Беларусы ў Цюменскай вобл.";

• Стварэнне музея гісторыі асваення беларусамі Цюменскай вобл.;

• Пашырэнне арганізацыі праз адкрыццё новых філіялаў у розных гарадах Цюменскай вобл., аб'яднанне ўсіх беларускіх нацыянальна-культурных арганізацый Урала і Заходняй Сібіры;

• Стварэнне пры адной з абласных газет рэгулярнай (штомесячнай ці штотыднёвай) "беларускай старонкі", вывучаецца магчымасць стварэння ўласнай, няхай і невялікай тэлепраграмы. Усё гэта патрабуе сур'ёзных сродкаў, якіх "Беларусь" цяпер не мае, але ў будучым яны могуць з'явіцца, таму і распачата адпаведная дзейнасць.

Усё сказанае сведчыць, што нягледзячы на сваю маладосць ГА "Беларусь" ужо даволі сур'ёзна зарэкамендавала сябе. Няма сумненняў, што ўсе планы таварыства здзейсняцца, калі з боку Рэспублікі Беларусь ёй будзе аказвацца адпаведная дапамога.

*Пераклад з рускай* ***Вольгі Мазуравай***



## З РЭДАКЦЫЙНАЙ ПОШТЫ

*Заканчэнне са стар. 11*

таў, але і тых спецыялістаў, якія валодаюць неабходнай інфармацыяй. У нашым выпадку — найперш спецыялістаў у галіне сядзібнай архітэктуры і паркавай культуры мінулага. Гэта могуць быць як грамадзяне Беларусі, так і тыя, хто пражывае за мяжой. Цэнтр адчынены для ўсіх зацікаўленых людзей і не збіраецца адкладаць справы ў доўгую скрыню.

У прыватнасці, першым аб'ектам, на які ЦГІ звярнуў увагу, — гэта Кухціцкая сядзіба, што ва Уздзенскім раёне. Зараз распачата работа над падрыхтоўкай праекта рэстаўрацыі гэтага архітэктурнага ансамбля, які прадугледжвае таксама і прывядзенне ў парадак паркавай зоны. Адначасова будзе весціся пошук неабходных сродкаў, назапашванне інфармацыі і, зноў жа, згуртаванне вакол ЦГІ аднадумцаў. На сённяшні момант рэдакцыя часопіса "Мастацтва" ўзяла на сябе клопат аб інфармацыйнай падтрымцы праектаў "Цэнтра гуманітарных ініцыятыў".

Такім чынам, запрашаем да супрацоўніцтва не толькі тых, хто здольны дапамагчы ведамі і сувязямі, але і ўсіх тых, каму не абыякавая нацыянальная спадчына. Бо ў гэты Цэнтр можна (і трэба!) прыходзіць і з уласнымі ініцыятывамі.

Кантактныя тэлефоны: 238-90-91, 238-82-17

***Дзмітрый Падбярэзскі****, намеснік галоўнага рэдактара часопіса "Мастацтва"*

*Галіна Гядвіла* (Іркуцк)

# ІРКУЦКАЕ ТАВАРЫСТВА БЕЛАРУСКАЕ КУЛЬТУРЫ (ІТБК)

Іркуцкіх беларуса даволі многа, яны пражываюць на тэрыторыі горада і вобласці. Па дадзеных дзяржаўнага перапісу 1989 г. іх колькасць склала 25,7 тыс. чалавек. У большасці сваёй беларусы ў Іркуцку занятыя ў самых традыцыйных сферах дзейнасці. Пералічваць іх няма сэнсу, таму што беларусы — як і рускія, украінцы, бураты і татары — фарміруюць пэўную этнічную большасць шматнацыянальнай іркуцкай грамадскасці, што, натуральна, вызначае іх становішча ў гэтым асяроддзі. Яны ўспрымаюць рускую культуру як сваю. Тут няма адчування адарванасці ад радзімы.

**Галіна Гядвіла** — супрацоўніца Інфармацыйна-аналітычнага ўпраўлення Адміністрацыі Іркуцкай вобласці. У аснове артыкула — яе дакладная запіска, адрасаваная губернатару вобласці.

Першыя беларусы трапілі ў Сібір у часы перасяленняў сялян з заходніх рэгіёнаў Расійскай імперыі. Большая частка сем’яў ведае аб продках-перасяленцах. Захаваліся нават цэлыя беларускія вёскі (напр., Тургенеўка). Шмат беларусаў трапіла ў Сібір у час праходжання вайсковай службы, вырашыўшы потым застацца ў гэтым краі. Яны ажаніліся з сібірачкамі, аселі тут. Менавіта з такіх “аселых” беларусаў і складаецца беларуская дыяспара Іркуцкага рэгіёна. Варта звярнуць увагу на тое, што ў большасці сваёй беларусы не імкнуцца падкрэсліваць сваю беларускасць. Яны намагаліся хутчэй уліцца у агульнае асяроддзе, растварыцца ў ім. І вось сёння мы можам гаварыць пра беларускі феномен, які складаўся доўгі час, і прадстаўлены асіміляваным народам, некаторыя прадстаўнікі якога ўсё ж вырашылі даказаць самастойнасць беларускага этнасу.

Стэрэатыпнае меркаванне пра тое, што няма ніякай беларускай культуры, ніякай нацыянальнасці, ідзе яшчэ з царскіх часоў. Тады Беларусь называлі Паўночна-Заходнім краем, да беларусаў ставіліся са знявагай**.** У савецкія часы працягвалася адмаўленне беларускай традыцыі. Ніхто не ўжываў беларускую мову, яна лічылася непрэстыжнай, сялянскай. Людзі прызвычаіліся нічога пра сябе не ведаць, нічога не распавядаць пра сябе і сваіх продках. Так паступова забылася шмат сваіх герояў, а лепшыя розумы, якіх нарадзіла беларуская зямля, былі аднесены да польскай, рускай ці літоўскай нацый. Ніхто гэтага не аспрэчваў.

Распад СССР спачатку прыўнёс некаторыя змены ў стаўленне да Беларусі. З’явілася патрэба сказаць: мы — самастойны народ, мы — беларусы, а інакш навошта рускім аддзяляцца ад рускіх? На пачатку 90-х гг. пачалося пэўнае адраджэнне і беларускай мовы, і традыцый. У нас зрабілася модна (нават прэстыжна) гаварыць на роднай мове, з’явіліся шматлікія нацыянальныя школы. Людзі ўспрынялі гэта з вялікім энтузіязмам. Але сёння дзяржаўная нацыянальная ідэя заключаецца ў ідэі “славянізму”. Сёння наша беларуская грамадскасць расколата на два лагеры: першы за беларускую культуру, мову, другі — за безаблічную славянскасць дзяржавы…

Беларусы ў іркуцкім асяроддзі, як было адзначана, на першы погляд дыскамфорту не адчуваюць. Яны гарманічна ўпісаліся ў шматнацыянальную іркуцкую грамадскасць. Шмат традыцый, звычаяў, нават песень і слоў беларускага народа мясцовым, рускім насельніцтвам лічацца за ўласнымі. Яны растварыліся ў агульным асяроддзі. Увайшлі ва ўжыванне настолькі, што нікому нават у галаву не прыходзіць, што тое, што лічаць сваім мясцовыя жыхары, паходзіць ад беларусаў.

Доўгі час, у перыяд узнікнення шматлікіх нацыянальна-культурных суполак, беларусы так і жылі сярод рускіх: кожны сабе, распавядаючы ўласным дзецям аб тым, як яны апынуліся тут, часам размаўляючы на роднай мове (выключна ў сямейным коле) і захоўваючы рамантычныя ўспаміны аб сваёй гістарычнай радзіме.

Тым часам у Іркуцк прыехаў адзін малады чалавек, што вырашыў звязаць свой лёс з Іркуцкам па сканчэнні службы ў Савецкай Арміі. Даведаўшыся, што тут такая колькасць беларусаў, Алег Рудакоў распачаў актыўную дзейнасць па стварэнню арганізацыі, якая б змагла іх аб'ядналь. На працягу 11 месяцаў існавала таварыства беларускай культуры, усё пашыраючыся. Але пакуль яно па форме арганізацыі было толькі зямляцтвам (не аформленым юрыдычна). Актывісты таварыства наведвалі розныя агульнагарадскія мерапрыемствы. На адным з іх прадстаўнік нядаўна створанага Таварыства беларускай культуры А. Рудакоў пазнаёміўся са старшынёй Камітэта па нацыянальных адносінах А. Маглеевым. Той са здзіўленнем аднёсся да самастойнай арганізацыі беларусаў, прапанаваў “сябраваць дамамі”. На першы ўстаноўчы сход А. Маглееў прывёў выкладчыка Г. Соніча, беларуса, які нарадзіўся ў Краснаярску. Гэты сход мусіў выбраць старшыню, зацвердзіць усе статутныя дакументы. Старшынёй быў выбраны нікому не вядомы, але прапанаваны ўладамі Г. Соніч. Рудакоў, нягледзячы на тое, што правёў усю чарнавую работу і ўсё арганізаваў, пагадзіўся з тым, што на пасадзе будзе чалавек, які мае выхад на ўрадавыя структуры.



*Маладзёжная секцыя ІТБК праводзіць «гуканне вясны»*

Новастворaная суполка цалкам трапіла пад кантроль улад. Асноўным рычагом, пры пасрэдніцтве якога праводзілася рэгуляванне дзейнасці, стала пасада старшыні. Тады і выявіліся асноўныя тонкасці ўзаемадзеяння такой структуры з адміністрацыяй. Мэта рэкамендацыі на пасаду старшыні суполкі —

утрыманне пад кантролем з усіх існуючых нацыянальных арганізацый. Але ўсю работу працягваў весці Рудакоў. Месца старшыні выкарыстоўвалася як вотчына, дзе можна выправіць уласнае фінансавае становішча. Кіраўніцтва таварыства сродкі, што выдзяляліся для работы, спажывала, не маючы патрэбы ў справаздачы перад астатнімі членамі. Пра многія паступленні нават не было вядома. Улады ж таксама не патрабавалі справаздач. Галоўнае — таварыства ёсць, беларусы вобласці прадстаўлены праз арганізацыю.

Вынікам такой дзейнасці ўладавых людзей стала перавыбранне Г. Соніча, яго выхад з таварыства.

Сённяшні старшыня, А. Рудакоў перавыбраны на гэтую пасаду на другі тэрмін. Цяпер ён вядзе работу ў таварыстве так, як яна і задумвалася. Асноўная задача гэтай дзейнасці заключаецца ў тым, каб прыцягнуць ва ўласныя шэрагі людзей не для масавасці, а дзеля таго, каб распаўсюдзіць як мага больш ведаў пра Беларусь. Вывучаецца гісторыя беларускай дыяспары. Дзейнічаюць некалькі беларускіх ансамбляў — дзіцячы і дарослы. Адкрыты філіял ў вёсцы Тургенеўка. Усталяваны кантакты з беларусамі іншых рэгіёнаў.

Узаемаадносіны ІТБК з гістарычнай радзімай, краінай, якую яно тут прадстаўляе, не простыя. Лідэры таварыства арыентуюць сваіх сяброў на распаўсюджванне сапраўднай беларускай культуры, вывучэнне мовы і традыцый. Натуральна, што Беларусь зацікаўлена ў тым, каб ў рэгіёнах Расійскай Федэрацыі ствараліся арганізацыі — як прадстаўнікі яе інтарэсаў. Кіраўніцтва ў гэтым выпадку нават гатовае выдзяляць сродкі для работы такіх структур. Аднак этыка не заўсёды дазваляе лідэрам таварыства звяртацца за дапамогай да цяперашняй афіцыйнай улады.

Тым не менш, сувязь з радзімай ёсць. Нямала кантактаў і з беларускімі прадпрымальнікамі. Першы з матываў, па якім гэтыя людзі ідуць на кантакт з ІТБК, цікавасць, як у далёкай ад Беларусі Сібіры беларусы самастойна арганізаваліся і пры гэтым існуюць амаль без падтрымкі краіны, якую прадстаўляюць. Некаторыя прадпрымальнікі ўнеслі свой уклад ў развіццё таварыства, пералічваюць фінансавыя сродкі ў яго фонд. Натуральна, гэтая дапамога мае разавы характар, але значыць для ІТБК вельмі многа.

Дваістае становішча беларускай культуры ў Беларусі адбіваецца і на адносінах у беларускім асяроддзі Іркуцка. Нярэдка на гэтай глебе ў таварыстве ўзнікае супрацьстаянне.

Яшчэ адзін цікавы момант гісторыі развіцця арганізацыі беларусаў у Іркуцкай вобласці. Таварыства трапіла ў поле зроку палітыкаў. Ягонымі сябрамі сталі В. Якавенка (былы нам. губернатара) і Г. Істомін (нам. старшыні Заканадаўчага схода Іркуцкай вобл.). Іх уступленне ў таварыства стала сігналам пачатку падрыхтоўкі да перадвыбарчай кампаніі ў губернатары Іркуцкай вобласці. У гісторыі абласнога палітычнага жыцця “хаджэнне ў народ” гэткім чынам, здаецца, прадпрынята ўпершыню. Цікава, як адрэагавалі на гэта шараговыя сябры таварыства. Афіцыйнае знаёмства з новымі сябрамі таварыства адбылося на IV справаздачна-перавыбарчым з’ездзе (12.3.2000). Людзі праніклісе “важнасцю

моманта". Яны намагаліся выказаць усё набалелае. Было ўзнята пытанне аб стварэнні касы ўзаемнай дапамогі. Людзі, якія збіраюцца разам па святах і інш., натуральна, дапамогуць чалавеку ў нядолі. На з'ездзе была выказана ідэя перавесці гэтую форму ўзаемадзеяння сяброў арганізацыі на афіцыйны ўзровень. В. Якавенка, у чыіх руках знаходзіцца кіраванне вялікімі фінансавымі рэсурсамі, прапанаваў праз яго банк (Байкаланэксімбанк) выдаваць пазыкі пад паручыцельства таварыства. Гэта было горача ўспрынята беларусамі. Трэба звярнуць увагу, што з гэтымі новымі магчамасцямі якасна змяняецца сутнасць ІТБК як нацыянальна-культурнай арганізацыі. Адбываюцца змены і ва ўспрыняцці самімі беларусамі таварыства. Хутчэй за ўсё яго можна назваць спажывецкім. Ды гэта праблема ўсіх нацыянальна-культурных суполак.

Як будуць развівацца падзеі, пакажа час. Відавочна тое, што работу нацыянальна-культурных суполак нельга пакідаць без увагі, варыцца ім ў сваім саку. Улады павінны абавязкова прымаць удзел ў фарміраванні нацыянальнага клімату ў краі.



## З РЭДАКЦЫЙНАЙ ПОШТЫ

### НАБЛІЖАЕЦЦА ЮБІЛЕЙ ІГНАТА ДАМЕЙКІ

У 2002 г. споўніцца 200 год з часу нараджэння славутага беларускага, польскага і чылійскага вучонага і падарожніка, ураджэнца в. Медзвядка Карэліцкага р-на Ігната Дамейкі. У сувязі з юбілеем добра было б выдаць у "Беларускім кнігазборы" ў перакладзе з польскай ці іспанскай мовы яго "Араўканію", дзе ён абараняў паўднёва-амерыканскіх індзейцаў. Нядаўна я прачытаў у "Кантактах і дыялогах", што вы атрымалі з Варшавы перавыданне гэтай кнігі. То, можа, вы зробіце з яго ксеракопію і перашліце ў Навагрудак дырэктару гісторыка-краязнаўчага музея Тамары Вяршыцкай, якая мне пісала, што можа дапамагчы з перакладам.

Хачу таксама асцярожна пацікавіцца, ці не магла б МАБ, Скарынаўскі цэнтр ці якая іншая ўстанова, што знаходзіцца ў полі вашага зроку, дапамагчы мне ў выданні рукапісу пра беларуска-індзейскія ўзаемадачыненні, які з'яўляецца справай усяго майго жыцця.

***Алесь Сімакоў**, старшыня Беларуска-індзейскага таварыства (Гомель)*

*Ад рэдакцыі.* Наколькі нам вядома, "Беларускі кнігазбор" плануе выданне аднатомніка Ігната Дамейкі. Аднак пакуль што няма на яго фінансаў. Нічым не можам дапамагчы і Вам асабіста: у нас на чарзе таксама некалькі нерэалізаваных выданняў. Але, можа, беларуска-індзейскімі ўзаемадачыненнямі зацікавіцца хтосьці з нашых чытачоў — патэнцыяльных дабрадзеяў. Што ж датычыцца "Араўканіі", то яна ёсць на Навагрудчыне: адзін яе экземпляр, рэдкае выданне 1861 г., быў перададзены намі ў Медзвядку, у школьны музей.

***Аляксандар Надсан*** *(Лондан)*

# ПРАЦЯГВАЮЧЫ СПРАВУ СЬВЯТЫХ АПОСТАЛАЎ СЛАВЯНАЎ (РАЗВАГІ ПЕРАКЛАДЧЫКА ЛІТУРГІЧНЫХ ТЭКСТАЎ)

Айцец **Аляксандр Надсон** — дырэктар Беларускай бібліятэкі і музея імя Ф. Скарыны ў Лондане, апостальскі візітар для беларусаў-каталікаў. Аўтар кнігі пра Кірылу Тураўскага, іншых прац, перакладаў літургічных тэкстаў. У аснове артыкула — даклад, прадстаўлены на III Міжнародны кангрэс беларусістаў.

У пачатку 1920-х гадоў беларускі святар і паэта Казімір Сваяк пісаў:

Пашлі мне, Божа, пару такую,
Калі пачнём мы Імшу сьвятую
За край наш родны адпараўляць:
Бо вельмі цяжка, што мова наша, —
Розуму й сэрца нашага паша, —
Ня ўмее Бога праслаўляць [1].

Увосень 1953 г. я першы раз пераступіў парог Грэцкай калегіі ў Рыме. У тым часе я не ведаў вышэй прыведзенага верша, але ён вельмі добра перадаваў тое, што мяне хвалявала.

Грэцкая калегія была заснаваная ў 1577 г. папам Рыгорам XIII “для грэкаў і іншых усходніх нацыяў”. У адрозненне ад іншых падобных установаў у Вечным Горадзе, яна была прызначаная для студэнтаў, згодна з тагачаснай тэрміналёгіяй, “закону грэцкага”, г. зн. бізантыйскага абраду. Пасля Берасцейскай Уніі ў ёй вучылася нямала беларусаў, сярод іх будучыя мітрапаліты Язэп Руцкі, Рафаэль Корсак, Антон Сялява, Габрыель Календа, Кіпрыян Жахоўскі і інш. У маім часе сярод студэнтаў былі грэкі, італа-албанцы, албанцы, арабы з Сырыі, Лібану, Галілеі і румыны. Багаслужэнні адбываліся па-грэцку. Лекцыі ва унівэрсітэце чыталіся на лацінскай мове. Звычайнай мовай зносінаў між студэнтамі была італьянская, хоць безумоўна кожная група гаварыла між сабою на роднай мове.

Мяне тады ўразіла, што ўсе нацыянальныя групы, прадстаўленыя ў калегіі, мелі літургічныя тэксты на ўласнай мове. На ёй адпраўлялі літургію новыя святары, а таксама госці, якія прыязджалі з Грэцыі і Блізкага Усходу. Мне было сумна, што беларусы ня маюць літургіі на роднай мове. Узнікла нават падазрэнне, што, можа, Дух Святы, калі раздаваў мовы апосталам, забыўся пра нас… З усёй павагай да царкоўнаславянскай мовы, я з уласнага дасведчання ведаў цяжкасці ў зразуменні сэнсу прачытанага або пачутага. Іншыя мелі не меншыя цяжкасці. Памятаю, як некалькі гадоў пазней я спытаўся ў аднаго праваслаўнага святара, які быў у мяне ў гасцях, ці разумеюць ягоныя парафіяне, калі ён служыць на царкоўнаславянскай мове. Было якраз свята прарока Іллі, калі на вячэрняй службе чытаюцца доўгія ўрыўкі са Старога Запавету. Мой госць шчыра прызнаўся:

“Яны не разумеюць, але прымаюць вераю”. Мяне такі адказ моцна здзівіў. Я падзіўляў веру гэтых людзей, але таксама мне стала крыўдна за іх, што іх так абдзялілі. Дый што казаць пра свецкіх, калі святар з трыццацігадовым стажам сур’ёзна стараўся пераканаць мяне, што ў нядзельным трапары 4 тону “Светлую воскресення проповедь от ангела уведевше Господние ученицы…”, слова “ученицы…” азначае вучняў Хрыстовых, г. зн. мужчынаў… Калі б ён ведаў грэцкую мову, ён ніколі не перамяшаў бы *μαθ˝τριαι* (вучаніцы) з *μαθηταί* (вучні).

Мне прыгадаўся вялікі знаўца народнага жыцця Якуб Колас, які ў сваёй “Новай зямлі” так апісаў працэс чытання Дзеянняў святых Апосталаў у царкве перад пачаткам велікоднай службы:

А Чыліноў Алесь надзьмуўся.
Ў святыя дзеянні уткнуўся
І там, дзе слоў не расчытае,
На сажань голас працягае [2].

У 1959 г., ужо як святар, я вярнуўся ў Лондан і адразу ўзяўся за працу над перакладам святой Літургіі. Недзе ў пачатку 1960 г. я з гонарам прынёс плён маіх высілкаў на суд да маіх старэйшых калегаў-святароў, але яны хутка астудзілі мой энтузіязм: як гэта я асмеліўся ўзяцца за такую працу, якую старэйшыя і больш дасведчаныя за мяне баяцца пачынаць. Гэта было добра для маёй пакоры, але сваіх намераў я не пакінуў і працягваў працаваць над перакладамі, не паказваючы іх нікому, праз блізу 20 наступных гадоў.

Патрэба літургічных тэкстаў на беларускай мове тады ўжо выразна адчувалася. Незалежна ад мяне ў Чыкага Вацлаў Пануцэвіч зрабіў пераклад Літургіі Св. Яна Залатавуснага і ў 1958 г. выдаў яе асобнай кніжкай. Ягоным перакладам карысталіся ў беларускай грэка-каталіцкай царкве Хрыста Спаса ў Чыкага. Крыху пазней літургічнымі перакладамі пачаў займацца Архіепіскап Беларускай Праваслаўнай Аўтакефальнай Царквы Мікалай. У 1980 г. у Таронта выйшаў друкам ягоны “Службоўнік” (другое выданне ў 1994 г.).

Першая неабходная ўмова добрага перакладу — веданне мовы арыгіналу і той, на якую робіцца пераклад. У выпадку бізантыйскага абраду арыгінальнай мовай ёсць грэцкая. Існуюць многія добрыя пераклады бізантыйскіх літургічных тэкстаў на сучасныя мовы, і яны могуць быць вельмі карысныя для параўнання. Калі ідзе пра царкоўнаславянскія тэксты, асвячаныя больш як тысячагадовай традыцыяй, дык яны ў сваёй абсалютнай большасці вельмі блізкія да грэцкіх арыгіналаў. Можна сказаць, што яны з’яўляюцца прыкладам, якімі павінны быць пераклады. Толькі ў некаторых выпадках будова сказаў паводле ўзору грэцкага сінтаксісу робіць тэкст цяжкім да зразумення.

Апрача моваў перакладчыку трэба мець добрую багаслоўскую і літургічную падрыхтоўку. Веданне гістарычных абставінаў, у якіх ствараўся твор, дапамагае зразуменьню тэксту.

Для прыкладу прыгледзімся да перакладаў гімна “Адзінародны Сыне…”,

які спяваецца пасля другога антыфана на літургіі св. Яна Залатавуснага і Базыля Вялікага, і параўнаем іх з арыгінальным грэцкім тэкстам.

1. ***Грэцкі арыгінальны тэкст*** [3]. Ὁ μονογενὴς Υἱὸς καὶ Λόγος τοῦ Θεοῦ, ἀθάνατος υπάρχων, καὶ καταδεξάμενος διὰ τὴν ἡμετέραν σοτηρίαν σαρκωθῆναι ἐκ τῆς ἁγίας θεοτόκου καὶ ἀϊπαρθένου Μαρίας, ἀτρέπτως ἐνανθρωπ˝σας, σταυρωθείς δε. Χριστ  ὀ Θεός θανάτω θάνατον πατ˝σας, εἷς ὢν τῆς ἁγίας Τριάδος, συνδοξαζόμενος τῷ Πατρί και τῷ Ἅγίῳ Πνεύματι, σῶσον ἡμᾶς.

2. ***Царкоўнаславянскі тэкст*** [4]. Єдинородный Сыне и Слове Божїй, безсмертенъ сый, и изволивый спасенїѧ нашего ради воплотитисѧ ѿ свѧтыѧ Богородицы и приснодѣвы Марїи, непреложно вочеловѣчивыйсѧ: распныйсѧ же, Христе Боже, смертїю смерть поправый, **единъ сый свѧтыѧ Троицы**, спрославлѧемый Отцꙋ и свѧтомꙋ дꙋхꙋ, спаси насъ.

3. ***Пераклад В. Пануцэвіча*** [5]. Адзінародны Сыне і Слова Божае, бясьсьмертны. Ты, каторы дзеля збаўленьня нашага нарадзіўся ад сьвятой Багародзіцы й заўсёды Дзевы Марыі, стаўся запраўдным чалавекам і быў расьпяты. О, Хрысьце Божа, ты ж сьмерцяй сьмерць пакарыў, **і адзіны ёсьць у Сьвятой Тройцы**, праслаўляны з Айцом і Сьвятым Духам, збаві нас.

4. ***Пераклад Архіеп. Мікалая 1980 г.*** [6]. Адзінародны і Несьмяротны Сыне і Слова Божае, прызволіўшы дзеля збаўленьня нашага, прыняць цела ад Сьвятое Багародзіцы і ўвесь час Дзевы Марыі і неадменна стацца чалавекам. І укрыжаваны быў, Хрысьце Божа, сьмерцяй сьмерць паканаў, **адзіны ў Тройцы**, роўнаслаўлены з Айцом і Сьвятым Духам, збаві нас.

4а. ***Папраўлены пераклад Архіеп. Мікалая 1994 г.*** [7]. Ты **Адзін са Сьвятой Тройцы**, роўнаславёны з Айцом і Сьвятым Духам, ратуй нас.

5. ***Пераклад А. Надсана*** [8]. Адзінародны Сыне і Слова Бога, Ты, Несьмяротны, дзеля нашага збаўленьня захацеў прыняць цела ад Сьвятое Багародзіцы і заўсёды Дзевы Марыі і, не зазнаўшы зьмены, стаўся чалавекам. Ты быў укрыжаваны, Хрысьце Божа, сьмерцю зьнішчыўшы сьмерць. **Будучы адным з Сьвятой Тройцы**, роўным славаю Айцу і Сьвятому Духу, збаў нас.

Гімн “Адзінародны Сыне…” — гэта свайго роду вызнанне веры. У ім сцвярджаецца, што **(а)** Хрыстос, будучы несмяротным Богам, не пацярпеўшы ніякай змены (ἀτρέπτως, **непреложно),** стаўся чалавекам. Пра гэта нічога ня кажацца ў тэксце 3; **(б)** Хрыстос ёсць адной з трох асобаў Святой Тройцы (εἷς ὢν τῆς ἁγίας Τριάδος, **единъ сый свѧтыѧ Троицы**) і ў ніякім выпадку адзіным у Святой Тройцы, як сказана ў тэкстах 3 і 4. Відавочна, абодва перакладчыкі не зразумелі арыгінальнага тэксту і, не маючы адпаведнай багаслоўскай падрыхтоўкі, не заўважылі, што з іхнім перакладам нешта не ў парадку. Я звярнуў ім на гэта ўвагу, і Уладыка Мікалай унёс папраўку ў другім выданні свайго “Службоўніка” ў 1994 г. (гл. тэкст 4а), але факт застаецца фактам, што гэтымі тэкстамі карысталіся беларускія святары і свецкія людзі праз даволі доўгія гады, і ніхто не заўважаў памылкі.

Гімн быў напісаны ў першай палове VI ст. праўдападобна самім імператарам Юстыніянам I (прыбл. 483–565), які намагаўся паяднаць манафізытаў з Царквою і знайсці формулу, якая, без кампрамісу ў веры, была б для іх прымальнай. Як вядома, манафізыты сцвярджалі, што Хрыстос меў толькі адну прыроду — Боскую. Яны былі пераканыя (памылкова), што ў гэтым яны заставаліся вернымі пастановам Трэцяга Сусветнага Эфэскага Сабору 431 г. У падтрымку сваіх поглядаў яны прыводзілі вядомую формулу св. Кірылы Александрыйскага "*μία φὺσις Θεοῦ Λόγου σεσσαρκομένη*" (адна ўцелаўлёная *прырода* Бога Слова). Гэтую формулу Кірыла ўжыў у абароне тоеснасці спрадвечнага Божага Слова (г. зн. другой асобы Святой Тройцы) і Слова ўцелаўлёнага, г. зн. Ісуса Хрыста, супраць Нэсторыя, які не прызнаваў гэтай тоеснасці і адмаўляў Найсвяцейшай Дзеве Марыі права да тытулу "Багародзіцы." На жаль, у фармулёўцы Кірылы адсутнічае яснае размежаванне паміж паняццямі "прырода" (*φύσις*) і "асоба" (*πρόσωπον*). Спатрэбілася дакладнасць лацінскай мовы — мовы заканадаўства і дзяржаўнай адміністрацыі, — каб унесці яснасць у гэтае пытанне. Гэта было зроблена папам Рымскім святым Львом Вялікім, які ў 449 г. у сваім лісце да патрыярха Канстантынопальскага Фляўіяна дае наступную фармулёўку: "Propter hanc ergo unitatem personae in utraque natura intelligendam et filius hominis legitur descendisse de caelo, cum Filus Dei carnem de ea virgine, de qua natus est, assumpserit. Et rursus Filius Dei crucifixus dicitur et sepultus…" [9] (Паколькі трэба разумець еднасць асобы ў дзвюх прыродах, кажам, што Сын Чалавечы зышоў з неба, у той час як Сын Божы прыняў цела ад тае Дзевы, ад якой нарадзіўся. Таксама кажам, што Сын Божы быў укрыжаваны і пахаваны…) Айцы Халкідонскага Сабору ў 451 г. прынялі фармулёўку Льва. У пастанове Сабору яны вызналі "Хрыста Сына Госпада адзінароднага ў дзвюх прыродах (*ἐν δύο φύσεσιν*)… з захаваньнем асаблівасцяў кожнай прыроды пры супадзенні ў адной асобе і адной існасці (*εἷς ἐν πρόσωπον καὶ μίαν ὑπόστατασιν συντρεχούσης*)" [10]. У гімне "Адзінародны Сыне…" гаворыцца пра гэта, але, каб не запалохаць манафізытаў, без тэрміналёгіі, устаноўленай Халкідонскім Саборам. Мэта прыцягнуць манафізытаў не была дасягнутая, але затое маем прыгожы гімн у гонар Госпада і Збаўцы нашага Ісуса Хрыста.


Беларуская Грэка-Каталіцкая (Уніяцкая) Царква
Сьвятых Апосталаў Пятра і Паўла ў Лёндане

БОСКАЯ ЛІТУРГІЯ МІЖ СЬВЯТЫМІ АЙЦА НАШАГА ЯНА ЗАЛАТАВУСНАГА

"…Каб кожны язык вызнаваў, што Ісус Хрыстос — Госпад на славу Бога Айца"
(Філп 2:11)

Кніга для сьвятара

Лёндан 1999

Як другі прыклад можа служыць наступны вядомы вячэрні гімн "Святло лагоднае…", які ўжо св.Базыль Вялікі (прыбл. 330–379) называў старажытным.

1. ***Грэцкі тэкст*** [11]. *Φῶς ἱλαρὸν ἁγίας δόξης ἀθανάτου* Πατρός, *οὐρανίου, ἁγίου, μάκαρος,* Ἰησοῦ Χριστέ, *ἐλθόντες ἐπὶ ἡλίου δύσιν, ἰδόντες φῶς ἑσπερινόν,* **ὑμνοῦμεν Πατέρα, Υἱόν, καὶ Ἅγιον Πνεῦμα, Θεόν.** Ἄξιον *σε ἐν πᾶσι καιροῖς ὑμνεῖσθαι φωναῖς αἰσίαις,* Υἱὲ Θεοῦ, *ζωὴν ὁ διδούς, διὸ ὁ κόσμος σὲ δοξάζει.*

2. ***Царкоўнаславянскі пераклад*** [12]. **Свѣте тихїй свѧтыѧ славы безсмертнагѡ ®ц҃а небеснагѡ, свѧтагѡ, блаженнагѡ, Іи҃се Хрсте: пришедше на запад солнца, видѣвше свѣтъ вечернїй, поемъ ®ц҃а, и̂ Сн҃а, и̂ свѧтаго дх҃а, Бг҃а. Достоинъ єеси во всѧ времена пѣтъ быти гласы преподобными, Сне бж҃їй, живостъ дай: тѣмже миръ Тѧ славить.**

3. ***Пераклад Архіеп. Мікалая*** [13]. Ісусе Хрысьце, ціхі сьвет сьвятой славы несьмяротнага Айца, нябеснага, сьвятога, праслаўленага, мы, дажыўшы да заходу сонца, пабачыўшы сьвятло вячорняе **славім Айца, і Сына, і Сьвятога Духа**. Ты Сын Божы, што даеш жыцьцё. Ты дастойны, каб праслаўлялі Цябе ўвесь час галасамі справядлівых; дзеля гэтага ўвесь сьвет Цябе славіць.

4. ***Пераклад А. Надсана*** [14]. Сьвятло лагоднае сьвятое славы несьмяротнага Айца нябеснага, сьвятога, блаславёнага, Ісусе Хрысьце! Дажыўшы да заходу сонца, убачыўшы вячэрняе сьвятло, **славім Айца, і Сына, і Сьвятога Духа — Бога**. Дастойна ёсьць на ўсякі час чыстымі галасамі пяяць хвалу Табе, Сыне Божы, што даеш жыцьцё: дзеля гэтага сьвет славіць Цябе.

Адразу відаць, што тэкст № 3 далёка адыходзіць ад арыгінальнага грэцкага і ад царкоўнаславянскага. У прыватнасці, царкоўнаславянскаму слову **свѣтъ** (па-грэцку *φῶς*) У беларускай мове адказвае слова **святло**, а беларускі **свет** (па-грэцку *κόσμος*) перакладаецца на царкоўнаславянскую мову словам міръ**.** Але гэта не адзінае скажэнне арыгінальнага тэксту. Святы Базыль, які — разам са сваім братам Рыгорам Ніскім і прыяцелем Рыгорам Назьянскім, — першы распрацаваў і сфармуляваў вучэнне Царквы пра Святую Тройцу, прыводзіў гімн “Сьвятло лагоднае…” як доказ таго, што гэтае вучэнне поўнасцю супадае з традыцыйнай вераю ў Бога ў Тройцы адзінага, што існавала ў Святой Царкве ад самага пачатку. Можна сказаць, што гэта адзін з ранніх прыкладаў прымянення прынцыпу “lex orandi, lex credendi” (закон малітвы — закон веры). Дзеля гэтага ў фразе “славім Айца, і Сына, і Сьвятога Духа — Бога”, кожнае слова важнае: адкінуўшы адно з іх (у гэтым выпадку “Бога”), скажаецца ўвесь сэнс.

Гэтыя два прыклады паказваюць, што для перакладчыка літургічных тэкстаў недастаткова ведаць самыя мовы: ён павінен мець добрую багаслоўскую падрыхтоўку і веданне гістарычных абставінаў, пры якіх дадзены тэкст быў напісаны.

У першыя дні майго прабывання ў Грэцкай калегіі ў Рыме была вяліка бура. Мае грэцкія сябры раптам ажыўлена пачалі крычаць: “Катаклізма, катаклізма!” Некалькі дзён пазней некаторыя малодшыя студэнты, як гэта бывае, крыху дурэлі на панадворку калегіі, і старэйшы студэнт сказаў ім супакоіцца, бо “космос влепі” (свет глядзіць). Гэта мяне ўразіла. Для нас словы “катаклізм” ці

“космас” маюць асаблівае значэнне, і таму мне было дзіўна пачуць іх з вуснаў маладых людзей, як нешта штодзённае, звычайнае. З таго часу я пачаў прыглядацца больш дакладна да іншых словаў у хрысціянскай багаслоўскай тэрміналогіі, і знайшоў, што большасць з іх была адаптацыяй штодзённых слоў. Святы Павал быў асабліва добрым у гэтай адаптацыі. Ён першы, напрыклад, пачаў ужываць слова ὑπόστασις, якое было вядомае ў грэцкай мове ў розных значэннях у штодзённым ужытку і ў філязофіі. У лісце да Гэбрэяў ён кажа, што Хрыстос ёсць Χαρακτ˝ρ ὑποστάσεως (па-лаціне “figura substantiae”, або “вобраз існасці”) [15] Бога (Гэб. 1:3). Такім чынам, слова, нават самае звычайнае, здольнае набыць іншае, “глыбейшае”, значэнне ў залежнасці ад прадмету, да якога яно адносіцца.

Гэта дало мне шмат да думання, калі я ўзяўся за пераклад. Кожная мова мае свае багатыя скарбы і, перш як рабіць запазычанні з іншых моваў, — а без іх ніводная мова не можа абыйсціся, — трэба старацца выкарыстаць іх. Несумненна, ёсць запазычаньні, якія бытуюць ў нашай мове доўгі час і сталіся яе неад’емнай часткаю. Такім ёсьць, напрыклад, слова “царква”, якое, — як і ангельскае “church” і нямецкае “Kirche”, — у канцовым выніку паходзіць ад грэцкага Κύριος, або κυριακός. Таму ўводзіць слова “Эклезія” (між іншым, таксама грэцкага паходжання), або ствараць новае тыпу “субожні” няма патрэбы.

Грэцкае слова “euloge…n (перш. асоба адзін. ліку “euloglњw) сустракаецца вельмі часта ў літургічных тэкстах і азначае даслоўна “казаць добрае слова (пра некага), хваліць”. У лацінскай мове яму адказвае слова **benedicere,** а ў царкоўнаславянскай **благословлѧть, благословить.** Пераклад гэтага слова стварае немалыя цяжкасці. Можна было б пакінуць царкоўнаславянскае “благасловіць” (не “благаславіць”), калі б не тое, што слова “благі” ў беларускай мове мае адмоўнае значэнне (“Тлумачальны слоўнік беларускай мовы” дае іх аж сем!). Таму ад даўжэйшага часу вядуцца спробы замяніць яго нейкім іншым. Некаторыя аўтары ўжываюць слова “багаславіць”, але гэта мяняе першапачатковы сэнс. Слова “дабрасловіць” (не “дабраславіць”!) аддае добра сэнс, але яно не вельмі мілагучнае. І вось аднойчы выпадкам, чытаючы кнігу Рыгора Барадуліна “Адам і Ева”, у вершы “Мая Бацькаўшчына” я натрапіў на наступныя радкі:

> Ты **бласлаўляла** даланёй кляноваю
> Сваіх сыноў.
> Слязамі дабяла
> Бяліла лён у світку Каліноўскаму
> І Нёмнам ў сны Ўрублеўскаму плыла [16].

Слова “бласлаўляла” зачаравала мяне сваёй мілагучнасцю і, калі так можна сказаць, беларускасцю (хоць этымалёгію ягоную няцяжка ўстанавіць). Ад гэтага часу я вырашыў ужываць яго паслядоўна ва ўсіх маіх перакладах. Пазней я сустрэў яго ў творах іншых аўтараў, у тым ліку Янкі Купалы [17]. Яно таксама зафіксаванае ў “Тлумачальным слоўніку беларускай мовы” [18]. Нешта падобнае здараецца і ў іншых мовах. Напрыклад, у французскай мове лацінскае слова “benedicere” прыняло форму “bénir”.

Між іншым, няма ніякай патрэбы ўводзіць у беларускую мову слова “благадаць”, калі ў ёй ёсць прыгожае слова “ласка”, якое сустракаецца ўжо ў Францішка Скарыны, напр. у малітве да ўкрыжаванага Ісуса ў “Малой падарожнай кніжцы” (Вільня, 1522):

“Збавителю наш Господи Ісусе Христе, вижу Тя на кресте висяща, для превеликое милости юже имел еси к роду человеческому… Серце имаши отворено, хотяй **ласку** свою всем дати… Ныне молю ти ся … услыши и прими молитвы моя, подай мне **ласку** свою, и пригорни мя к собе, и буди при мне в час страшное и горкое смерти моея. Аминь” [19].

У беларускай мове словы з прыстаўкаю *прэ- (пра-)* тыпу “прамудрасць” або “прэсвятая” гучаць як чужыя. Дый няма ніякай патрэбы іх ужываць: куды прасцей і прыгажэй казаць “мудрасць”, “найсвятая” або “найсвяцейшая”. Асобна трэба сказаць пра слова “прэпадобны”. У царкоўнаславянскай мове “преподобный” з’яўляецца перакладам грэцкага ὅσιος, — аднаго з трох словаў са значэннем сьвятасці (два іншыя — ἅγιος і ἱερός), — што азначае “пабожны, багабойны, пачэсны”. Слова “пачэсны” найбольш прыдатнае ў нашым выпадку. Польскае слова “вялебны” (wielebny) азначае тое самае, што і “пачэсны”, і таму няма ніякай патрэбы ўводзіць яго ў нашую мову, як гэта апошнім часам робяць некаторыя аўтары.

Такім чынам, трэба ўжываць запазычанні вельмі абачліва, каб не ператвараць мову ў царкоўную “трасянку”. Калі ідзе пра наватворы, то і тут асцярожнасць не пашкодзіць. З другога боку, не трэба баяцца ўводзіць новае слова, калі на гэта існуе патрэба: важна, каб яно было ў духу мовы. Як прыклад няўдалага наватвору, які не прыжыўся, можа служыць вышэй узгаданая “субожня”. Да ўдалых належыць несумненна “святар”, створаны на ўзор такіх словаў як “змагар”, “пясняр”, “уладар” і інш. Больш мілагучнае і беларускае за “сьвяшчэнніка” (а тым больш “ксяндза”…), гэтае слова ўжо прыжылося ў мове, і няма сумніву, што ягонае ўжыванне будзе пашырацца.

Вось толькі некалькі прыкладаў практычных праблемаў, якія сустракаюцца ў працы над перакладамі літургічных тэкстаў.

Мой першы намер быў зрабіць пераклад адной Літургіі святога Яна Залатавуснага. З поступам працы расла ахвота. Вось пералік галоўных тэкстаў, перакладзеных на беларускую мову:

1. Літургіі сьв. Яна Залатавуснага, Базыля Вялікага і Раней асьвячаных дароў.

2. Службы дзённага кругу: вячэрня, павячэрніца, ютрань, кананічныя гадзіны.

3. Службы нядзельныя васьмі тонаў поўнасьцю.

4. Службы велікапоснага і велікоднага перыядаў (службы Вялікага і Светлага тыдняў поўнасцю).

5. Службы на ўсе сьвяты Гасподнія і Багародзіцы, а таксама вялікіх сьвятых (напр. Нараджэньне сьв. Яна Хрысьціцеля, сьвятых апосталаў Пятра і Паўла),

у тым ліку тых, якія існуюць толькі ў славянскім варыянце (Покрыва Багародзіцы, сьв. Еўфрасіньні Полацкай, сьв. Язафата).

6. Сьвятыя тайны: хрост і мірапамазаньне, шлюб, алеепамазаньне хворага.

7. Парадак пахаваньня памерлага і служба за памерлых (г. зв. паніхіда).

8. Прынагодныя службы: Акафіст Імю Ісусаваму (з “Малой падарожнай кніжкі” Скарыны); Акафіст Найсьвяцейшай Багародзіцы; Малебны канон Багародзіцы; малебныя службы на розныя нагоды, у тым ліку малебен за Беларусь.

9. Розныя патрэбы: асьвячэньне крыжа, іконы, новага дому і г. д.




Беларускія літургічныя тэксты былі часова зацверджаныя Кангрэгацыяй для Усходніх Цэркваў у Рыме ў 1994 г. На пачатку гэтага юбілейнага году, пасля пяцігадовага пробнага перыяду, яны атрымалі канчатковае зацверджанне. Такім чынам, на сёньняшні дзень яны з’яўляюцца афіцыяльнымі тэкстамі, якімі карыстаецца Беларуская Грэка-Каталіцкая Царква на Бацькаўшчыне і ў дыяспары.

Безумоўна, праца не скончаная. Цяперашнія пераклады далёкія ад дасканаласці, але перакладчык адчуваў, што для яго прыйшоў час затрымацца, маючы на ўвазе лацінскую прыказку “дасканалае — вораг добрага.” Хочацца спадзявацца, што хутка з’явяцца новыя, лепшыя пераклады. Трэба было б таксама ў наш экумэнічны век навязаць супрацоўніцтва з братамі рыма-каталікамі і праваслаўнымі, асабліва дзеля ўзгаднення тэрміналогіі. Выглядае дзіўна і несамавіта, калі ў залежнасці ад канфэсыйнай прыналежнасці на адно паняцце ўжываюцца тры словы, напр. “Госпад”, “Гасподзь” і “Пан.” Некалі Чэрчыль сказаў, што ангельцы і амэрыканцы — дзве нацыі, якіх дзеліць супольная мова. Нешта падобнае можа стацца з беларусамі.

Кожная мова — гэта нешта адзінае і непаўторнае, яна ёсць, як прыгожа сказаў Францішак Багушэвіч, “адзежаю душы” [20]. Адносіны да якой колечы мовы — найлепшы паказчык нашых адносінаў да народу, які з’яўляецца яе носьбітам. Пра гэта трэба памятаць кожнаму, асабліва Святой Царкве, заснаванай Госпадам нашым Ісусам Хрыстом для збаўлення душаў людзкіх. Варта прыгадаць яшчэ адзін сказ Багушэвіча: “Наша мова для нас святая, бо яна нам ад Бога даная, як і другім добрым людцам” [21].

Хрыстос загадаў сваім вучням: “Ідзеце навучайце ўсе народы, хрысьцячы іх у імя Айца, і Сына, і Сьвятога Духа, і вучыце іх захоўваць усё, што Я сказаў

вам. І вось Я з вамі да сканчэньня сьвету” (Мц 28:20). Для спаўнення гэтага вялікага задання вучні Хрыстовыя ў дзень Сёмухі атрымалі ад Святога Духа дар моваў, так што людзі, якія з розных краінаў былі сабраўшыся тады ў Ерусаліме, дзівіліся і казалі адзін аднаму: “Як гэта кожны з нас чуе сваю родную мову?… Усе мы чуем, як яны (*г. зн. вучні*) абвяшчаюць на нашых мовах веліч Божую” (Дз 2:8,11). Францішак Скарына ў сваёй прадмове да “Дзеянняў святых Апосталаў” (Вільня, 1525) так піша пра гэта:

“Для прарокаў быў дадзены дух, каб адзінай габрэйскай або хальдэйскай моваю прапаведавалі людзям. А для апосталаў і тых, што вераць у Хрыста, быў дадзены Дух Святы, каб абвяшчаць на ўсіх мовах, што ёсць пад сонцам, праўду Божую, слова збаўлення і валадарства нябеснае” [22].

Такім чынам, ад самага пачатку ўсе мовы былі аднолькава прымальныя і добрыя для пашырэння весткі пра валадарства Божае. На практыцы, аднак, не ўсё выглядала так проста. Святыя Кірыла і Мятод у сваёй працы над перакладамі святых тэкстаў на славянскую мову мелі шмат праціўнікаў, якія, сярод іншага, цвердзілі, што толькі габрэйская, грэцкая і лацінская мовы, — на якіх быў зроблены Пілатам напіс на крыжы Гасподнім, — годныя для хвалы Божай. На шчасце, папа Адрыян II не паслухаўся гэтых і падобных ім доказаў: у 868 г. ён адобрыў працу святых братоў, паклаўшы скрутак з тэкстамі іхніх перакладаў на алтары ў царкве Багародзіцы “Фатні” ў Рыме (цяпер базыліка Santa Maria Maggiore).

У нашыя дні няма ўжо бадай нікога, хто б адмаўляў людзям права хваліць Бога на роднай мове. Хіба толькі на Беларусі, дзе ёсць яшчэ нямала такіх, што супраціўляюцца ўжыванню беларускай мовы ў царкве. Але робяць яны гэта, зыходзячы з меркаванняў, якія не маюць нічога супольнага з рэлігіяй. Між іншым яны любяць паклікацца на святых Кірылу і Мятода, кажучы, што “славянская мова для нас не чужая.” Несумненна, Кірыла і Мятод вельмі блізкія і дарагія для ўсіх нас: у гімне на вячэрняй службе ў іхні гонар яны называюцца “хвалою славянаў”, дзякуючы якім “мы, вызваленыя ад д’ябальскай спакусы і цемры грахоўнай, атрымалі дабравешчанне Хрыстова і спазналі спрадвечнае Слова” [23]. Яны таксама стварылі ўмовы для славянскіх народаў развіць свае духоўныя скарбы і заняць належнае месца сярод іншых народаў свету. Гэта прызнаў і цяперашні папа Ян Павал II, калі абвесціў іх у 1980 г. апекунамі Эўропы. Для нас святыя браты з’яўляюцца прыкладам сапраўднага апостальскага служэння Богу і людзям, і мы выкажам найлепш нашую павагу і ўдзячнасць да іх, калі станемся іхнімі пераймальнікамі, стараючыся пашыраць вестку пра валадарства Божае сярод людзей у найбольш даступнай для іх форме, гэта значыць на роднай мове.

Галоўная мэта кожнай мовы — размаўляць, быць сродкам зносінаў між людзьмі. Беларуская мова ў гэтым не выключэнне. На ёй можам размаўляць не толькі між сабою, але з самім Богам.

*Лондан, травень 2000 г.*

[1] Сваяк Казімір. Мая ліра. Вільня, 1923. С. 41.

[2] Колас Якуб. Новая зямля.Мн., 1968. С. 286.

[3] Ἱερατικόν. Рым, 1950. С. 110.

[4] **Іерейскїй молитвословъ**. Рым, 1950. С. 245.

[5] Служба Божая або сьв. Літургія сьвятога Яна Залатавуснага / Апрацаваў В. П. Чыкаго, 1958. С. 21.

[6] Службоўнік.Таронта, 1980. С. 42.

[7] Службоўнік. Другое выданьне. Таронта, 1994. С. 42.

[8] Боская Літургія між сьвятымі Айца нашага Яна Залатавуснага: Кніга для сьвятара. Тэкст папраўлены. Лёндан, 1999. С. 21.

[9] Rouet de Journel M. J. Enchiridion partisticum. Friburg, 1959. P. 691.

[10] Denzinger H., Schonmetxer A.. Enchiridion symbolorum.Friburg, 1965. P. 108.

[11] Ἱερατικόν. С. 15.

[12] **Іерейскїй молитвословъ**. С. 279.

[13] Службоўнік. Другое выданьне. Таронта, 1994. С. 189.

[14] Вячэрня. Тэкст папраўлены і пашыраны. Лёндан, 1999. С. 14.

[15] Гл. Moulton J. M., Milligan G.. The Vocalbulary of the Greek Testament, illustrated from the Papyri and other non-literary Sources. London, 1972. P. 659.

[16] Барадулін Рыгор. Адам і Ева. Мн., 1968. С. 130.

[17] Слоўнік мовы Янкі Купалы / Рэд. У. Анічэнка. Мн., 1997. Т. 1. С. 137.

[18] Тлумачальны слоўнік беларускай мовы ў пяці тамах. Мн., 1977. Т. 1. С. 384.

[19] Паводле паасобніка "Малой падарожнай кніжкі" ў Каралеўскай бібліятэцы ў Капенгагене. Мікрафільм у Бібліятэцы Ф. Скарыны ў Лондане.

[20] Гл. Багушэвіч Францішак. Творы. Мн., 1998. С. 22.

[21] Тамсама. С. 21.

[22] Гл. Скарына Францыск. Творы. Мн., 1990. С. 104.

[23] Выбраныя службы з мінэі. Травень / Пер. А. Надсана. "Божым шляхам". Лёндан, 2000. С. 16.



## З РЭДАКЦЫЙНАЙ ПОШТЫ

### ШАНОЎНЫ ПАНОЧКУ РЭДАКТАР!

Так атрымалася, што № 6 "КіД" прачытаў толькі цяпер. І адразу спяшаюся падзякаваць за абнародаванне на старонках бюлетэня даследчага праекта пані Монікі Банкоўскі. Прываблiваюць, узрушваюць развагі шаноўнае калегі з Цюрыха над праблемай бібліяграфічнага, навукова выверанага зводу звестак пра Беларусь у публікацыях заходніх гісторыкаў і падарожных на працягу XV – пачатку XX ст. Масштабнасць мыслення, аналітычная дакладнасць, крыніцазнаўчая дасведчанасць аўтара разам з яе вычуленасцю на драматычныя лёсы нашае Беларусі — праз доўгія гады на еўрапейскай мапе амаль нязнанае, "безімяннае" краіны, "заслоненай імёнамі больш магутных суседзяў" — усё гэта не можа, не павінна пакінуць абыякавымі ні навукоўцаў, ні адпаведныя структуры ў Рэспубліцы Беларусь і за межамі. Маем, пасутнасці, бліскучую, доказную заяўку на унікальны, відавочна універсальны па значэнню праект, варты супольнага міжнароднага фундавання і належнае каардынацыі. Віват пані Моніцы!

*Заканчэнне на стар. 37*



*Генадзь Кісялёў* (Мінск)

## ФРАНЦЫСК СКАРЫНА І ІААХІМ ЛЯЛЕВЕЛЬ

**Генадзь Кісялёў** — доктар філалагічных навук. Лаўрэат Дзяржаўнай прэміі Беларусі. Аўтар шматлікіх кніг па гісторыі беларускай літаратуры XIXі пачатку XX ст. У апошні час зацікавіўся постаццю Ф. Скарыны. Працуе ў Інстытуце літаратуры імя Янкі Купалы НАНБ.

Пра цікавасць да Ф. Скарыны выдатнага польскага гісторыка, прафесара Віленскага універсітэта Іаахіма Лялевеля, куміра філаматаў, вядома даўно. У энцыклапедыі “Францыск Скарына і яго час” яму адведзены асобны невялікі артыкул (аўтар Ю. Лабынцаў). Там называюцца дзве лялевелеўскія публікацыі. Найперш гэта кнігазнаўчая праца “Дзве бібліяграфічныя кнігі…” (Вільня, 1823–1826. Т. 1–2). Лялевель расказаў у ёй пра выдавецкую дзейнасць Скарыны ў Празе і Вільні, паспрачаўся з папярэднімі даследчыкамі пра храналогію яго выданняў, падкрэсліў іх “надзвычайную рэдкасць”, назваў кнігі Скарыны, якія захоўваліся тады ў бібліятэцы Варшаўскага універсітэта, прывёў узоры Скарынавых шрыфтаў, арнаментыкі і сімволікі (табл. XI: сігнет з сонцам і маладзіком і вядомы знак у выглядзе літары “Т” у трохкутніку). Праз паўтара дзесятка гадоў у “Гісторыі Літвы і Русі аж да Люблінскай уніі з Польшчай 1569 года” (Парыж, 1839), гаворачы аб вялікім значэнні “рускай” мовы ў ВКЛ, Лялевель зноў з пашанай назваў імя беларускага першадрукара, “русіна-палачаніна”.

Дадатковыя звесткі пра зварот Лялевеля да постаці Скарыны знаходзім у кнізе Я. Неміроўскага “Францыск Скарына” (Мн., 1990) і ў апошніх фундаментальных скарыназнаўчых бібліяграфіях, дзе адзначаны цікавыя ў гэтым аспекце публікацыі вучонага 1850-х гг. “Альбом польскага гравёра” (1854) і “Дзесяць мінулых вякоў даўняй Польшчы” (1858) [1]. Але скарыназнаўцы не ўлічваюць яшчэ адной адметнай публікацыі Лялевеля, у якой згадваецца Скарына. Маю на ўвазе яго геральдычную працу “Гербы ў Польшчы”, апублікаваную ананімна пры перавыданні ў 1839–1846 гг. вядомага гербоўніка К. Нясецкага. Калі быць дакладным, тэкст гэты скарыназнаўцамі заўважаны, але не звязваецца імі з Лялевелем. Таму ёсць патрэба спыніцца на гэтым падрабязней.

Як вядома, гербоўнік К. Нясецкага ўпершыню быў надрукаваны ў 1728–1743 гг. у чатырох тамах пад назвай “Карона польска”. У 1839 г. лейпцыгскі выдавец і музычны дзеяч Я. Бабровіч распачаў новае, дзесяцітомнае выданне працы К. Нясецкага пад назвай “Гербоўнік польскі”. Былі зроблены істотныя дапаўненні паводле матэрыялаў пісьменніка І. Красіцкага (у выглядзе асобных

уставак яны раскіданы па ўсіх тамах, кожны раз аўтарства іх агаворваецца) і самога Я. Бабровіча (спецыяльны ёмісты дадатак у завяршальным, дзесятым томе, які выйшаў у 1845 г.). Першы том, работа над якім пачалася ў 1839 г., выдавец затрымаў, вырашыўшы дапоўніць яго геральдычнымі матэрыяламі агульнага характару. Зрабіць гэта ён папрасіў І. Лялевеля, які жыў тады ў эміграцыі ў Брусэлі. У сваім аўтабіяграфічным эсэ "Прыгоды ў пошуках і даследаваннях польскіх нацыянальных рэчаў" Лялевель расказвае: "Вясной 1843 г. зазірнуў з Лейпцыга Бабровіч шукаць у Брусэлі аўтараў. У гэтым пошуку надышла і мая чарга. Паведамляе мне, што завяршае выданне Нясецкага і хоча, каб я заняўся першым томам" [2].


A B C D E F G

Klucz w Jasieńczyku był już rozszerzony w Polszcze, podobał się Litwie, wzięły go niektóre rodziny. Obuchowicz swój znak nazwał kluczem rozdartym czy z zębem na dwie strony, A. — Podobny znak Kołontaja nie został uznany za klucz, i słusznie: ale zastosowany został do kotwicy przewróconej, zamiast wywiniętych nóg, wyprężone w poprzecznicę ramiona wystawującej uchem na dół, E. Znak ten, 1519, Skorina w Pradze jak monogramm liter TA, a w Wilnie 1525 jak T trójkątami osadzone wyobrażał, B, C; u Kołontajów wychudł nieco, D; zaczem później, w kotwicę mniemaną przeszedł, E. — Dulicz takąż postać na pół pierścienia osadził, F. — Hołowni G, za kotwicę niewzięto. Z takiemi, bądź literami, bądź znakami Ruskiemi i Litewskiemi, spotykała się heraldyka Polska i chrzciła jak mogła [1]).

A B C

Для Бабровіча Лялевель зрабіў вельмі многа. Не лічачы параўнальна невялікага даведачнага тэксту "Маршалкі Літоўскага трыбунала", ён напісаў дзве надзвычай каштоўныя працы, якія займаюць у томе дзвесце старонак дробнага друку. Адна хутчэй гісторыка-юрыдычнага характару — "Пасады і ўстановы" (тут і пра ганаровыя званні, узнагароды і тытулы ў Рэчы Паспалітай). Другая чыста геральдычная — "Гербы ў Польшчы" (са спецыяльным раздзелам "Гербы літоўскія і рускіх ваяводстваў").

Між іншым, у згаданай аўтабіяграфіі "Прыгоды ў пошуках..." Лялевель раскрывае і закулісны бок супрацоўніцтва з выдаўцом, скардзіцца на скнарыстаць і "фіглі" Бабровіча, які, налічыўшы аўтару вельмі сціплы ганарар, запатрабаваў да таго ж вяртання тамоў Нясецкага, дадзеных вучонаму для працы. "Высветлілася, што далёка вышэй цаніў ён экземпляры свайго выдання, чымся напісанне працы" [3], — са скрухай зазначыў Лялевель. У рэшце рэшт вучоны пагадзіўся на мізэрны ганарар пры ўмове, што атрыманыя тамы Нясецкага астануцца ў яго. У снежні 1845 г. Лялевель выслаў Баброві чу рэшту свайго надзвычай важнага для навукі рукапісу.

Згаданыя арыгінальныя распрацоўкі Лялевеля былі надрукаваны ў 1-м томе "Гербоўніка", які выйшаў у 1846 г. (на тытуле пазначана: 1839–1846, пачатак і канец працы над томам). Публікацыя здзейснена ананімна, бо імя Лялевеля было забаронена ў Расіі, дзе Бабровіч спадзяваўся рэалізаваць значную, калі не большую, частку тыражу (сярод падпісчыкаў бачым, напрыклад, Радзівілаў, украінскую памешчыцу Э. Ганскую, будучую жонку Бальзака). У прадмове выдавец пісаў: "Адклаўшы на самы канец выданне І тома, спадзяюся, што публіка здолее годна ацаніць яго змест, да апрацавання якога спрычынілася, можа, адзінае сёння ў нас пяро, заўжды гатовае да вырашэння найбольш цяжкіх

загадак нашай мінуўшчыны. Перакананы, што пасля гэтых слоў кожны чытач, бліжэй абазнаны з нашай літаратурай, асабліва гістарычнай, адгадае імя знакамітага даследчыка” [4].

Аднак у прадмовы заглядаюць далёка не ўсе. З цягам часу намёк на аўтара губляў сваю празрыстасць. Да таго ж канкрэтныя межы ўдзелу “знакамітага даследчыка” ніяк не былі пазначаны. Так або інакш ананімнае бытаванне тэксту, вядома ж, не спрыяла замацаванню сапраўднага аўтарства, прыводзіла да блытаніны. Шмат хто ўспрымаў і ўспрымае тэкст выдатнага вучонага як тэкст Нясецкага [5]. Імя Лялевеля ў гэтай сувязі не заўсёды ўспамінаюць нават спецыялісты. Між тым, яго ананімная геральдычная праца — важкі ўклад у гербазнаўства не толькі Польшчы, але і Беларусі, Украіны, Літвы, грунтоўныя ўводзіны ў загадкавы свет айчыннай геральдыкі [6]. Лялевель падае ў сваёй працы як гісторыю шляхецкіх гербаў усяго рэгіёна, так і надзвычай цікавую сістэматызацыю гербавых знакаў паводле іх сваяцтва і выгляду (у сваёй галіне нешта накшталт своеасаблівай перыядычнай сістэмы Мендзялеева).

У сваю сістэматызацыю вучоны ўводзіць і скарынаўскі знак-трохкутнік. Пра сігнет з сонцам і маладзіком гаворкі тут няма — гэты высокамастацкі і глыбакадумны сімвал, відавочна, не знаходзіў колькі-небудзь блізкай аналогіі ў спецыфічных схемах родавай геральдыкі. А трохкутнік у вачах Лялевеля лёгка знайшоў сваё месца. Значэнне і паходжанне гэтага знака няяснае і дагэтуль. Скарыназнаўцы губляюцца нават у вызначэнні напрамку пошукаў. Адны лічаць яго гербам самога Скарыны або яго мецэната, другія сімвалам духоўных пошукаў нашага асветніка, трэція манаграмай мастака, які ўдзельнічаў у афармленні і ілюстраванні Скарынавых кніг. Для нас надзвычай важна, што выдатны гісторык мінулага стагоддзя, які шмат займаўся т. зв. дапаможнымі гістарычнымі дысцыплінамі (гербазнаўства, сфрагістыка, нумізматыка і г. д.), бачыў у гэтым знаку герб і ўпэўнена ставіў яго ў шэраг якарападобных або Т-падобных гербаў, распаўсюджаных у ВКЛ і Польшчы. Адзначае ён і пазнейшую эвалюцыю, мадыфікацыю Скарынавага знака, спрабуе адгадаць яго паходжанне. Паводле Лялевеля, у сваёй аснове гэта літарная манаграма: “Знак гэты ў 1519 годзе Скарына ў Празе падаваў як манаграму літараў ТА, а ў Вільні ў 1525 годзе як Т, апраўленае ў трохкутнікі” [7] (мелася на ўвазе з’яўленне дадатковых трохкутнікаў па краях верхняй перакладзіны).

Лялевель наогул лічыў, што “рускія” гербы паходзяць ад пячатак, якія ў сваю чаргу ўзніклі на аснове літараў. Вось і ў дадзеным выпадку ён пісаў: “Не прыходзіцца сумнявацца, што гэта сапраўды пачатковая літара Т нейкага слова адпаведнага значэння. Не хочам настойваць, каб абсалютна ўсе літары ў рускіх гербах абавязкова мелі сваё значэнне, але многія з іх яго не пазбаўлены. S–sigillum [знак, след, пячатка, кляймо], М–метка, П–пячатка, Т, якое досыць часта з’яўляецца ў розных гербах, можа ёсць *тайна*, таямніца, secretum. І якраз тое мелі значэнне, бо рускія гербы вялі свой радавод ад пячатак” [8].

Менавіта Лелевель, дзякуючы сваёй сістэме, убачыў блізкасць Скарынавага знака да герба Kotwica (якар), якім карыстаўся беларускі шляхецкі род

Калантаяў. У спісе літоўска-рускіх гербаў, які склаў вучоны, прозвішча Скарыны і Калантаяў аб'ядналы ўзаемнымі адсылкамі (каб не было сумнення, пра што гаворка, зроблена і спасылка на працу Лялевеля "Дзве бібліяграфічныя кнігі…") [9]. Гэта дало магчымасць наступным даследчыкам паставіць пытанне аб далучанасці Калантаяў да выдавецкай дзейнасці Скарыны. Праўда, колькі-небудзь пераканаўчых доказаў такога ўдзелу пакуль не знойдзена.

Сам Лелевель надзвычай глыбока разумеў усю складанасць праблемы ўзаемасувязі гербаў і пэўную ўмоўнасць адпаведных класіфікацыйных спроб. Здзейсніўшы сваю выдатную сістэматызацыю гербавых знакаў, ён як першакласны крыніцазнавец, вучоны дзівоснай інтуіцыі, досыць крытычна глядзеў на сапраўднае сваяцтва нават падобных гербаў. "Розныя якарападобныя фігуры літары Т, стрэлы, крыжы ўтварылі ў Літве групу гербаў, ахрышчаных Катвіцамі… Іх ні ў якім разе нельга лічыць адной разрослай сям'ёй, наяўнасць у гербе якара яшчэ не сведчыць, што гэта герб Катвіца" [10], — сцвярджаў вучоны.

Мы не схільны лічыць знак Скарынавых выданняў Катвіцай Калантаяў, але падзяляем у прынцыпе думку Лялевеля, што гэта гербавы знак. Належыць ён, хутчэй за ўсё, нейкаму мецэнату, якога трэба шукаць як сярод паноў-шляхты, так і ў асяроддзі багатай тагачаснай мяшчанска-купецкай эліты. Удзел у выдавецкай дзейнасці Скарыны прадстаўнікоў віленскай гарадской эліты (Б. Онкаў, Я. Бабіч) засведчаны дакументальна. Таму гэты напрамак пошукаў здаецца нам пакуль што найбольш перспектыўным [11].

---

[1] Францыск Скарына: жыццё і дзейнасць: Паказальнік літаратуры. Мн., 1990. С. 25 (запіс № 108); Францыск Скарына: Жыццё і дзейнасць. Паказальнік літаратуры (дадаткі за 1530–1988 гг., 1989–1993 гг.). Мн., 1995. С. 10 (запіс № 22).

[2] Lelewel J. Dzieła. Warszawa, 1957. T. 1. S. 106.

[3] Тамсама. С. 107.

[4] Herbarz Polski Kaspra Niesieckiego S. J. powiększony dodatkami z późniejszych autorów, rękopismów, dowodów urzędowych i wydany przez Jana Nep. Bobrowicza. T. 1. W Lipsku, 1839–1846. S. VI.

[5] Так выглядае справа, напрыклад, у згаданым вышэй бібліяграфічным выданні: Францыск Скарына: Жыццё і дзейнасць: Паказ. літ. Мн., 1995. С. 9. Запіс № 12 недакладны ў многіх адносінах. Па-першае, звязаны са Скарынам тэкст, як паказана ў нашым артыкуле, належыць не К. Нясецкаму, а І. Лялевелю. У часы К. Нясецкага (1682–1744) навука яшчэ не дасягнула такога ўзроўню. Тут адчуваецца рука вопытнага даследчыка крытычнай школы, характэрнай для XIX ст. Па-другое, том выйшаў не ў 1839-м, а ў 1846 г. Нарэшце, усе ўказаныя ў запісе старонкі адносяцца да 1 т., а ў 5 т. непасрэдных згадак пра Скарыну няма (ёсць звесткі пра Калантаяў на с. 160). У кнізе Я. Неміроўскага "Па слядах Францыска Скарыны" (Мн., 1990) тэкст пра Скарыну прыпісваецца Я. Бабровічу.

[6] Гл. пра гэта артыкул літоўскага даследчыка: Rimša E. Joachimas Lelevelis — heraldikas // Иоахим Лелевель: Материалы Республиканской научной конференции, посвященной 200-летию со дня рождения выдающегося ученого… Вильнюс, 1987. С. 92–102.

[7] Herbarz… T. 1. S. 567.

[8] Тамсама.

[9] Тамсама. С. 553, 555.

[10] Тамсама. С. 574.

[11] Кісялёў Г. Прыцягненне Скарыны // Полымя. 2000. № 5. С. 249–254.

*Галіна Кірэева (Мінск)*

# ДА ПРАБЛЕМЫ СТВАРЭННЯ ЗВОДНАГА КАТАЛОГА БЕЛАРУСКІХ СТАРАДРУКАЎ ЛАЦІНСКІМ ШРЫФТАМ

Нацыянальная бібліятэка Беларусі (НББ) з’яўляецца бібліяграфічным цэнтрам у галіне грамадскіх і гуманітарных навук і інфармацыйным цэнтрам па культуры і мастацтву, у сувязі з чым адказвае за бібліяграфічнае забеспячэнне па гэтых напрамках. Яна з’яўляецца цэнтрам нацыянальнай бібліяграфіі, цэнтрам па збору і захоўванні нацыянальнага дакумента і экстэрыёрыкі (беларусікі), навукова-даследчым і каардынацыйным цэнтрам бібліятэказнаўства, бібліяграфіязнаўства, кнігазнаўства. Асноўныя задачы бібліятэкі, якія зацверджаны ў яе статуце — гэта камплектаванне, апрацоўка, захаванне нацыянальных дакументаў і беларусікі, стварэнне крыніц нацыянальнай бібліяграфіі і нацыянальнай сістэмы зводных каталогаў, забеспячэнне доступу да дакументальных каштоўнасцей нацыянальнай і сусветнай культуры.

**Галіна Кірэева** — галоўны бібліёграф Нацыянальнай бібліятэкі Беларусі. Аўтар прац па гісторыі беларускага кнігадрукавання. У аснову артыкула пакладзены даклад на III Міжнародным кангрэсе беларусістаў.

З усіх відаў бібліяграфій найбольш значнай ў свеце прызнаецца нацыянальная. Між тым дасюль не існуе яе адназначнага вызначэння. У самым агульным выглядзе тут маецца на ўвазе ўлік дакументаў па той ці іншай прыкмеце, якая звязана з дзяржавай ці народам (этнасам) [1]. Для вызначэння аб’екта нацыянальнага кнігазнаўства і гісторыі кнігі, нацыянальнай бібліяграфіі, для складання рэпертуарных бібліяграфічных дапаможнікаў неабходна вызначыць паняцце “нацыянальная кніга” (“нацыянальны дакумент”). Гэтаму пытанню было прысвечана пасяджэнне Вучонога савета НББ, які акрэсліваў тэрміналагічнае паняцце “нацыянальны дакумент” і яго прымяненне пры стварэнні баз дадзенных (БД) у НББ. Для вядзення БД НББ вырашана было лічыць нацыянальнымі дакументамі ўсе носьбіты інфармацыі, якія выдадзены (створаны) на тэрыторыі Беларусі (незалежна ад гістарычнага перыяду, на усіх мовах); дакументы на беларускай мове (незалежна ад месца выдання і аўтарства); дакументы беларускіх аўтараў, выдадзеныя за межамі Беларусі [2].

Кніжныя помнікі Беларусі XVI – пачатку XIX ст. дагэтуль не толькі добра не вывучаны, але нават бібліяграфічна не ўлічаны. Гэта датычыцца ў першую чаргу старадрукаў, выдадзеных лацінскім шрыфтам (кірылічная кніга зарэгістравана ў рэтраспектыўным бібліяграфічным паказальніку — зводным каталогу “Кніга Беларусі”, частка 1, складзеная Г. Галенчанкам [3]. Беларускія ж старадрукі XVI – пачатку XIX ст. на польскай, лацінскай і іншых мовах з друкарняў Брэста, Вільні, Любчы, Лоска, Нясвіжа, Полацка, Слуцка і іншых гарадоў Вялікага Княства Літоўскага з’яўляліся дасюль аб’ектам бібліяграфавання польскіх і літоўскіх спецыялістаў — у якасці “палонікі” і “літуанікі”.

Таму цяпер першачарговай задачай беларускай бібліяграфіі з'яўляецца стварэнне поўнага рэпертуару беларускай друкаванай кнігі. Сёння згаданыя старадрукі лацінскім шрыфтам, г. зн. таксама нацыянальная кніга Беларусі, упершыню сталі аб'ектам уліку менавіта нацыянальнай бібліяграфіі: Нацыянальная бібліятэка Беларусі рыхтуе працяг зводнага каталога "Кніга Беларусі" — "Выданні XVI–XVIII стст. лацінскім шрыфтам".

Зводны каталог — бібліятэчны каталог, што адлюстроўвае фонды некалькіх бібліятэк ці бібліятэчнай сеткі рэгіёна або галіны [4]. Рэтраспектыўны зводны каталог кніг на польскай, лацінскай і іншых мовах з пачатку кнігадрукавання — гэта бібліяграфічны дапаможнік, які рыхтуецца метадам зводнага каталога і мае вызначаную мэту — найбольш поўна выявіць рэпертуар беларускай кнігі. Таму, калі мы кажам пра стварэнне зводнага каталога, то ў першую чаргу мяркуем адлюстраваць у каталогу ўсё дакументальнае багацце, якое захоўваецца на Беларусі, і ў той жа час асноўнай задачай з'яўляецца падрыхтоўка і складанне рэпертуару. Гэтую бібліяграфічную задачу варта разглядаць як частку больш шырокай бібліятэчнай задачы — стварэнне сістэмы зводных каталогаў. У іншым выпадку паралельна бібліяграфічнаму паказальніку давядзецца рыхтаваць аналагічны зводны каталог. Зздейсніць адначасова два такіх выданні надзвычай складана і непатрэбна. Таму ўсе буйныя бібліяграфічныя працы па адлюстраванню рэпертуару беларускай друкаванай кнігі абавязкова павінны ствараюцца ў сістэме зводных каталогаў і ўяўляць сабой састаўныя элементы гэтай сістэмы.

Зводны каталог павінен быць арганізаваны як адзіны банк дадзеных аб кніжных помніках усіх узроўняў. Гэта, у сваю чаргу, створыць умовы для дэцэнтралізаванай формы іх дзяржаўнага ўліку на аснове ўнутранай дакументацыі ўстаноў. Створаны па агульнай праграме, зводны каталог забяспечыць пошук крыніцы ў адзінай інфармацыйнай сетцы па розных параметрах. Пры наяўнасці электроннай тэхнікі гэтая задача можа быць выканана, калі кожны фондаўтрымальнік будзе ўводзіць інфармацыю пра свае зборы на аснове адзіных правілаў апісання. У гэтым нам дапаможа фармат BELMARC, макет апісання старадрукаў якога цяпер распрацоўваецца. Праблема ўліку кніжных помнікаў звязана таксама з вялікай колькасцю фондаўтрымальнікаў, якія належаць, у асноўным, да розных міністэрстваў і ведамстваў. Таксама пакуль застаецца нявырашаным пытанне ўліка і апісання прыватных калекцый.

Рэалізацыя праекта ўвядзе ў навуковы ўжытак раней невядомыя выданні, неапісаныя асобнікі, дасць багаты матэрыял для археографаў, гісторыкаў, культуролагаў і іншых спецыялістаў. Вынікам работы з'явіцца стварэнне аўтаматызаванай базы дадзеных (АБД) беларускіх выданняў, надрукаваных лацінскім шрыфтам, выданне друкаванага каталога. Распрацавана праграма рэалізацыі праекта. Яна ўключае наступныя этапы: стварэнне АБД старадрукаў на падставе бібліяграфічных крыніц; апісанне калекцыі Нацыянальнай бібліятэкі Беларусі, абследаванне калекцый бібліятэк, архіваў, музеяў Беларусі, выяўленне і апісанне асобнікаў; абследаванне замежных калекцый з мэтай выяўлення

і апісання дакументаў; завяршэнне стварэння АБД, выданне друкаванага зводнага каталога.

З 1994 г. у аддзеле рукапісаў, рэдкай кнігі і старадрукаў папаўняецца база дадзеных “Кніга Беларусі” (як часткі базы “Рэдкая кніга” і рэспубліканскага банка дадзеных “Помнікі кніжнай культуры Беларусі”). Увод інфармацыі ў электронны каталог вядзецца па поўным макеце апісання, які распрацаваны для ўводу звестак у камп’ютэрныя базы бібліятэкі. Такім чынам ужо зроблены першы крок па стварэнню працягу друкаванага паказальніка “Кніга Беларусі: Выданні XVI–XVIII стст. лацінскім шрыфтам”. Крыніцазнаўчай базай для выяўлення выданняў акрамя каталогаў бібліятэк, з’яўляюцца бібліяграфічныя паказальнікі (К. Эстрейхер, К. Чепене і І. Пятраўскене, Л. Фінкель і інш.). Калі мы называем вынік такой даследчай дзейнасці рэпертуарам кнігі, варта зразумець, што маецца на ўвазе пад гэтым тэрмінам . “Кніга” тут выступае ў якасці абагульненай назвы сукупнага друкаванага прадукта, што ўключае ў сябе і брашуры, і выданні літаральна на некалькіх старонках (напрыклад, панегірыкі). Яскравым прыкладам з’яўляецца прадукцыя гродзенскай каралеўскай друкарні, якая выдавала ў XVIII ст. мноства афіцыйна-юрыдычных дакументаў — адказы, рэплікі, справы, абароны, прычыны з розных прыватных працэсаў, прамовы дэпутатаў у час пасяджэнняў сеймаў і інш. Уся гэтая літаратура не ўлічана дасюль у ніводнай бібліяграфіі.

На працягу XVI – пач. XIX ст. на Беларусі працавалі друкарні рознага тыпу. Адны з іх друкавалі кнігі толькі кірылічным шрыфтам (друкарня Спірыдона Собаля ў Куцейне і Магілёве), некаторыя — кірылічным і лацінскім шрыфтамі (друкарня Мамонічаў), некаторыя —толькі лацінскім шрыфтам (брэсцкая друкарня Радзівілаў ці друкарня Яна Карцана ў Вільні). Побач з царкоўнаславянскай, беларускай, польскай мовамі ажыццяўлялася выданне кніг на грэчаскай, лацінскай, рускай, часам на французскай і нямецкай мовах.

Храналагічныя рамкі каталога, які ў нас ствараецца, пакуль акрэслены 1800 г., аднак у Заходняй Еўропе і Расіі ў апошні час гэтую дату пасунулі. Кансорцыум еўрапейскіх навуковых бібліятэк вызначыў храналагічную мяжу кніг, што былі створаны на першапачатковых этапах развіцця кнігадрукавання (т. зв. эпоха ручнога прэса), па 1830 г. уключна [5] .

Структура паказальніка будуецца па храналогіі выданняў без падзелу на блокі па асобных гадах. Гэта створыцьнавуковую карціну ўзнікнення і генетычнага развіцця друкарскай дзейнасці. Унутры храналогіі матэрыял будзе размешчаны па алфавіту. Прадугледжваюцца наступныя дапаможныя паказальнікі: імянны, геаграфічны, прадметна-тэматычны (тэматычны), выданняў паводле назваў месца і часу выхаду, друкарняў, друкароў, паказальнік гравёраў, правененцый. Выданні sine anno і кнігі, месцы друкавання якіх канчаткова не вызначаны, будуць указаны ў дадатковым раздзеле пасля датаваных выданняў. У заўвагах выданняў, што апісаны па бібліяграфічных звестках, будзе ўказана крыніца апісання.

У 1992–1993 гг. бібліятэка распрацавала анкету для даведніка “Фонды да-

кументальных помнікаў у бібліятэках, музеях і архівах Беларусі", якая была разаслана ўсім установам, што маюць кніжныя зборы. У анкету былі ўключаны наступныя пытанні: ці мае гэтая ўстанова вылучаны фонд дакументальных помнікаў, характарыстыка фонду, якія архіўныя матэрыялы, рукапісныя і друкаваныя кнігі ўваходзяць у склад фонду, моўная характарыстыка фонду, агульныя храналагічныя межы. Трэба было прывесці прыклады найбольш каштоўных выданняў. На працягу года большая частка музеяў, архіваў і бібліятэк адказала на гэтую анкету, але выданне даведніка было закансервавана ў сувязі з тым, што многія музеі, абласныя бібліятэкі і архівы не маюць спецыялістаў, здольных апісаць свае фонды. Асабліва складана было з апісаннем і атрыбуцыяй старадрукаў кірылічнага шрыфту і кніг, надрукаваных лацінскім шрыфтам. Меркавалася, што анкета дапаможа вызначыць папярэднія звесткі па колькасным складзе збораў старадрукаў ва ўстановах Беларусі і тым самым — і ўдзельнікаў зводнага каталога.

Стварэнне зводнага каталога "Кніга Беларусі" — задача надзвычай працаёмкая і складаная, разлічаная не на адзін год. У сувязі з дэцэнтралізаваным захаваннем беларускай кнігі вырашыць гэтую задачу адной бібліятэцы будзе немагчыма. Патрэбна каардынацыя і каапераця з установамі, што захоўваюць такія выданні ў Расіі, Літве, Украіне, Польшчы.

[1] Левин Г. Л. Национальная библиография: Структура. История. Перспективы // Мир библиографии. 1998. № 1. С. 16.

[2] Пратакол № 3 пасяджэння Вучонага савета НББ ад 14.12.1994 г.

[3] Кніга Беларусі. 1517–1917: Зводны каталог. Мн., 1986.

[4] Терминологический словарь по библиотечному делу и смежным отраслям знания / Сост. З. Г. Высоцкая и др. М., 1995. С. 168.

[5] Consortium of European research libraries. [1999].



## З РЭДАКЦЫЙНАЙ ПОШТЫ

*Заканчэнне са стар. 29*

Не менш сімпатычна глядзіцца паважаная аўтар і на "кулуарным" здымку з кангрэса МАБ. Трэба толькі "легалізаваць" прозвішча яе субяседніцы — Алены Сіваковай (з дому Карпюкоў, гарадзенскіх), загадчыцы аддзела камплектавання Нацыянальнае бібліятэкі Беларусі. Мяркую, на падставе ўласнага досведу, у пошукавых клопатах навукоўца з Швейцарыі спрыяльную ролю адыгрывае яе менская прыяцелька. І фотакарэспандэнт з БелТА, мабыць, невыпадкова ўвечніў на здымку гэтых дзвюх вабных таварышак — рупных пчолак беларусаведнае нівы. Меў бы за гонар — і, падазраю, не адзін я — "засвяціцца" перад аб'ектывам у гэткім сімпатычным таварыстве, якому заўдзячаю найкранальнейшыя, незапомныя перажыванні з беларушчыны. Што ж, дажывём да наступнага кангрэса!

***Аляксей Каўка*** *(Масква)*




## СУСТРЭЛІСЯ ПРАДСТАЎНІКІ ГАРАДОЎ-ПАБРАЦІМАЎ




*У прэзідыуме сустрэчы*



*У зале пануе аптымістычны настрой*

У Мыцішчах Маскоўскай вобласці ў кастрычніку адбылася Другая сустрэча гарадоў-пабрацімаў Беларусі і Расіі. Ініцыятарамі яе выступілі Міжнародная (маскоўская) і Беларуская асацыяцыі "Пародненыя гарады". На сустрэчу прыбылі кіраўнікі 39 гарадскіх і раённых выканаўчых камітэтаў Беларусі і прадстаўнікі 51 горада розных абласцей Расійскай Федэрацыі. У сустрэчы прынялі ўдзел губернатар Маскоўскай вобласці В. Громаў, міністр знешнеэканамічных сувязей Масквы В. Трубнікаў, старшыня Мінскага гарадскога выканаўчага камітэта М. Паўлаў і іншыя вядомыя дзеячы. Да ўдзельнікаў сустрэчы былі адрасаваны прывітанні Прэзідэнта Расійскай Федэрацыі У. Пуціна, мэра Масквы Ю. Лужкова.

Прамоўцы, найперш В. Трубнікаў і М. Паўлаў, гаварылі пра шляхі развіцця беларуска-расійскіх адносін, умацаванне супрацоўніцтва паміж гарадамі-пабрацімамі. Абмяркоўваліся магчымасці ўзаемна выгадных кантактаў у эканамічнай, навуковай, культурнай сферах.

Па выніках сустрэчы была прынята сумесная дэкларацыя. Удзельнікі падпісалі 10 дамоваў аб парадненні беларускіх і рускіх гарадоў.

***Ніна Іванова**, намеснік старшыні праўлення Беларускага таварыства дружбы і культурнай сувязі з замежнымі краінамі*

## У ПАМЯЦЬ ПРА СЯМЁНА ДУБНОВА

*“Кахай кожную нацыянальнасць, як сваю ўласную”*

***С. М. Дубноў***

Саюз беларускіх габрэйскіх грамадскіх аб’яднанняў і абшчын (старшыня Л. Левін), Магілёўская габрэйская абшчына (старшыня У. Шэлектар), Грамадскае аб’яднанне Рэспубліканскі фонд “Халакост” пры падтрымцы Амерыканскага аб’яднанага размеркавальнага камітэта “Джойнт” арганізавалі і правялі 17–19 кастрычніка 2000 г. ў Магілёве ІІ Міжнародны абшчынны фестываль габрэйскай кнігі ў Беларусі, у рамках якога адбыліся Дубноўскія чытанні “Спадчына Сямёна Дубнова і вывучэнне гісторыі габрэяў у дзяржавах СНД і Балтыі”, прысвечаныя 140-годдзю з дня нараджэння габрэйскага гісторыка, публіцыста, грамадскага дзеяча.

Сямён Маркавіч Дубноў нарадзіўся ў 1860 г. у мяст. Мсціслаў Магілёўскай вобл. У 1906 г. пераехаў у Пецярбург, дзе з 1908 г. пачаў выкладаць габрэйскую гісторыю на курсах усходазнаўства і з 1919 г. у габрэйскім народным універсітэце. З 1908 па 1918 г. з’яўляўся рэдактарам часопіса “Яўрэйская гісторыя”. У 1922 г. пераехаў у Германію, а ў 1933 г. — у Рыгу. Пасля акупацыі Рыгі нямецкімі войскамі С. Дубноў быў арыштаваны, зnative ў гета, дзе вёў дзённік і працягваў навуковыя даследаванні. У студзені 1941 г. яго ўключылі ў калону смертнікаў. Дакладная дата і месца гібелі С. Дубнова не вядомы. У адным з першых гістарычных твораў “Што такое габрэйская гісторыя?” С. Дубноў прадставіў гісторыю габрэйскага народа. Ім напісаны “Падручнік габрэйскай гісторыі”, “Сусветная гісторыя габрэйскага народа” (1–10 т.). Найбольш поўна С. Дубноў выказаў свае погляды на габрэйства, яго патрэбы ў цыкле артыкулаў “Лісты аб старым і новым габрэйстве”. Багаты матэрыял аб жыцці і дзейнасці С. Дубнова, яго эпохі надрукаваны ва ўспамінах “Кніга майго жыцця”.

На Дубноўскіх чытаннях прагучалі даклады і паведамленні вучоных і краязнаўцаў з краін СНД, Балтыі аб ролі знакамітага гісторыка, публіцыста ў вывучэнні габрэйскай гісторыі. На думку вучоных, чытанні паклалі пачатак глыбокаму вывучэнню спадчыны С. Дубнова, аб’яднанню краязнаўцаў, гісторыкаў, якія развіваюць яго навучэнне ў сваіх работах, былі ўнесены прапановы аб стварэнні міжнароднай грамадскай арганізацыі імя С. Дубнова і адпаведнага фонду для забеспячэння функцыянавання арганізацыі.

Трэба адзначыць, што актыўны ўдзел у арганізацыі вышэйазначаных мерапрыемстваў прыняла Магілёўская габрэйская абшчына, якая налічвае 3,5 тыс.

чалавек і ў сакавіку 2001 г. адзначыць 10-годдзе з дня заснавання. Рашэннем Магілёўскага гарвыканкама для абшчыны (мэта дзейнасці якой — адраджэнне габрэйскай культуры) выдзелена асобнае памяшканне. Пры абшчыне творча дзейнічаюць сямейны і жаночя клубы, маладзёжнае аддзяленне, савет ветэранаў вайны, адна з лепшых у рэспубліцы габрэйская нядзельная школа. Дабрадзейная арганізацыя абшчыны аказвае дапамогу 1,5 тысячы пенсіянераў, хворым, арганізоўвае летні адпачынак для дзяцей. Мастацкія калектывы абшчыны прынялі актыўны ўдзел у мерапрыемствах III Усебеларускага фестывалю нацыянальных культур.

***Анатоль Бабіцкі**, галоўны спецыяліст Міністэрства культуры Рэспублікі Беларусь*



## З РЭДАКЦЫЙНАЙ ПОШТЫ

### ШАНОЎНЫ РЭДАКТАР!



Я — той японец, з якім Вы сустракаліся ў вашым кабінеце і якога Вам тады прадставіла Надзея Лісоўская, студэнтка з Манчэстэра. Гэта было ў мінулым годзе. Таму цалкам натуральна, што я помню Вас, і цудоўны выгляд Мінска.

Перш за ўсё, я хацеў бы падзякаваць Вам за тое, што Вы выслалі на мой адрас кніжку. Мне заўсёды радасна дакрануцца да рэчы, якая рэпрэзенту культуру Вашай краніы. Як я чуў, некалькі месяцаў таму ў Мінску быў праведзены вечар, прысвечаны японскай культуры кожнай з нашых краін.

Нейк я пайшоў у Мастацкі музей горада Фукуока і агледзеў выстаўку мастака Кастускіка Хакусаі. Хакусаі — адзін з найвялікшых мастакоў. Найбольш вядомая яго серыя малюнкаў пад агульнай назвай “Укійоэ”, дзе намаляваны мясціны вакол гары Фуджы. Я дасылаю Вам разам з лістом рэпрадукцыю аднаго з яго твораў. Спадзяюся яна Вам спадабаецца.

Як я ўжо сказаў, мой мінулагодній візіт у Беларусь быў толькі пачаткам знаёмства з Вашай краінай. Я шчыра спадзяюся зноў пабываць у Вашай кріне і мець больш магчымасці пагутарыць з Вашымі людзьмі.

Шчыра Ваш

***Хіраюкі Усцімацу***



# ПРЫВІЛЕЙ НАВАГАРОДСКАЙ (НАВАГРАДСКАЙ) ЗЯМЛІ ВЯЛІКАГА КНЯЗЯ КАЗІМІРА 1440 Г.

У 1991 г. у першым нумары “Наваградскага Кур’ера” з’явіўся амаль не заўважаны навукоўцамі артыкул Міколы Мікалаева “Чынім правы вольныя…”, у якім ішла гаворка аб знаходцы спісу невядомага раней Прывілея Новагародскай зямлі Казіміра Ягайлавіча 1440 г. сярод польскіх аўтографаў і грамат Аддзела рукапіса? Расійскай нацыянальнай бібліятэкі.

Упершыню думка аб тым, што каля 1440 г. бы? выдадзены такі прывілей, многія артыкулы якога перайшлі ў Агульназемскі прывілей 1447 г., была выказана І. Якубоўскім, але потым як “голий здогад, досить мало правдоподібний” адвернута М. Грушэ?скім. Але пазней з’явілася копія прывілея, або, як сказана ў загалоўку, “перевод со славянского языка”, якая была зроблена ў 1880-я гг. Іллёй Казлоўскім, архіварыусам Злучанай палаты крымінальнага і грамадзянскага суда ў Вільні.

І вось амаль праз стагоддзе — новая фенаменальная знаходка. На гэты раз арыгінал прывілею быў знойдзены ў фондах РНБ супрацоўнікам аддзела рукапісаў Расійскай Нацыянальнай бібліятэкі ў Санкт-Пецярбургу С. Жамайцісам, які апрацоўваў неапісаныя дакументы 1000 фонда (“Асобныя паступленні”), і 2 вопісу фонда 293 (“Заходне-рускія акты”), ён першым убачыў і апублікаваў тэкст прывілею (Гл.: Жемайтис С. Г. Привилей Новогрудской земле 1440 г. // Рукописные памятники. Материалы и исследования. СПб., 1997. Вып. 4. С. 215–225).

На думку С. Жамайціса і М. Мікалаева, пергаменны арыгінал Прывілею Навагародскай зямлі доўгі час знаходзіўся ў сямейным архіве Маскевічаў. У пачатку XVIII ст. род Маскевічаў спыніўся на ўнуку Самуэля Маскевіча — Адаме. Дзе прывілей знаходзіўся на працягу XVIII – пач. XX ст. і хто быў яго ўладальнікам — невядома. Аддзел рукапісаў Публічнай бібліятэкі ў Ленінградзе атрымаў арыгінал прывілею толькі ў 1932 г.

Новагародскі прывілей уяўляе сабой простакутны кавалак пергамента з няроўнымі краямі, памерам 38 х 54 см. Напісаны ён дробным паўуставам на старабеларускай мове. Захаваліся 6 дзірак для ша?ковага шнура, на якім мацавалася віслая пячатка. На адвароце можна бачыць апісанні, зробленыя чарнiламі, на польскай мове рознымі почыркамі XVII–XVIII стст. у двух варыянтах.

***Андрэй Радаман**, супрацоўнік Цэнтра імя Ф. Скарыны*



## БЕЛАРУСЫ Ў СЕВАСТОПАЛІ

Пра актыўную дзейнасць севастопальскай суполкі беларусаў “Бацькаўшчына” я пачула ў лютым 1999 г., калі асабіста пазнаёмілася са старшынёй суполкі Валерыем Барташам. Адбылося гэта ў Літаратурным музеі імя М. Багдановіча, дзе я працавала навуковым супрацоўнікам. В. Барташ, які быў у Мінску па адвакацкіх справах, зайшоў у музей, каб паведаміць, што іх суполка прыняла рашэнне насіць імя Максіма Багдановіча. Я даведалася, што для беларускай сябрыны, арганізаванай у 1997 г., добрай традыцыяй стала наведванне магілы М. Багдановіча ў Ялце ў дзень яго нараджэння і ў дзень смерці. Менавіта там, па прызнані В. Барташа, асабліва добра ўспрымаюцца вершы паэта, якія чытаюць Ганна Васюкіна, Ларыса Белік, Віка Азарава, асабліва велічна гучыць малебен, які служыць па-беларуску малады праваслаўны святар Ігар Чыкіта. Ля гэтай сціплай магілы набіраюцца моцы і гарту беларусы, якія ў русіфікаваным Севастопалі смела і настойліва заяўляюць, што ў сваёй дзейнасці кіруюцца ідэяй незалежнасці сваёй бацькаўшчыны — Беларусі.

Да свята Дзяды суполка рыхтуецца загадзя: у выхадныя дні беларусы талакой працуюць на Брацкіх могілках, дзе пахаваны тысячы нашых землякоў, якія загінулі пры абароне Севастопаля ў 1854–1855 гг.

Само свята памінання продкаў распачынаецца каля помніка Аляксандру Казарскаму, беларусу, герою руска-турэцкай вайны 1828–1829 гг., камандзіру легендарнага брыга “Меркурый”. Дарэчы, помнік Казарскаму — самы першы помнік у Севастопалі, бо ён узведзены ў 1831 г.

Акрамя вечарын паэзіі М. Багдановіча суполка падрыхтавала і правяла ў гарадской бібліятэцы імпрэзы, прысвечаныя Ефрасінні Полацкай, Кастусю Каліноўскаму, Ларысе Геніюш. Аб’яднанне беларусаў мае штомесяц 30 мінут эфірнага часу на радыё. Стараннямі В. Барташа кожная акцыя, праведзеная суполкай, абавязкова асвятляецца ў газетах і праз электронную пошту. Словам, настойлівая праца беларусаў Севастопаля дае свой немалы плён. Таму я з удзячнасцю прыняла прапанову стаць прадстаўніком суполкі ў Беларусі.

Севастопальцы марылі мець у сваім офісе мастацкі партрэт М. Багдановіча. Клопатам гэтым яны падзяліліся са мной. І вось у ліпені В. Барташ атрымаў у дарунак ад мастака Аляксея Марачкіна партрэт М. Багдановіча на фоне крымскага краявіду. Урачыстая перадача карціны адбылася ў Літаратурным музеі М. Багдановіча. Імпрэзу хораша вёў паэт і бард Эдуард Акулін. Перад

прысутнымі выступілі В. Барташ, А. Марачкін, А. Вярцінскі, А. Мальдзіс, А. Рудакоў.

У жніўні ж я атрымала запрашэнне прыехаць у Севастопаль і прысутнічаць на сходзе на перарэгістрацыі беларускага аб'яднання. Тады я змагла асабіста пазнаёміцца з паплечнікамі сп. Барташа і мушу адзначыць, што ў арганізацыі засталіся толькі аднадумцы, якія могуць сапраўды актыўна і творча працаваць. На сходзе В. Барташ прапанаваў змяніць назву аб'яднання на Севастопальскае таварыства беларусаў імя Максіма Багдановіча "Пагоня". Пасля грунтоўнай аргументацыі старшыні новая назва была аднагалосна зацверджана. На гэтым жа сходзе ўтварылася суполка Таварыства беларускай мовы імя Францыска Скарыны, якую ўзначаліла філолаг Алеся Манько, што сёлета пераехала з Мінска на сталае жыхарства ў Севастопаль. Завяршылася сустрэча ўскладаннем кветак да мемарыяльнай дошкі пісьменніка-рамантыка Аляксандра Грына (бацька яго, ураджэнец Беларусі С. Грынеўскі, быў удзельнікам паўстання 1863 г.). Так было адзначана 120-годдзе з дня нараджэння А. Грына.

Цёплай, нефармальнай атрымалася сустрэча актывістаў таварыства ў т. зв. офісе на кватэры В. Барташа. Нагода была неардынарная — асвячэнне карціны А. Марачкіна "Я не самотны" (партрэт М. Багдановіча). Малітву за беларускі народ прачытаў святар І. Чыкіта, якому пранікнёнымі спевамі дапамагала яго жонка, украінка, маладзенькая матушка Ірына. Пасля абраду асвячэння карціны я расказала пра творчасць А. Марачкіна, майго свёкра, ілюструючы аповяд рэпрадукцыямі карцін. Непрыкметна гаворка пашырылася да навін мастацтва, літаратуры, культуры. Мы чыталі вершы і дзяліліся сваімі планамі. Беларусы Севастопаля маюць на мэце зусім канкрэтныя справы. Гэта ўстаноўка ў Балаклаве мемарыяльнай дошкі Адаму Міцкевічу, 200-годдзе якога таварыства гучна адзначыла, наладзіўшы тэатралізаваную дзею. Гэта правядзенне акцый у абарону беларускай мовы, у тым ліку вечарыны, прысвечанай Францішку Багушэвічу. Гэта выраб і ўстаноўка каменнага Ефрасіннеўскага крыжа як сімвала беларускай прысутнасці ў Крыме.

І ўсё ж з усяго гасцявання ў Севастопалі самай хвалюючай падзеяй для мяне і маіх дзяцей, Хрысціны і Златы, сталася вандроўка з В. Барташам у Ялту, да Багдановіча. Магіла была прыбраная. Свежыя кветкі і маленькі бел-чырвона-белы сцяжок, адмыслова замацаваны на помніку, сведчылі, што Максіма землякі адведваюць. Запаліўшы свечку, мы ціха стаялі ля помніка, і я падумала, што заўсёды знойдуцца беларусы, у якіх будзе шчымець у грудзях пры чытанні "Пагоні", і гэта не так важна, дзе яны жывуць — у Севастопалі ці ў Беларусі. Сваім трагічным лёсам і высокай паэзіяй І. Багдановіч яднае нас вакол беларушчыны.

***Ірына Марачкіна***



*Беларусы ў Комі*

## СТАРОНКІ БУДУЧАГА ЭНЦЫКЛАПЕДЫЧНАГА ДАВЕДНІКА

### ПАНУЦЭВІЧ ВАЦЛАЎ

***Пануцэвіч** (Папуцэвіч) **Вацлаў** (псеўданім М. Волацiч, крыпт. В. П., 1911–1991, Чыкага, ЗША) — беларускі гісторык, публіцыст, рэдактар і выдавец, грамадска-палітычны і рэлігійны дзеяч беларускай эміграцыі.*

Нарадзіўся В. Пануцэвіч на Віленшчыне ў сям'і беларусаў-католікаў. Вучыўся ў Віленскай духоўнай каталіцкай семінарыі, але быў выключаны за ўдзел ў беларускім нацыянальным руху. З 1936 г. — студэнт юрыдычнага факультэта Віленскага універсітэта, удзельнік "Акадэміцкага кола сяброў беларусаведы" (1936–1939), дзеяч Беларускага студэнцкага саюза. Адзін з арганізатараў "руху маладых адраджэнцаў", выдавец і рэдактар яго друкаванага органа — газеты "25 Сакавіка" (1936–1938). Актыўны ўдзельнік заходнебеларускага нацыянальна-дэмакратычнага хрысціянскага руху, сябаа Беларускага нацыянальнага аб'яднання. Уваходзіў у склад рэдкалегіі віленскай газеты "Беларускі фронт". У гады фашысцкай акупацыі Беларусі працаваў у органах беларускай адміністрацыі, удзельнічаў у беларускім грамадска-палітычным руху. У 1944 г. выехаў у Германію. У лагеры для перамешчаных асоб у англійскай зоне акупацыі з 1945 г. быў першым дырэктарам Беларускай гімназіі імя М. Багдановіча ў Ватэнштэце,

настаўнікам гісторыі і лацінскай мовы. Узначальваў Задзіночанне беларускіх скаўтаў на чужыне. У 1950 г. эміграваў у ЗША (Чыкага). Актыўны ўдзельнік палітычнага, культурнага і царноўнага жыцця беларускай эміграцыі. На пачатку 1950-х гг. быў абраны сакратаром Беларуска-амерыканскай рады ў Чыкага. У пашыранай з 1951 г. Радзе БНР была прадстаўлена Усекрывіцкая дэмакратычная незалежніцкая злучнасць пад кіраўніцтвам В. Пануцэвіча і А. Адамовіча. Заставаўся прыхільнікам "ідэі БНР", у канцы 60-х гг. спрабаваў арганізаваць Лігу БНР у Чыкага. Пазней працаваў у чыкагскім сектары Рады БНР. Віцэ-старшыня створанага ў 1950 г. Беларуска-амерыканскага каталіцкага таварыства (Нью-Йорк). Шмат зрабіў для адкрыцця (1955) і работы беларускай царквы ўсходняга абраду ў Чыкага, а затым — і парафіі. У пачатку 60-х гг. выступіў заснавальнікам і кіраўніком Беларускай выдавецкай сябрыны (існавала ў Чыкага да канца 1970-х гг.). Выдаваў і рэдагаваў часопісы "Беларуская царква" і "Litva".

Погляды В. Пануцэвіча на асноўныя праблемы гісторыі і культуры Беларусі раскрыты ў гістарычных даследаваннях "Żamojdz i Litva: Roznyja krainy i narody" (1953–1954), "З гісторыі Беларусі, або Крывіччыны-Літвы" (1965), многіх раздзелах кніг мюнхенскага "Беларускага зборніка", артыкулах у часопісах "Беларуская царква", "Litva", "Божым шляхам", "Беларускі Свет", газетах "Бацькаўшчына", "Беларус" і інш. Адзін з першых сярод беларускіх гісторыкаў абгрунтаваў выснову, што назва "Літва" для сярэдневяковай Беларусі з'яўляецца не толькі палітычнай, але і этнічнай. Выказаў гіпотэзу пра тоеснасць люцічаў з літвінамі. Асвятляў гісторыю беларускага нацыянальнага адраджэння ў XX ст. Звярнуўся да праблемы, якая была закрыта для савецкай гістарыяграфіі: падзелу гістарычна-этнаграфічнай тэрыторыі Беларусі, уключэння яе частак у склад суседніх краін. Савецкую нацыянальную палітыку разглядаў як працяг імперскай палітыкі Расіі. Апублікаваў працы на царкоўна-рэлігійныя тэмы (пачаткі хрысціянства на беларускіх землях, каталіцтва ў ВКЛ, Брэсцкая царкоўная унія і інш.). Аўтар артыкулаў пра знакамітых беларусаў і ўраджэнцаў Беларусі — Ефрасінню Полацкую, К. Астрожскага, І. Капіевіча, К. Каліноўскага, В. Дуніна-Марцінкевіча, У. Сыракомлю, М. Куліковіча, кс. В. Гадлеўскага і інш. Палемізаваў з беларускімі савецкімі вучонымі па асноўных пазіцыях гісторыі беларускага народа ў рэцэнзіях на 12-томную Беларускую савецкую энцыклапедыю (Litva. 1970. № 4. С. 279–285), на працы Л. Абэцэдарскага (Litva. 1970. № 4. С. 161–214), М. Грынблата (Беларускі сьвет. 1963. № 1–2. С. 13–20), беларускага эміграцкага даследчыка М. Вакара (Беларускі зборнік. 1956. Кн. 4. С. 137–150).

У Беларусі перавыдадзены яго працы "Горадзеншчына ў нацыянальным руху ў 1918–1919 гадах" (Пагоня. 1994. № 4–14), "Лінія Кэрзона на фоне падзелаў і тэрытарыяльных зьменаў у Усходняй Эўропе" (Спадчына. 1993. № 5–6), "Сутнасць новай дэмакратыі" (Спадчына. 1997. № 4), "Кс. Вінцэсь Гадлеўскі. Дзяржаўны муж і правадыр народу" (Спадчына. 1993. № 3–6), "Польская мова XIV–XVIII стст. і каталіцкі касцёл у Вялікім Княстве Літоўскім" (Наша вера. 1998. № 3–6; 1999. № 1–2).

***Галіна Сяргеева***



## РУДАКОЎ АЛЕГ

***Рудакоў Алег Васільевіч*** *(29.4.1968, в. Бяздзедавічы Полацкага р-на Віцебскай вобл.), гісторык, педагог, грамадска-культурны дзеяч беларускай дыяспары ў Расіі.*

А. Рудакоў скончыў Астраўшчанскую сярэднюю школу (1985), вучыўся ў Цюменскім вышэйшым ваенна-інжынерным камандным вучылішчы. Пасля яго заканчэння (1989) быў накіраваны для далейшага праходжання службы ў Іркуцк. У 1994 г. звольнены ў запас з радоў ВС Расіі па стану здароўя. У тым жа годзе паступіў у Іркуцкі дзяржаўны тэхнічны універсітэт (ІДТУ) на паскораныя курсы па перападрыхтоўцы афіцэраў запасу па спецыяльнасці “Менеджмент” і ў Іркуцкі дзяржаўны універсітэт (ІДУ) на гістарычны факультэт. У 1995 г. закончыў ІДТУ, атрымаўшы дыплом па спецыяльнасці менеджэр. У ІДУ цяпер вучыцца на апошнім курсе. У 1994–1999 гг. працаваў ў розных камерцыйных структурах. З 1998 г. член Савета некамерцыйных арганізацый Іркуцка, а з кастрычніка 1999 г. ад імя Савета некамерцыйных арганізацый прыняты ў члены Іркуцкага аддзялення Асацыяцыі садзейнічання ААН. З лютага 1999 г. — выкладчык гісторыі ў Іркуцкай сярэдняй школе № 31. Быў удзельнікам розных навуковых канферэнцый у Мінску, Новасібірску, Іркуцку, Маскве. Аўтар некалькіх дзесяткаў навуковых публікацый.

А. Рудакоў прымае актыўны ўдзел у грамадскім і культурным жыцці беларускай дыяспары ў Сібіры. У верасні 1995 г. быў дэлегатам чацвёртага з’езда Таварыства беларускай мовы ў Мінску, дзе выступіў з дакладам пра жыццё беларусаў у Сібіры. З лістапада 1995 г. вядзе работу па аб’яднанню беларусаў, якія пражываюць на тэрыторыі Іркуцкай вобл., у адзіную культурную супольнасць. У 1996 г. на першым з’ездзе Іркуцкага Таварыства беларускай культуры імя Яна Чэрскага (ІТБК) А. Рудакоў быў выбраны намеснікам старшыні Рады. З 1998 г. — старшыня Рады ІТБК. У сакавіку 1999 г. быў дэлегатам з’езду беларусаў Расіі ў Маскве, дзе выбраны другім намеснікам старшыні Рады Міжрэгіянальнага Аб’яднання беларусаў Расіі. З’яўляецца рэдактарам штомесячнага бюлетэня ІТБК “Маланка” — адзінага ў Іркуцку двухмоўнага выдання.

***Ірына Тамільчык***

# УСЦІЛОЎСКІ ГЕОРГІЙ



***Усцілоўскі Георгій Іванавіч*** *(15.04.1915, в. Чарнавусы Мсціслаўскага пав., цяпер р-на Магілёўскай вобл.), грамадскі дзеяч беларускай дыяспары ў Комі.*

Г. Усцілоўскі вучыўся ў пачатковай школе, Расненскай сямігодцы, Добрушскім ФЗВ, дзе атрымаў спецыяльнасць тэхніка па эксплуатацыі тарфяных балотаў. Працаваў на тарфяным заводзе імя Даўмана ў Обалі. Быў накіраваны на вучобу ў Савпартшколу. Пасля заканчэння яе (1934) працаваў у рэдакцыі раённай газеты ў Гардзееўцы Смаленскай вобл., а потым у рэдакцыі “Минской правды” пад Ленінградам. Тут быў выключаны з камсамола за ўтойванне сацыяльнага паходжання: бацька яго быў пазбаўлены выбарчых правоў як класава варожы элемент. У сувязі з гэтым Г. Усцілоўскі быў звольнены з работы, вярнуўся ў Смаленскую вобл. і пачаў працаваць у раённай газеце “Социалистический путь” у г. Ельня. 10 жніўня 1936 г. быў рэпрэсаваны і асуджаны да 10 гадоў зняволення, сядзеў у смаленскай турме. У кастрычніку 1937 г. накіраваны ў Комі, у вярхоўе ракі Вычагды, у Мыелдзінскае аддзяленне Локчымлага, потым знаходзіўся ў Усцьвымлагу (Княжагосцкі р-н). У 1956 г. рэабілітаваны. Пасля вызвалення застаўся ў Комі, працаваў на кіруючых пасадах у лясной прамысловасці: ва Ухцінскім і Саснагорскім леспрамгасах начальнікам лесапунктаў, намеснікам дырэктара леспрамгаса. У 1974 г. выйшаў на пенсію.

Г. Усцілоўскі вядзе актыўную грамадскую работу ў Саснагорску. З 1992 г. узначальвае грамадскую арганізацыю былых вязняў сталінскіх лагераў “Саснагорскі мемарыял”. Многае зрабіў дзеля ўшанавання памяці ахвяр сталінскіх рэпрэсій, у тым ліку выхадцаў з Беларусі, склаў і апублікаваў спісы беларусаў, якія былі сасланы ў Комі. Выдаў кнігу пра ахвяр палітычных рэпрэсій “Шматаблічная праўда”. Падтрымлівае сувязі з радзімай. Быў дэлегатам з’ездаў беларусаў свету ў 1993 і 1997 гг., двойчы абраны сябрам Вялікай рады Згуртавання беларусаў свету “Бацькаўшчына”. Удзельнічае ў рабоце беларускай суполкі ў Саснагорску.

***Ганна Сурмач***



## ШУГЛЯ УЛАДЗІМІР

***Шугля Уладзімір Фёдаравіч*** *(30.01.1947, г. Барысаў Мінскай вобл.), інжынер-эканаміст, прэзідэнт Холдзінгавай кампаніі "Мангазея", доктар філасофіі ў галіне інфармацыйных тэхналогій, член-карэспандэнт Міжнароднай акадэміі інфармацыйных тэхналогій (1999). Старшыня ГА "Беларусь" у Цюменскай вобл.*

У. Шугля паходзіць з беларускай сям'і. Закончыў Свярдлоўскі інстытут народнай гаспадаркі, Уральскі сацыяльна-палітычны інстытут па спецыяльнасці палітолаг і інжынер-эканаміст. Працоўную дзейнасць пачаў у Свярдлоўску слесарам-механікам (1965–1966). Да 1969 г. працаваў слесарам-электрыкам на Балакаўскім камбінаце тэхнічных валокнаў (Саратаўская вобл.). У 1969–1971 гг. — начальнік філіяла орса камбіната "Алапаеўсклес" пры Міністэрстве лясной прамысловасці. Служыў у арміі (1971–1972). У 1972–1976 гг. — старшыня праўлення Алапаеўскага райспажыўсаюза, 1976–1979 — намеснік старшыні праўлення Свярдлоўскага аблспажыўсаюза. У 1979–1984 гг. узначальваў упраўленне рабочага забеспячэння Свярдлоўскай чыгункі. У 1984–1986 гг. — "Цюменьстройшлях" у Цюмені. У 1986–1990 гг. — начальнік Галоўнага ўпраўлення гандлю аблвыканкама пры Міністэрстве гандлю РСФСР. З 1990 г. — прэзідэнт холдзінгавай кампаніі Гандлёвы дом "Мангазея".

Наш суайчыннік актыўна супрацоўнічае з беларускімі прадпрыемствамі, аказвае фінансавую падтрымку абласной грамадскай арганізацыі "Беларусь", асноўная мэта якой — вывучэнне быту, культуры, традыцый беларускага народа. З 1997 г. з'яўляецца старшынёй ГА "Беларусь". За 3 гады існавання гэты культурна-асветны цэнтр, дзякуючы ўдзелу ў культурна-масавых мерапрыемствах, што праводзяцца ў Цюмені і іншых гарадах вобласці, выступленням па тэлебачанні, радыё, артыкулам ў перыядычных выданнях, стаў вельмі папулярным у Цюменскай вобласці. У. Шугля з'яўляецца членам савета федэральнай аўтаноміі "Беларусы Расіі", старшынёй праўлення Цюменскага рэгіянальнага аддзялення Саюзнай грамадскай палаты. Віцэ-прэзідэнт Асацыяцыі гандлёвых арганізацый Урала, Сібіры і Далёкага Усходу. У жніўні 2000 г. У. Шугля прызначаны саветнікам губернатара Цюменскай вобл.

Узнагароджаны медалём "Ветэран працы", мае званне "Заслужаны работнік гандлю Расіі".

***Ірына Тамільчык***

## СМУЛКОВА ЭЛЬЖБЕТА

***Смулкова*** *(Смулэк)* ***Яніна Эльжбета****, [24.06.1931, Львоў, Украіна (на той час — Польшча)], польскі і беларускі мовазнавец, дыпламат. Доктар габілітаваны філалогіі (1976), прафесар надзвычайны (1988), прафесар звычайны (1996).*

Эльжбета Смулкова нарадзілася ў сям'і львоўскіх палякаў. Бацька, Казімеж Баран, быў інжынерам, маці, Яніна Баранова, — настаўніцай. Шчаслівае дзяцінства і пачатак школьнай навукі ў Львоўскай школе ў 1938 г. былі абарваны рэпрэсіямі новых уладаў, і сям'я ў выніку дэпартацыі апынулася ў Сібіры, дзе і прайшлі ваенныя (1941–1946) гады дзяцінства Эльжбеты. Сярэднюю адукацыюю яна завершыла ў 1951 г. пасля пераезду ў Польшчу. У вышэйшай адукацыі ад пачатку быў абраны філалагічны кірунак — польскае мовазнаўства, і заняткі захопленая навукай студэнтка наведвала адразу ў двух універсітэтах: Таруньскім і Варшаўскім. У 1955 г. атрымала ступень магістра філалогіі на факультэце польскай філалогіі Таруньскага універсітэта М. Каперніка і за працу, прысвечаную польска-беларускаму моўнаму памежжу, стала асістэнткай праф. Галіны Турскай, якая зацікавіла маладую даследчыцу асноўнай праблематыкай уласнага навуковага жыцця, пачатага ў перадваеннай Вільні і працягнутага ў сценах Таруньскага універсітэта. Сёння прафесар Э. Смулкова называе Г. Турскую сярод галоўных і высока шанаваных настаўнікаў і, што важна падкрэсліць, паслядоўна працягвае навуковую традыцыю, захоўвае даўнюю зацікаўленасць праблематыкай польска-беларускага памежжа, вылучае гэтую тэматыку сярод сваіх асноўных мовазнаўчых дасягненняў.



*Беларусісты Анатоль Грыцкевіч і Джым Дынглі акаляюць праф. Эльжбету Смулкову (ў Цэнтры імя Ф. Скарыны) увагай і сардэчнасцю*

У 1957 г. Э. Смулкову запрасілі на новаўтвораную кафедру беларускай філалогіі Варшаўскага універсітэта, дзе яна працавала да 1981 г. У гэты час (1959–1960) стажыравалася у вышэйшых навучальных установах былога СССР, удасканальваючы веданне беларускай і рускай моваў, праводзіла шматлікія дыялекталагічныя даследаванні на тэрыторыі Польшчы і Беларусі, выпрацоўваючы унікальны досвед і ўласную школу палявых даследаванняў беларускай мовы,

збіраючы багацейшы матэрыял для атласаў, слоўнікаў і навуковых манаграфій. Ініцыятарам і настаўнікам такіх навуковых практык прафесар Смулкова з’яўляецца і сёння.

Працоўнае жыццё Э. Смулковай заўсёды было насычаным і спалучала навуковую ініцыятыву з адказнасцю высокіх пасад. З 1971 па 1975 г. Э. Смулкова была кіраўніком сектара беларускай філалогіі Інстытута русістыкі Варшаўскага універсітэта. З 1978 па 1981 г. — наместнікам дэкана па справах студэнтаў факультэта русістыкі, славістыкі і прыкладной лінгвістыкі. З 1987 па 1990 г. — наместнікам дэкана па справах навукі факультэта паланістыкі ВУ. Аб невычэрпнай працоўнай ініцыятыве і вернасці берарускай праблематыцы сведчыць той факт, што ў 1997 г. Э. Смулкова заняла пасаду кіраўніка кафедры беларускай культуры Беластоцкага універсітэта, якую спалучае са сваімі шматлікімі працоўнымі абавязкамі настаўніка і вучонага Варшаўскага універсітэта: “беларускія чварткі” ў Беластоку, шматлікія канферэнцыі і іншыя мерапрыемствы збіраюць навукоўцаў, калег-беларусістаў, пісьменнікаў, дзеячаў культуры на дыскусіі і гутаркі. Трэба таксама адзначыць куратарскую дзейнасць Э. Смулковай, накіраваную на маладых беларускіх вучоных, мастацтвазнаўцаў, пісьменнікаў, якія праходзяць стажыроўку, павышаюць кваліфікацыю ў навуковых майстроўнях і гуманітарных школах Польшчы, яе апека таксама накіравана на развіццё паланістыкі ў Беларускім дзяржаўным універсітэце.

Э. Смулкова з’яўляецца сябрам Камітэта мовазнаўства Польскай акадэміі навук, Варшаўскага навуковага таварыства, Польскага таварыства мовазнаўцаў, яна была сузаснавальніцай і актыўнай удзельніцай кангрэсаў Міжнароднай асацыяцыі беларусістаў. Навуковыя погляды Э. Смулковай фарміраваліся не толькі пад уплывам выдатных настаўнікаў Г. Турскай і А. Абрэмбскай-Яблоньскай, але і ў час супрацоўніцтва з даследчыкамі розных айчынных і замежных навуковых цэнтраў, у тым ліку Інстытута мовазнаўства імя Якуба Коласа НАН Беларусі, БДУ, Вільнюскага універсітэта, Інстытута славяназнаўства і балканістыкі РАН у Маскве, у навуковых кантактах з калегамі з Украіны, Швецыі, Югаславіі, Германіі, Славеніі, на кангрэсах і канферэнцыях, з досведу экспедыцый і індывідуальных даследаванняў на тэрыторыі Польшчы, Беларусі, Украіны, Літвы. Э. Смулкова з’яўляецца аўтаркай каля 130 навуковых прац, сярод якіх — працы ў галіне славянскай (пераважна беларускай і польскай) дыялекталогіі, усходнеславянскай акцэнталогіі, агульнай фанетыкі і фаналогіі (на польскім, беларускім і рускім матэрыяле), па тэорыі моўных кантактаў і польска-беларускалітоўскага этнакультурнага памежжа. Сярод іх вызначаюцца “Słownictwo z zakresu uprawy roli w gwarach wschodniej Białostocczyzny na tle wschodniosłowiańskim” (1968), “Studia nad akcentem języka białoruskiego. Rzeczownik” (1978), “Fonetyka i fonologia języka białoruskiego z elementami fonologii ogólnej” (у сааўтарстве з В. Чэкманам) (1988), “Слоўнік беларускіх гаворак паўночна-заходняй Беларусі і яе пагранічча” (Т. 1–5, 1979–1986, у сааўтарстве), “Słownik nazw terenowych północno-wschodniej Polski” (T. 1–3, 1992–1995, у сааўтарстве). Яе працы друкаваліся ў розных краінах, у тым ліку

ў Беларусі. Пад кіраўніцтвам праф. Смулковай абаронена 6 кандыдацкіх дысертацый.

Акрамя пасад, звязаных з навуковай дзейнасцю, асабліва вызначаецца выкананне Э. Смулковай ў 1991–1995 гг. абавязкаў спачатку Генеральнага консула, а потым першага ў гісторыі беларуска-польскіх міжнародных адносінаў Пасла Рэспублікі Польшча ў Рэспубліцы Беларусь. На гэтай пасадзе Э. Смулкова прыклала шмат намаганняў для ўстанаўлення партнёрскіх узаемаадносін паміж абедзвюма краінамі, асабліва ў сферы навукі і культуры. У бытнасць яе на гэтай пасадзе быў падпісаны беларуска-польскі Дагавор аб прыязні і добрасуседскім супрацоўніцтве, іншыя важныя дакументы.

За сваю навуковую і грамадскую працу Э. Смулкова была ўзнагароджана адзнакамі міністра навукі і школьнай адукацыі Польшчы — двойчы III ступені за індывідуальныя і двойчы II ступені за сааўтарскія навуковыя праекты і дасягненні; сярэбраным і залатым знакамі “Заслужанага для Беласточчыны”; залатым крыжам заслуг (1975); Камандорыяй і зоркай ордэна Святога Ежага (1994); залатым медалём “Апекуна месцаў народнай памяці” (1995).

Прафесар Эльжбета Смулкова — руплівы папулярызатар беларускай культуры ў Польшчы і польскай культуры ў Беларусі, ініцыятар сумесных даследаванняў, культурных мерапрыемстваў, настаўнік паланістаў і беларусістаў. Адначасова яна захапляецца тэатрам, любіць прыгажосць горных краявідаў, чулы, уважлівы і адказны ахоўнік згоды не толькі суседніх народаў, нацыянальных меншасцей па абодва бакі польска-беларускай мяжы, але і згоды ва ўласнай сям’і і доме на ціхай вулачцы Данілоўскага ў Варшаве.

***Інэса Кур’ян***

## СТАНКЕВІЧ АЛЯКСАНДРА



**Станкевіч Аляксандра Аляксандраўна** (25.12.1946, в. Вялікія Тупалы Навагрудскага р-на Гродзенскай вобл.), мовазнавец, доктар філалагічных навук (1997), прафесар (2000).

Нарадзілася А. Станкевіч у сялянскай сям’і. У 1963 г. скончыла з сярэбраным медалём Навагрудскую сярэднюю школу № 3. У тым жа годзе паступіла на філалагічны факультэт Томскага дзяржаўнага універсітэта, які з адзнакай закончыла ў 1968 г. Свой працоўны шлях пачала ў 1968 г. асістэнтам кафедры літаратуры Мазырскага дзяржаўнага педінстытута. З 1969 г. працуе ў Гомельскім дзяржаўным

універсітэце імя Ф. Скарыны — спачатку асістэнтам кафедры беларускай і рускай моваў, а пасля датэрміновага заканчэння аспірантуры і абароны кандыдацкай дысертацыі — выкладчыкам, старшым выкладчыкам, дацэнтам, а з 1991 г. — загадчыкам кафедры беларускай мовы. Кандыдацкую дысертацыю на тэму "Лексіка грэчаскага і лацінскага паходжання ў сучаснай беларускай мове: фармальна-семантычнае засваенне" абараніла ў 1975 г., доктарскую дысертацыю "Лексіка іншамоўнага паходжання ў беларускіх народных гаворках" — у 1997 г.

А. Станкевіч плённа займаецца навукова-даследчай работай. Яе навуковыя зацікаўленні звязаны з праблемамі сучаснай і гістарычнай лексікалогіі літаратурнай і народна-дыялектнай мовы, пытаннямі стылістыкі і культуры маўлення, методыкі выкладання лінгвістычных дысцыплін у ВНУ. Яна аўтар 110 публікацый, у тым ліку манаграфіі "Лексіка іншамоўнага паходжання ў беларускіх народных гаворках", падручніка і вучэбных дапаможнікаў з грыфам Міністэрства адукацыі — "Лацінская мова", "Зборнік практыкаванняў і тэкстаў па лацінскай мове", "Практыкаванні па лексіцы і стылістыцы" (у сааўтарстве), зборніка афарызмаў "Набожнае слова і антычная мудрасць крочаць побач", "Слоўніка мовы Янкі Купалы" (т. 1–2, у сааўтарстве), шматлікіх артыкулаў, апублікаваных як у рэспубліканскіх навуковых зборніках і часопісах, так і замежных выданнях — "Baltistica", "Kalbotyra" (Вільнюс), "Slavia Orientalis" (Варшава), "Запісы" (Нью-Йорк). Падрыхтавала трох кандыдатаў філалагічных навук, кіруе аспірантурай па спецыяльнасці "беларуская мова". З'яўляецца вучоным сакратаром Савета па абароне кандыдацкіх дысертацый пры Гомельскім дзяржаўным універсітэце. Прымае актыўны удзел у навуковых мерапрыемствах Міжнароднай асацыяцыі беларусістаў.

***Канстанцін Усовіч*** *(Гомель)*

# Да сямідзесяцігоддзя з дня нараджэння Уладзіміра Караткевіча




Па беларускай зямлі і па сумежных краінах прайшоў юбілей выдатнага беларускага пісьменніка. На радзіме Уладзіміра Караткевіча, у Оршы, адкрыўся яго музей, дзе шырока прадстаўлены жыццёвы і творчы шлях аўтара “Каласоў пад сярпом тваім”, яго арганічная повязь з культурамі іншых народаў.

Міжнародная асацыяцыя беларусістаў сумесна з Нацыянальным навукова-асветным цэнтрам імя Ф. Скарыны, аддзелам культуры Аршанскага гарвыканкама пры дапамозе Польскага інстытута ў Мінску выдала да юбілею навуковы зборнік “Уладзімір Караткевіч і яго творчасць у еўрапейскім культурным кантэксце” (Беларусіка = Albaruthenica. Кн. 16). У яго ўвайшлі матэрыялы Міжнароднай навуковай канферэнцыі “Уладзімір Караткевіч у братніх культурах”, якая была арганізавана МАБ колькі год назад у Оршы. У раздзеле “Беларускае і агульначалавечае ў спадчыне Уладзіміра Караткевіча” сабраны артыкулы на гэтую тэму беларускіх аўтараў, беларусістаў з Балгарыі (Сімяон Уладзіміраў), Вялікабрытаніі (Арнольд Мак-Мілін), Літвы (Андрэй Чэмер), Польшчы (Мікалай Гайдук), Расіі (Мікалай Улашчык), Славакіі (Гелена Крыжанава-Брындзава), Украіны (Мікалай Амельчанка, Раман Іванычук). Пад агульным загалоўкам “Разнамоўны вянок паэту” аб‘яднаны тэксты на англійскай, нямецкай, польскай, рускай, славацкай, украінскай, французскай, чэшскай мовах, што сведчаць аб шырокім прызнанні творчасці пісьменніка ў Еўропе. У зборніку змешчаны тры публікацыі з “Хатняга архіва пісьменніка”. Кніга ўпрыгожана малюнкамі самога Уладзіміра Караткевіча.

Урачыстасці, прысвечаныя юбілею беларускага класіка, адбыліся таксама ў Расіі і Літве. У Цэнтральным Доме літаратара (Масква) адбыўся вялікі вечар, на якім выступілі пісьменнікі Алесь Кажадуб, Іван Карэнда, Адам Мальдзіс, гучалі вершы і песні на словы паэта. Арганізавала вечарыну беларускае пасольства ў Маскве і аўтаномія “Беларусы Масквы”. Беларусісты Альма Лавпінскене і Леакадзія Мілаш паведамляюць з Вільнюса, што дзень нараджэння шчырага сябра літоўскай літаратуры быў ушанаваны там вечарам у Таварыстве беларускай культуры. Вучні вільнюскай школы імя Ф. Скарыны падрыхтавалі да яго свае малюнкі. У замежных выданнях (“Известия”) з’явіліся грунтоўныя юбілейныя публікацыі.

***Аглядальнік***

# РЭЦЭНЗУЕМ КНІГІ



## MICHA£ JAGIE££O. PARTNERSTWO DLA PRZYSZ£OŒCI. SZKICE O POLITYCE WSCHODNIEJ I MNIEJSZOŒCIACH NARODOWYCH.
WARSZAWA, 2000. 489 s.

Значная частка беларускай інтэлігенцыі з боллю ўспрыняла нядаўнюю вестку пра смерць рэдактара парыжскай “Kultury” Ежага Гедройца. Ураджэнец Мінска, ён быў паслядоўным абаронцам беларусаў ад негатыўных праяў (часцей за ўсё заснаваных на элементарным няведанні) з боку прадстаўнікоў польскай і французскай інтэлектуальнай эліты. Даказваў наша права на гістарычнае быццё, на ўласную дзяржаўнасць. Памятаецца яго сумны позірк, нібы развітальны, амаль год назад: ну як жа вы там, ці вытрываеце?

І вось, аказваецца, кінутае ў раллю зерне ўзрастае, часам зусім нечакана. Я некалькі разоў бачыўся і ў Польшчы, і ў Беларусі з Міхалам Ягелам, раней на меснікам міністра культуры і мастацтва Польшчы. Ён разважліва ставіўся да патрэб беларусаў, часцей за ўсё задавальняў іх (згадваецца дапамога Музею Адама Міцкевіча ў Навагрудку). Але тады я не ведаў, што Міхал Ягела яшчэ і пісьменнік, аўтар некалькіх раманаў і аповесцей, што ён яшчэ і альпініст, удзельнік многіх выратавальных акцый у Татрах, што ён яшчэ і вучоны, даследчык, які аб‘ектыўна і з сімпатыяй ставіцца да Беларусі. Пра ўсё гэта сказана на апошняй старонцы яго новай кнігі “Партнёрства дзеля будучыні: Нарысы пра ўсходнюю палітыку і нацыянальныя меншасці”, якую М. Ягела выдаў ужо будучы дырэктарам Нацыянальнай бібліятэкі ў Варшаве — той самай, дзе мне калісьці пашчасціла пасядзець над рукапісамі і кнігамі не адзін тыдзень. Усё гэта вынікае з самой кнігі. Дарэчы, прэзентацыя яе нядаўна адбылася з удзелам аўтара там, дзе ёй і належала адбыцца, — у Нацыянальнай бібліятэцы Беларусі.

Тры раздзелы кнігі прысвечаны Беларусі. Яны вельмі асабістыя, заснаваныя на ўражаннях ад паездак у Беларусь і на Беласточчыну, ад прачытаных кніжак. У раздзелах многа цытат, якія даказваюць пераважна тое ж, што раней даказваў і Гедройц, — права беларусаў быць беларусамі.

Раздзел “Пазнаванне беларусаў” пачынаецца разлічанымі на згоду або і нязгоду радкамі, якія абгрунтоўваюць усю далейшую гаворку: “Нямнога мы ведаем пра Беларусь і беларусаў — нягледзячы на многія стагоддзі супольнай гісторыі і адсутнасць моўных і культурных бар’ераў. Беларусы ў польскай свядомасці прысутнічаюць, але нібы іх і не было. Нацыя, не да канца вызначаная, дзяржава, якой практычна ніколі не было, а і сённяшняя яе суверэннасць не трактуецца занадта сур‘ёзна. Беларусы недастаткова вылучаюцца і не выклікаюць




у палякаў такіх моцных эмоцый, як украінцы, не ўжываецца таксама ў дачыненні да іх вызначэнне "браты-беларусы", якім злоўжываюць у дачыненні да літоўцаў, зрэшты без узаемнасці, бо ў Літве ніхто не кажа "браты-палякі" (стар. 72).

А далей аўтар, сягаючы па аргументы аж з часоў Уладзіслава Ягайлы (хто ведае, можа і продка), аргументавана палемізуе з тымі суайчыннікамі, якія па-ранейшаму жадаюць "трактаваць Літву і Беларусь як польскую ўласнасць, перацятую дзяржаўнымі межамі", якія абураюцца, калі "беларусы асмельваюцца гаварыць пра некаторых польскіх творцаў як пра сваіх". Таму што "праменяванне на Беларусь" касцюшкаўскіх, міцкевічаўскіх ці манюшкаўскіх традыцый аніяк не збядняе польскую духоўную скарбонку — хутчэй наадварот.

Абапіраючыся на працы беларускіх і польскіх даследчыкаў і пісьменнікаў Пятра Врубля, Сакрата Яновіча, Яўгена Мірановіча, Юрыя Туронка, Рышарда Радзіка і інш., Міхал Ягела паслядоўна разглядае этапы развіцця беларускай гісторыі, уважлівей спыняючыся на некаторых вузлавых або цьмяных момантах (да прыкладу, на дзейнасці Вацлава Іваноўскага). Пры гэтым часта выказваецца і свой погляд на падзеі.

Іншая танальнасць у раздзеле "Дзве Беларусі". Ён заснаваны пераважна на асабістых ўражаннях ад сустрэч у Беларусі (шлях у Мінск раней вёў праз… Маскву) і на Беласточчыне. Над вучоным тут бярэ верх пісьменнік, лагічныя разважанні змяняюцца эмацыянальнымі характарыстыкамі. Вобразна і адначасова доказна аўтар разбурае традыцыйныя стэрэатыпы, якія множацца з абодвух бакоў: калі паляк, то пан, калі каталік, то абавязкова паляк і гэтак далей.

Хаця Міхал Ягела гаворыць пра многія справы, сумныя для Беларусі, усё ж высновы яго аптымістычныя. Паважаць гістарычныя правы беларусаў — трэба! Дапамагаць беларусам на Беласточчыне — варта! Услед за польскім пісьменнікам Тадэвушам Канвіцкім, які называў Беларусь Дабрарусcю, аўтар верыць, што "ёсць надзея для Беларусі. Гэтай надзеяй з'яўляецца наша супольная беларуска-польская праца над далучэннем нашага суседа да еўрапейскай тоеснасці". (с. 156).

І адначасова "надзея Беларусі" з'яўляецца "шанцам для Польшчы".

***Адам Мальдзіс**, доктар філалагічных навук*

*Зняць 2 радкі !*










## KJELL ALBIN ABRAHAMSON. VITRYSSLAND: 89 MILLIMETER FRAN EUROPA. STOCKHOLM, 1999. 239 p.

У 1999 г. у стакгольмскім выдавецтве "Фішэр" выйшла кніга аднаго з самых папулярных на шведскім радыё, ды і не толькі на радыё, журналіста Ш'еля Альбіна Абрахамсана "Беларусь: 89 міліметраў да Еўропы". Назва загадкавая. І толькі прачытаўшы кнігу, я знайшоў яе тлумачэнне: 89 міліметраў — гэта розніца ў шырыні чыгуначнай каляі, і шырыня гэтая змяняецца на беларуска-польскай мяжы, у Брэсце. Перад намі — ужо пятая кніга Ш'еля Альбіна Абрахамсана пра краіны Усходняй Еўропы, дзе ён доўга працаваў карэспандэнтам (раней выйшлі кнігі "Ад вялікай дзяржавы да Біг-Мака" (1991), "Тое-сёе пра Чэхію і Славакію" (1994), "Балканы — гэта значыць "гара" (1995), "Польшча — дыямант у попеле" (1997). І вось нарэшце кніга пра нашу Беларусь. Яна напісана ў жанры дарожных нататкаў, зробленых аўтарам у час яго шматлікіх падарожжаў па Беларусі і праз Беларусь. Акрамя двух раздзелаў, дзе папулярна расказваецца пра гісторыю Беларусі і гістарычныя перакрыжаванні ў лёсах Беларусі і Швецыі, а таксама сумна сцвярджаецца, што, на жаль, ніхто і ніколі ў Швецыі Беларусь навукова не вывучаў і не папулярызаваў, аўтар — у наступныхраздзелах — распавядае пра жыццё простых жыхароў нашай краіны, прыводзячы шмат сваіх асабістых дыялогаў з імі (у Мінску, Брэсце, Магілёве, Пінску, Гродне і іншых гарадах). Апошні раздзел называецца "Беласток — цэнтр дыяспары".

У кнізе амаль нічога няма пра "вялікую" палітыку. Яна — пра жыццё простых, "сярэдніх" жыхароў як сталіцы, гэтак і правінцыі. Яе мэта — пазнаёміць шведаў з жыццём і паўсядзённымі клопатамі нас з вамі, 10 мільёнаў беларусаў, краіну якіх яго суайчыннікі наведваюць вельмі рэдка.

Пан Ш'ель Альбін Абрахамсан цудоўна разумее і нават няблага размаўляе па-беларуску, што самае галоўнае, у яго ёсць талент пісаць простай шведскай мовай пра ўдала выбраныя і характэрныя з'явы ў жыцці простых жыхароў іншых краін. Я мяркую, што швед, які прачытае гэтую кнігу, не толькі не скажа, што ён не ведае слова "Беларусь" (такое часам здараецца на Захадзе), але атрымае, няхай і сціслую, але праўдзівую інфармацыю пра жыццё нашага народа канца 90-х гадоў.

Пажадаем жа сумленнаму журналісту, якога ў Швецыі называюць "паэтам, пераапранутым у рэпарцёра" (бо ён і вершы піша), і сапраўднаму майстру папулярнага жанра яшчэ не раз пра нас напісаць.

***Юрась Жалезка**, выкладчык, перакладчык.*




## СЛАВУТЫЯ ІМЁНЫ БАЦЬКАЎШЧЫНЫ.
Мн., 2000. Вып. 1. 382 с.

У 1997 г. пад эгідай ЮНЕСКО адбылася Міжнародная навуковая канферэнцыя “Рэстытуцыя культурных каштоўнасцей: праблемы вяртання і сумеснага выкарыстання (юрыдычныя, навуковыя і маральныя аспекты)”, якую арганізаваў Нацыянальны навукова-асветны Цэнтр імя Ф. Скарыны (дарэчы, яе матэрыялы былі ў тым жа годзе і пад той жа назвай выдадзены). У час гэтай канферэнцыі украінскія калегі Аляксандр Федарук і Валянціна Врублеўская расказалі пра тое, як да іх вяртаюцца не толькі матэрыяльныя каштоўнасці, але і імёны — цэлая праграма пад назвай “Вернутая імёны” накіравана на ўзнаўленне гістарычнай памяці народа. Гэта і кніжкі, і выстаўкі, і цэлыя музеі, прысвечаныя пераважна дзеячам украінскай эміграцыі XX ст. (раней іх творчасць была забаронена па палітычных прычынах).

Беларускім навукоўцам, кіраўніцтву Беларускага фонда культуры ідэя “вяртання імёнаў” спадабалася. Але тут жа ўзніклі пытанні: чаму толькі эміграцыя і чаму толькі XX ст.?! Забытыя ж або малавядомыя многія імёны дзеячаў навукі, культуры, асветы самых розных часоў... Так нарадзілася праграма “Славутыя імёны Бацькаўшчыны”, кіраваць якой узяўся вядомы гісторык Анатоль Грыцкевіч. У навуковы калектыў, апрача яго самога, увайшлі Георгі Галенчанка, Вольга Гапоненка, Аляксандр Жлутка, Генадзь і Уладзімір Кісялёвы , Васіль Кушнер, Адам Мальдзіс, Язэп Янушкевіч і іншыя. Аўтары згуртаваліся вакол Беларускага фонда культуры, а заказ ім фінансаваўся (праз Міністэрства культуры) Дзяржаўным камітэтам па навуцы і тэхналогіях.

І вось з’явіўся першы выпуск калектыўнага даследавання “Славутыя імёны Бацькаўшчыны” У яго увайшлі 33 міні-манаграфіі не толькі пра вучоных, пісьменнікаў, палітычных, грамадскіх, ваенных дзеячаў. Храналагічна гэта — ад XII да XIX ст., ад Ефрасінні Полацкай — да Францішка Багушэвіча. Побач з вядомымі імёнамі (Сымон Будны, Леў Сапега, Вінцэнт Дунін-Марцінкевіч) сустракаюцца і малавядомыя, забытыя (Іван Яркоўскі, Жыгімонт Флярэнт Урублеўскі, Эдвард Адам Вайніловіч і іншыя). Многія з нашых суайчыннікаў працавалі на карысць іншых краін і народаў (Зыгмунт Мінейка — Грэцыі, Ігнат Дамейка — Чылі, Мікалай Судзілоўскі — ЗША і Гавайскі астравоў).

Першым выпускам задума, натуральна, не абмяжуецца. У спісе славутых імёнаў Бацькаўшчыны, апублікаваным у 1998 і 1999 гг. у “Культуры”, названа

каля 220 імёнаў. Значыць, наперадзе — прынамсі серыя з дзесяці кніжак. А гэта ўжо будзе сапраўдны кніжны патэон лепшым сынам і дочкам Беларусі. Будзе канкрэтны подступ да “Беларуксага біяграфічнага слоўніка”, выданне якога (па прыкладу суседзяў) ужо даўно наспела.

***Тамара Шкурко**, супрацоўніца Цэнтра імя Ф. Скарыны*

## ЛЕАКАДЗІЯ МІЛАШ. ТАВАРЫСТВА БЕЛАРУСКАЙ КУЛЬТУРЫ Ў ЛІТВЕ. ПРА ЎСЁ СКАЗАЦЬ ПРЫЙШЛА ПАРА... ВІЛЬНЯ. 2000. 115 с.

Выйшла ў свет чарговая кніга актыўнага сябра Таварыства беларускай культуры ў Літве, выкладчыцы віленскай Беларускай гімназіі імя Ф. Скарыны Леакадзіі Мілаш. Яна займаецца гісторыяй беларускага этнасу ў Літве, даследаваннямі беларускай мовы і літаратуры. Ідэя напісаць кнігу пра дзейнасць ТБК узнікла ў яе ў сувязі з тым, што ў 1999 г. яно адзначыла сваё дзесяцігоддзе. Час ідзе хутка, адыходзяць у іншы свет людзі, якія стаялі ля вытокаў беларускага адраджэння ў Літве і да апошніх дзён былі актыўнымі членамі ТБК — Лявон Луцкевіч, Лявон Кароль, Юры Луцкевіч, Зоя Коўш. Тое, што зроблена ў Літве па адраджэнню беларускай культуры, звязвана ў асноўным з дзейнасцю ТБК.

Асобныя раздзелы кнігі прысвечаны адраджэнцам беларускага жыцця ў Вільні. Першы з іх — Лявон Луцкевіч, які паходзіў са славутага роду Луцкевічаў, што пакінулі адметны след у гісторыі Беларусі. Ён аўтар шматлікіх артыкулаў у літоўскім, польскім і беларускім друку, узначальваў рэдакцыйную раду старонкі “Беларус Віленшчыны” у газетах “Эхо Литвы” і “Kurier Wileński”. У 1989 г. стаў аўтарам і вядучым перадач “Беларускае слова на хвалях літоўскага радыё”, прымаў актыўны ўдзел у стварэнні першых беларускіх суполак “Сябрына” і ТБК. Шмат добрых слоў сказана ў кнізе пра Хведара Нюньку, Міколу Рулінскага, Кастуся Шышэя, Яраслава Станкевіча. Гэтыя людзі — прыклад для адукацыі моладзі.




У кнізе прыведзены шматлікія дакументы, запісы з дзеннікаў, фотаздымкі, пералічаны звесткі і факты, даты падзей. Усё гэта стварае гісторыю беларускага жыцця ў Літве.

***Алеся Белавусава**, супрацоўніца Цэнтра імя Ф. Скарыны*

## **ПОГОВОРИМ НА АЗЕРИ.** Минск, 1999. 108 с.

З лёсам азербайджанскай дыяспары ў Беларусі знаёмяць чытача старонкі кнігі “Пагаварым на азеры” (складальнікі Ганад Чарказян, Кахім Мірзалі-задэ). Рознымі шляхамі прыйшлі ў Беларусь прадстаўнікі дыяспары: адных прывяла сюды Вялікая Айчынная вайна, іншых — размеркаванне пасля заканчэння саюзных вышэйшых навучальных устаноў. Палюбіўшы Беларусь, яго талерантны народ, азербайджанцы засталіся тут назаўсёды. Сярод іх ёсць таленавітыя мастакі і паэты, чэмпіёны Еўропы і свету, знакамітыя архітэктары, урачы, юрысты, прадпрымальнікі. Сваёй працай яны ўзнімаюць прэстыж новай радзімы, узбагачаюць яе побыт і культуру. Гэта папулярны мастак Каміла Камал, мінскі архітэктар Лія Каджар, паэт Ганад Чарказян, доктар тэхнічных навук Рауф Садыхаў, пісьменнік Цімур Зульфіпараў, алімпійскі чэмпіён па грэка-рымскай барацьбе Камандар Маджыдаў, неаднаразовы чэмпіён Еўропы і свету па дзюдо і самба Націк Багіраў і многія іншыя.

У Беларусі дзейнічае азербайджанскае таварыства “Габустан”, створанае ў Мінску ў 1989 г. “Габустан”. Прэзідэнтам яго з’яўляецца Націк Багіраў. “Габустан” актыўна супрацоўнічае з Міністэрствам культуры Беларусі, Дзяржкамітэтам па справах нацыянальнасцей і рэлігій. Яго мэта — захаваць азербайджанскія традыцыі, звычаі, побыт, мову, культуру, аб’яднаць вакол сябе ўсіх землякоў, якія жывуць у Беларусі. Дзякуючы таварыству азербайджанцы не губляюць сувязі з Радзімай, прымаюць удзел у розных святах, фестывалях, дабрачынных канцэртах. І, нарэшце, яно працягвае руку дапамогі людзям, трапілі ў бяду. У азербайджанскай дыяспары многа сяброў-беларусаў. Сярод іх — знакаміты беларускі паэт Рыгор Барадулін, у якога даўнія сувязі з Азербайджанам.

З кнігі чытачы даведаюцца пра асаблівасці азербайджанскай нацыянальнай кухні, майстроў “кухонных” спраў. Яны нібы адчуваюць смак азербайджанскага плова, шашлыкоў, усходніх прысмакаў.




Будзем спадзявацца, што людзі, якія пакінулі Радзіму па сваёй ці па чужой волі, не будуць адчуваць сябе “сіротамі ў Сусвеце”, што ім у Беларусі будзе ўтульна і што яны будуць жыць з упэўненасцю ў заўтрашнім дні.

*Марыя Плакса, супрацоўніца Цэнтра імя Ф. Скарыны*



## МІЖНАРОДНЫЯ КНІГАЗНАУЧЫЯ ЧЫТАННІ

Ужо стала добрай традыцыяй у дзень нараджэння Нацыянальнай бібліятэкі Беларусі — 15 верасня — праводзіць Кнігазнаўчыя чытанні, на якіх разглядаюцца тэарэтычныя праблемы кнігазнаўства, пытанні гісторыі кнігі, друкарняў і кнігазбораў, паведамляецца пра асобныя калекцыі, унікальныя рукапісы і старадрукі.

15–16 верасня бягучага года адбыліся ўжо Другія Кнігазнаўчыя чытанні. Яны былі прысвечаны кніжнай культуры Рэчы Паспалітай — дзяржавы, у якую пасля Люблінскай уніі 1569 г. уваходзілі Вялікае Княства Літоўскае і Польшча. Тэма чытанняў была ініцыявана Двухбаковай беларуска-польскай кансультацыйнай камісіяй па справах гісторыка-культурнай спадчыны, якая ўжо шмат гадоў працуе пры Дзяржаўным камітэце па ахове гісторыка-культурнай спадчыны. У чытаннях прынялі ўдзел спецыялісты — бібліятэкары, архівісты, навукоўцы з Беларусі, Польшчы, Літвы.

Чытанні адкрыла дырэктар бібліятэкі Г. Алейнік. З прывітальнымі словамі выступілі намеснік Міністра культуры Рэспублікі Беларусь В. Гедройц і старшыня Дзяржаўнага камітэта па ахове гісторыка-культурнай спадчыны Д. Бубноўскі.

Надзвычай глыбокімі і змястоўнымі былі выступленні дацэнта Беларускага універсітэта культуры В. Саітавай (Мінск) аб бібліяграфічных крыніцах інфармацыі перыяду Рэчы Паспалітай пра землі Беларусі, доктара гістарычных навук Г. Галенчанкі (Мінск) пра літаратурнае мецэнацтва магнатаў Беларусі і Літвы XVI – першай паловы XVII ст., доктара мастацтвазнаўства Н. Высоцкай (Мінск) “Гравюры ў кірылічных і лацінскіх кнігах як арыгіналы беларускага іканапісу XVI–XVIII стст.” Праблемы вывучэння кніжнай прадукцыі ВКЛ XVI ст. і стварэння бібліяграфічнага рэпертуара беларускіх старадрукаў былі ўзняты ў паведамленнях доктарра Ю. Тумяліса (Вільнюс) і Г. Кірэевай (Мінск).

Праблеме вывучэння дзейнасці Ф. Скарыны ў Польшчы ў 1921–1941 гг. прысвяціў сваё выступленне кандыдат гістарычных навук М. Батвіннік (Мінск). Доктар А. Краўчык (Люблін) разгледзеў пытанне адлюстравання навуковай спадчыны і дасягненняў вучоных XVIII ст. у падручніках Кіеўскай акадэміі таго часу.

Шэраг цікавых паведамленняў быў зроблены па гісторыі бібліятэчнай справы, гісторыі асобных кнігазбораў і калекцый. Доктар З. Ярашэвіч-Пераслаўцаў (Ольштын) паведаміла аб кірылічных кнігах XVI–XVII стст. з друкарняў ВКЛ

у зборах варшаўскіх бібліятэк. Гісторыі кляштарных кнігазбораў на тэрыторыі ВКЛ былі прысвечаны выступленні доктара І. Гвёздзік (Катавіцэ), Н. Раманавай (Мінск), доктара М. Підлыпчак-Маяровіч (Вроцлаў), В. Шоцік (Гродна), доктара І. Пятшкевіч (Кракаў). З цікавасцю былі ўспрыняты паведамленні па гісторыі прыватных калекцый доктарра Э. Ружыцкага (Катавіцэ), Л. Коўкель (Кракаў), А. Стэфановіча (Мінск). Уважліва слухалі прысутныя Л. Станкевіч (Мінск), якая выступіла з падрабязным апісаннем помніка стараабрадніцкай кніжнасці XIX ст. з фонда Нацыянальнай бібліятэкі Беларусі — “Скрутка Паморскага”.

Другі дзень Кнігазнаўчых чытанняў пачаўся цікавым выступленнем В. Герасімава (Мінск) “Кніга і бібліятэка як чыннікі функцыянавання дзяржаўнага механізма ВКЛ”. Доктар філалагічных навук А. Мальдзіс (Мінск) паведаміў пра загадкавыя выданні Беларусі XVIII ст. Ён таксама перадаў Нацыянальнай бібліятэцы Беларусі сваю картатэку беларускіх выданняў XVIII ст. — вынік шматгадовай працы — для выкарыстання пры складанні Зводнага каталога выданняў ВКЛ лацінскім шрыфтам XVI–XVIII стст. Кандыдат філалагічных навук Н. Паляшчук (Мінск) дала характарыстыку “Трыбуналу” як помніку гісторыі і культуры Беларусі.

Наступны блок выступленняў быў прысвечаны гісторыі кнігадрукавання. Кандыдатам філалагічных навук І. Клімавым была разгледжана кнігавыдавецкая дзейнасць В. Цяпінскага, Т. Рошчынай (Мінск) — выдавецкая дзейнасць пінскіх езуітаў XVIII ст., Л. Доўнар (Мінск) — кнігавыдавецкія сувязі Мінска і Варшавы ў канцы XVIII – пачатку XX ст. З. Яцкевіч (Мінск) прадставіў радавод магілёўскіх друкароў Вашчанкаў. Па-за праграмай выступіў супрацоўнік Музея старажытнабеларускай культуры А. Ярашэвіч, які паведаміў новыя цікавыя факты пра дзейнасць вядомага беларускага мастака-гравёра А. Тарасевіча.

У заключнай дыскусіі былі абмеркаваны некаторыя спрэчныя праблемы, дадзены адказы на пытанні. Удзельнікі адзначылі высокі навуковы ўзровень Кнігазнаўчых чытанняў.

***Тацяна Рошчына****, заг. аддзела рукапісаў, рэдкай кнігі і старадрукаў Нацыянальнай бібліятэкі Беларусі*

## ПРА ДЗЕЙНАСЦЬ АНГЛА-БЕЛАРУСКАГА ТАВАРЫСТВА

Дарагія сябры!

Я рады паведаміць, што гадавы агульны сход таварыства адбыўся 23 верасня ў Беларускім рэлігійным і культурным цэнтры па адрасе 37 Холдэн Роўд, Лондан. Пасля сходу дэманстраваўся кароткі фільм, прысвечаны палітычным і лінгвістычным пытанням сучаснай Беларусі.

На працягу года Управа таварыства была занятая шэрагам новых ініцыятыў, накіраваных на ўздым рэйтынга таварыства і на паляпшэнне яго прадстаўніцтва

ў справах беларускай культуры. Пасля паспяховай кампаніі пашырэння сяброўства таварыства цяпер мае рэкордную колькасць сяброў — 56, большасць з Вялікабрытаніі, але вялікая колькасць асобаў далучылася з Беларусі і іншых краін. Новыя сябры працягваюць далучацца і ў наступным годзе мы спадзяемся павялічыць лік сяброў.

“Беларуская Хроніка” (Belarusian Chronicle) зараз стала галоўным выданнем для англамоўных белафілаў. Яна ўключае ўсебаковы агляд культурных, гістарычных, палітычных, спартыўных, кулінарных, дыпламатычных і рэлігійных пытанняў. У гэтым годзе мы распачалі падпісную кампанію на “Беларускую Хроніку”. Гэтая кампанія праходзіць вельмі паспяхова.

Выданне месячнага беларускага бюлетэня было важным крокам для таварыства ў справе пашырэння дакладнай інфармацыі пра падзеі ў Беларусі. Каманда сяброў і прыхільнікаў таварыства цяпер выдае кожны месяц высокаякасны бюлетэнь навінаў, і я хацеў бф падзякаваць усім удзельнікам за іх цяжкую працу. Мы дасягнулі поспеху ў пошуках рэальных падпісчыкаў, якія ўнеслі уплату за бюлетэнь, які становіцца галоўным англамоўным выданнем для тых, хто шукае інфармацыю пра падзеі ў Беларусі.

У нашых культурных мерапрыемствах шырока ўдзельнічалі сябры і прыхільнікі Таварыства. Мы здолелі забяспечыць даволі разнастайную праграму і спадзяемся ў будучым пашырыць кола нашай дзейнасці. Я б хацеў выказаць падзяку тым сябрам Таварыства, якія рыхтавалі гэтыя мерапрыемствы. Цеплыня і гасціннасць заўседы адзначаюцца нашымі гасцямі.

Мы таксама абмеркавалі фшансавыя справы Таварыства. Істотна, што Таварыства стала фінансава незалежным і мае неабходныя сродкі, каб працягваць сваю работу. Па гэтай прычыне і дзеля гаго, каб пачаць больш шырокі збор сродкаў, управа вырашыла, што сяброўскія складкі павінны павялічыцца з 1 верасня 2000 года. Новыя складкі будуць наступныя:

| | | |
|---|---|---|
| Звычайныя складкі для Вялікабрытаніі<br>і замежжа (выключючы Беларусь) | 10.00 | ангельскіх фунтаў |
| Пажыццёвае сяброўства | 100.00 | фунтаў |
| Карпаратыўнае сяброўства | 25.00 | фунтаў |
| Студэнцкае сяброўства | 6.50 | фунтаў |
| Для жыхароў Беларусі | | не вызначана. |

Карыстаючыся магчымасцю я б хацеў падзякаваць айцу Аляксандру Надсану, Беларускай каталіцкай місіі і Бібліятэцы імя Ф. Скарыны ў Лондане за іх шчодрую падтрымку і дазвол карыстацца памяшканнем і абсталяваннем.

***Ровэн Кастарс**, Старшыня*

# СТВОРАНА ПАЎНОЧНААМЕРЫКАНСКАЯ АСАЦЫЯЦЫЯ БЕЛАРУСІСТАЎ

12 лістапада ў горадзе Дэнверы (штат Каларада) адбыўся арганізацыйны сход Паўночнаамерыканскай асацыяцыі беларусістаў, на якім прысутнічалі аўтар гэтых радкоў, Паўліна Сурвіла (віцэ-прэзідэнт), Аліцыя Барута-Садкоўскі (сакратар-скарбнік), Пётра Касаты (рэдактар бюлетэня ПАБ і каардынатар будучай web-старонкі), сябры выканаўчай рады Зіна Гімпелевіч і Вітаўт Кіпель, а таксама некалькі іншых зацікаўленых асоб.

Былі абмеркаваны статут асацыяцыі, склад кіраўніцтва, яго абавязкі, памеры сяброўскіх складак і іншае.

Што да будучай дзейнасці, то мы абмеркавалі наступныя пункты.

Правядзенне пад эгідай ПАБ секцый і круглых сталоў, прысвечаных розным аспектам беларусазнаўства, на нацыянальных, міжнародных і рэгіянальных славістычных канферэнцыях.

Правядзенне канферэнцыі паўночнаамерыканскіх беларусістаў.

Арганізацыя выдання бюлетэня і часопіса.

Стварэнне на аснове сяброўскіх складак, а таксама падарункаў прыватных асоб і дабрачынных арганізацый, наступных фондаў:

а) прызавы фонд за “лепшую кнігу года ў галіне беларусістыкі”;

б) грантавы фонд для фінансавай дапамогі паўночнаамерыканскім даследчыкам, якія хочуць удзельнічаць у канферэнцыях, што праводзяцца ў Беларусі, або ў беларусазнаўчых канферэнцыях, што будуць праводзіцца ў іншых краінах;

в) фонд для запрашэння беларускіх навукоўцаў, пісьменнікаў, культурных і палітычных дзеячаў у ЗША і Канаду на канферэнцыі і ва універсітэты;

г) фонд стыпендый для паўночнаамерыканскіх студэнтаў і аспірантаў, якія займаюцца беларусістыкай.

Стварэнне ў Інтэрнэце англамоўнага “Belarusian Studies Resource Center” з лёгкадаступнымі матэрыяламі па беларускай гісторыі, мове, культуры, літаратуры, фальклору, палітыцы і г. д. Старонка будзе змяшчаць таксама бібліяграфію, прызначаную для выкладчыкаў і студэнтаў.

Выбары кіраўніцтва ПАБ і прыняцце статута асацыяцыі адбудуцца ў сярэдзіне снежня.

***Курт Вулхайзер***, *віцэ-прэзідэнт ГА “МАБ”*
*cfwoolhiser@mail.utexas.edu*

# CONTENTS



Падпісана ў друк 21.10.2000. Папера афсетная. Друк афсетны.
Фармат 60х90 1/16. Умоўн. друк. арк. 4. Ул.-выд. арк. 4,6.
Тыраж 299 экз. Заказ № 191.
Надрукавана з дыяпазітываў рэдакцыі ТАА "Юніпол".
Ліцэнзія ЛП № 210 ад 5.01.98 г. 220039, г. Мінск, вул. Караткевіча, 6.

Погляды аўтараў могуць не супадаць з поглядамі сяброў рэдкалегіі.

Правапіс аўтараў, якія карыстаюцца тарашкевіцай, рэдакцыя мусіць падаваць паводле сучаснага беларускага правапісу.
Для паскарэння работы над артыкуламі просім дасылаць іх па E-mail ці на дыскетах (пажадана ў фармаце MS Word 2.0-7.0)